

*Маці Божая і выбраныя святыя. Канец XVII ст.*
*Захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь..*

Ніл ГІЛЕВІЧ

## У мелодыях гукаў яе…

*Дзе мой Бог? Ён са мною. А храм?*
*Храм мой там, дзе святую Імшу*
*Правяць нашаю моваю, — там,*
*Там я лекую сэрца й душу.*

*З тысяч розных плямёнаў людскіх*
*Бог для мовы, якую любіў*
*Наймацней, можа быць, ад усіх —*
*Выбраў нас. Збаўца знаў, што рабіў.*

*Што ж за магія тоіцца ў ёй —*
*У мелодыях гукаў яе,*
*Што такою шчымлівай слязой*
*Узбягае на вейкі мае?*

*Нам не дадзена знаць таямніц,*
*Што вядомыя толькі Яму,*
*І чаму так мілосна шчыміць*
*У душы — я не знаю, чаму.*

2009, красавік



**У нумары 2/2016**

# НАША ВЕРА

# «ІМЯ БОГА — МІЛАСЭРНАСЦЬ»

## Урывак з кнігі-інтэрв'ю Андрэа Тарнеллі з папам Францішкам



Фрагмент карціны Рэмбрандта «Вяртанне марнатраўнага сына».

— Усім сэрцам і розумам мы павінны паразважаць над прыпавесцю пра марнатраўнага сына. Маладзейшы з двух братоў, які растраціў сваю частку спадчыны, жывучы распусна, быў вымушаны даглядаць свінняў, каб зарабіць на існаванне. Зразумеўшы сваю памылку, ён вярнуўся ў дом бацькі, каб спытаць, ці можа ён пажыць там, хаця б сярод слугаў. Бацька чакаў яго. Ён узіраўся ўдалеч і чакаў, калі яго сын вернецца, і наблізіўся да яго, перш чым той паспеў нешта сказаць, — яшчэ да таго, як ён вызнаў свае грахі, бацька схапіў яго ў абдымкі. Гэта любоў Божая. Гэта празмерная міласэрнасць. Вось над чым варта паразважаць — над пазіцыяй старэйшага сына, таго, які заставаўся дома і працаваў разам з бацькам і заўжды паводзіў сябе добра. Ён — адзіны чалавек, які гаворыць хоць нешта справядлівае: «Вось я столькі гадоў служу табе і ніколі не парушыў загаду твайго, але ты ніколі не даў мне нават казляняці, каб я павесяліўся з маімі сябрамі. А калі вярнуўся гэты сын твой, які змарнаваў тваю маёмасць з распусніцамі, ты зарэзаў для яго адкормленае цяля» (Лк 15, 29–30). Ён гаворыць праўду, але застаецца адчужаным і халодным.

*— Некалькі гадоў таму ў адной школе ў Паўночнай Італіі настаўніца рэлігіі, вывучаючы з дзецьмі прыпавесць пра марнатраўнага сына, пасля тлумачэнняў папрасіла іх напісаць сачыненне на гэтую тэму, паразважаўшы над гісторыяй, якую яны толькі што пачулі. Абсалютная большасць вучняў так інтэрпрэтавала заканчэнне прыпавесці: бацька прыняў марнатраўнага сына назад, сурова яго пакараў і прымусіў жыць разам са слугамі, каб той навучыўся не марнаваць сямейнага багацця.*

— Гэта вельмі ўласцівая чалавеку рэакцыя. Старэйшы сын з прыпавесці таксама рэагаваў па-чалавечы. Толькі міласэрнасць Бога — боская.

*— Як Вы ставіцеся да праблемы марнатраўнага сына з прыпавесці? Часам нават у Касцёле гучаць галасы: «Зашмат міласэрнасці! Касцёл павінен асуджаць грэх».*

— Касцёл асуджае грэх, таму што мусіць распаўсюджваць праўду: «Гэта грэх». Але адначасова Касцёл прымае ў свае абдымкі грэшніка, які прызнае сябе грэшным, шчыра вітае яго, гаворыць яму пра бясконцую Божую міласэрнасць. Езус прабачыў нават тым, хто прыбіў Яго да крыжа і адпрэчыў Яго. Мы павінны вярнуцца да Евангелля і тады ўбачым, што яно гаворыць не толькі пра тое, каб шчыра прыняць і прабачыць марнатраўнага сына, а каб весяліцца з прычыны яго вяртання. Праявамі міласэрнасці з'яўляюцца радасць і весялосць, і пра гэта добра сведчыць урывак з Евангелля паводле святога Лукі: «Кажу вам, што таксама на нябёсах больш радасці будзе з аднаго грэшніка, які пакаяўся, чым з дзевяноста дзевяці праведнікаў, якія не патрабуюць пакаяння» (Лк 15, 7). Евангелле не гаворыць: «А калі гэты чалавек ізноў пачне грашыць і вернецца на свой шлях, каб учыніць яшчэ больш грахоў, то гэта будуць ужо яго праблемы!». Наадварот, калі Пётр спытаўся, колькі разоў трэба прабачаць крыўдзіцелю, Езус адказаў, што прабачаць трэба нават не сем разоў, а семдзесят сем (гл. Мц 18, 22), а гэта значыць — заўжды. Старэйшы сын міласэрнага бацькі меў магчымасць выказаць сваё праўдзівае гледжанне, нават не разумеючы сітуацыі. Гэта таму, што як толькі малодшы брат пачаў каяцца, ён адразу вымушаны быў замаўчаць, бо айцец прыняў яго ў свае абдымкі. Менавіта таму, што ў свеце існуе грэх, менавіта таму, што нашая чалавечая натура параненая першародным грахом, Бог, які паслаў да нас свайго Сына, праявіў сваю міласэрнасць. Бог — уважлівы і поўны клопату Айцец, гатовы ласкава прыняць кожнага чалавека, які робіць крок або прынамсі выказвае жаданне зрабіць крок па шляху, што вядзе дадому. Ён стаіць, узіраючыся ўдалеч, і чакае нас. Ніводзін грэх чалавека, які б сур'ёзны ён ні быў, не можа пераўзысці ці абмежаваць міласэрнасць. Праслужыўшы некалькі гадоў біскупам у Віторыі Венеце, Альбіна Лучані (*будучы папа Ян Павел I. — Заўв. пер.*) праводзіў духоўныя практыкаванні для парафіяльных святароў. Каментуючы прыпавесць пра марнатраўнага сына, ён сказаў пра Айца: «Ён чакае. Заўжды. І ніколі не бывае запозна. Ён менавіта такі, гэта Яго ўласцівасць... Ён Айцец. Айцец, які стаіць на парозе, бачыць нас, калі мы яшчэ далёка, і, узрушаны, бяжыць нам насустрач, абдымае і пяшчотна цалуе... Наш грэх — як каштоўны камень, які мы дарым Яму, каб атрымаць суцяшэнне і прабачэнне... Дарыць каштоўныя падарункі — высакародна і варта, гэта не параза, а радасная перамога, калі мы дазваляем Богу перамагаць!».




Вокладка кнігі «Імя Бога — Міласэрнасць» на англійскай мове.

Для таго, каб ісці шляхамі Пана, Касцёл пакліканы пашыраць сваю міласэрнасць на ўсіх людзей, якія прызнаюць сябе грэшнікамі, бяруць на сябе адказнасць за зло, што яны ўчынілі, і адчуваюць патрэбу ў прабачэнні. Касцёл існуе не для таго, каб абвінавачваць людзей, а для таго, каб наблізіць іх сустрэчу з усёабдымнаю любоўю, што ўласцівая Божай міласэрнасці. Я часта паўтараю, што, каб гэта магло адбыцца, трэба выйсці вонкі: выйсці з касцёлаў і парафій, выйсці на вуліцу і шукаць людзей там, дзе яны жывуць, дзе яны пакутуюць і спадзяюцца. Мне падабаецца параўноўваць «Касцёл, які ідзе наперад», з палявым шпіталем; ён разгортваецца там, дзе адбываецца бітва. Гэта не салідная ўстанова з усім магчымым абсталяваннем, куды людзі прыходзяць з малымі і вялікімі хваробамі, каб атрымаць адпаведнае лячэнне. Гэта мабільная структура, якая прапаноўвае хуткую і неадкладную дапамогу і догляд, каб жаўнеры не памерлі. Гэта месца, дзе можна атрымаць тэрміновую дапамогу, а не сустрэцца са спецыялістам. Я спадзяюся, што Юбілейны год паслужыць таму, каб Касцёл адкрыў сябе з глыбокага мацярынскага і міласэрнага боку, каб Касцёл ішоў насустрач тым, хто паранены, каму неабходна, каб яго выслухалі, зразумелі, прабачылі і палюбілі.

Пераклад з англійскай мовы Юліі Шэдзько.
Паводле: «*The name of God is Mercy*», *London*, 2016.

# Адраджэнне Каталіцкага Касцёла ў Беларусі як дар Божай міласэрнасці (у кантэксце Гродзенскай дыяцэзіі)

## З даклада арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча на Нацыянальным эўхарыстычным кангрэсе, які адбыўся ў Гродне 24–26 мая 2016 г.

Год Надзвычайнага Юбілею Божай Міласэрнасці аднaчасова з'яўляецца годам сярэбранага юбілею адраджэння структураў Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, што 25 гадоў таму стала надзвычайным праяўленнем Божай міласэрнасці на выпаленай скварам атэізму і знішчанай духоўным Чарнобылем зямлі.

Пасля пераследу трох пакаленняў прыйшла доўгачаканая свабода веравызнання. У нашай краіне распачаўся працэс духоўнага адраджэння, у выніку чаго ў 1991 годзе была заснавана Мінска-Магілёўская мітраполія, у якую ўвайшлі аднайменная архідыяцэзія, наваствораная Гродзенская дыяцэзія і адроджаная Пінская дыяцэзія.

Хрысціянства на нашы землі прыйшло яшчэ напрыканцы X стагоддзя. Вядома, што ў 986 годзе ў Полацку былі заснаваныя царква і кляштар усходняга абраду св. Яна Хрысціцеля, а ў 1005 годзе ў Тураве быў заснаваны касцёл лацінскага абраду[1]. Такім чынам, як само хрысціянства, так і Каталіцкі Касцёл у нашай краіне існуюць ужо больш за тысячу гадоў.

Яго гісторыя няпростая. Гэта гісторыя росквіту і адначасова гісторыя жорсткіх ганенняў. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на пераследы веры ў царскія часы і часы атэістычнага рэжыму, які панаваў на ўсходзе Беларусі цэлыя тры пакаленні, а на захадзе – каля двух. Да гэтага таксама неабходна далучыць няпростую сітуацыю Касцёла падчас гітлераўскай акупацыі нашых земляў.

Часам здавалася, што Касцёл ужо ніколі не адродзіцца і ніколі на нашай зямлі не будзе абвяшчацца Евангелле, на вежах касцёлаў не зазвоняць званы, а дзеці не пазнаюць вечна жывой Божай праўды. Але тое, што немагчыма чалавеку, становіцца магчымым Богу, сведкамі і ўдзельнікамі чаго мы з'яўляемся.

Шлях да адраджэння быў доўгі і складаны. Сёння трэба дзякаваць бязмежнаму ў сваёй міласэрнасці Богу, які ў сваім неспасцігальным Провідзе вёў Касцёл у Беларусі шляхам адраджэння праз многія выпрабаванні. Трэба дзякаваць нешматлікім святарам, якія ў часы ганенняў «дваіліся» і «траіліся», каб толькі падтрымаць агеньчык веры ў людзях. Трэба дзякаваць нашым бацькам і дзядам, якія ўзялі на сябе цяжкі і складаны абавязак перадаваць веру маладому пакаленню ў простых малітвах, літаніях і хрысціянскіх традыцыях. Трэба згадзіцца са словамі святой памяці выдатнага тэолага і філосафа, Мітрапаліта Люблінскага арцыбіскупа Юзафа Жыцінскага, які падчас першага Сінода Біскупаў Еўропы ў 1991 годзе сказаў, што для захавання і перадачы веры больш зрабілі простыя бабулі, чым вучоныя тэолагі.

Гісторыя станаўлення і адраджэння Каталіцкага Касцёла ў Беларусі вельмі складаная. Як вядома, у XIII–XVIII стагоддзях Беларусь была часткаю Вялікага Княства Літоўскага, у якім у часы Рэчы Паспалітай былі дзве дыяцэзіі: Жмудская для рэгіёна Жмудзі і заснаваная ў 1388 годзе Віленская[2]. Гэта азначае, што ўжо ў XIV стагоддзі на нашых землях існавалі сталыя структуры Каталіцкага Касцёла, і менавіта з таго часу каталіцызм стаў актыўна распаўсюджвацца на нашай зямлі.

У 1773 г. імператрыца Кацярына II самавольна ўстанавіла Беларускае біскупства. Гэта быў не адпаведны нормам кананічнага права акт царскага ўраду Расіі. Пасля доўгіх дыпламатычных перамоваў папа Пій VI у 1783 г. зацвердзіў яго са статусам Магілёўскай дыяцэзіі. Першым яе ардынарыем стаў біскуп Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч. У 1798 годзе статус Магілёўскай дыяцэзіі быў падняты да ўзроўню архідыяцэзіі, а яе ардынарый стаў першым Магілёўскім Мітрапалітам з рэзідэнцыяй у Санкт-Пецярбургу, што само па сабе павышала статус Каталіцкага Касцёла ў Расійскай імперыі. Магілёўскаму Мітрапаліту падпарадкоўваліся ўсе католікі Расіі.

Асаблівай увагі заслугоўвае вельмі складаная гісторыя Мінскай дыяцэзіі, якая была засна-

вана папам Піем VI у 1798 годзе. Першым яе біскупам стаў вельмі энергічны Віленскі канонік Якуб Дадэрка, пад кіраўніцтвам якога дыяцэзія развівалася вельмі добра. Аднак яе лёс, таксама як і лёс Каталіцкага Касцёла ва ўсёй Беларусі, пачаў вельмі моцна змяняцца, прычым у горшы бок, пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе і паражэння паўстання Кастуся Каліноўскага ў 1863 годзе. Тады Касцёл спазнаў новы пераслед: зачыняліся касцёлы і кляштары, ліквідаваліся семінарыі і іншыя касцёльныя ўстановы. Каля трохсот святароў былі высланыя ў Сібір.

У 1868 годзе царскія ўлады без згоды Апостальскага Пасаду ліквідавалі Мінскую дыяцэзію, у выніку чаго мінскі Касцёл быў падпарадкаваны Віленскай дыяцэзіі, якую таксама не заўсёды ўзначальвалі біскупы[3].

Дзейнасць Мінскай дыяцэзіі была адноўленая толькі пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года. Яе ардынарыем стаў Слуга Божы біскуп Зыгмунт Лазінскі, які, аднак, у 1921 годзе з-за пераследу павінен быў пакінуць дыяцэзію.

У выніку Рыжскай мірнай дамовы 1921 года на ўсходзе Еўропы змяніліся межы дзяржаваў. Менавіта тады ў 1925 годзе Апостальскі Пасад заснаваў Пінскую дыяцэзію, тэрыторыя якой у той час належала Польшчы. Яе першым ардынарыем стаў вышэйзгаданы Слуга Божы біскуп Зыгмунт Лазінскі.

Палітыка камуністычных уладаў была прасякнутая духам нянавісці да рэлігіі, якая, паводле Карла Маркса, з'яўляецца «опіумам для народа». У выніку савецкая ўлада распачала нябачаныя дагэтуль ганенні на рэлігію і паступова разбурала структуры Каталіцкага Касцёла ў былым Савецкім Саюзе. У Мінску не было біскупа. Магілёўскі арцыбіскуп Ян Цепляк апынуўся на лаве падсудных на славутым працэсе над каталіцкім духавенствам у сумна вядомай маскоўскай Лубянцы і быў асуджаны на кару смерці. Толькі міжнародныя пратэсты ўратавалі яго жыццё. Смяротнае пакаранне было замененае на дзесяць гадоў вязніцы. Пазней ён быў высланы ў Польшчу.

Разам з ім быў асуджаны на смерць кс. Канстанцін Буткевіч, які быў расстраляны ў пасхальную ноч з 31 сакавіка на 1 красавіка 1923 года. Гэтым самым атэісты хацелі паказаць, што не ўваскрослы Хрыстус, а яны з'яўляюцца валадарамі свету.

З мэтаю, па магчымасці, падтрымаць жыццё Касцёла і яго пастырскую дзейнасць папа Пій XI у 1926 годзе падзяліў Магілёўскую архідыяцэзію на пяць апостальскіх адміністратураў: у Магілёве, Маскве, Ленінградзе, Харкаве і Казані, Самары і Сімбірску. Мінскім і Магілёўскім Апостальскім адміністратарам быў прызначаны біскуп Баляслаў Слосканс, які пасля шматлікіх арыштаў у 1933 годзе быў высланы ў Латвію.

Такім чынам, на пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя Каталіцкі Касцёл у Беларусі быў абезгалоўлены.

Важным у гісторыі каталіцызму ў Беларусі з'яўляецца 1939 год. У той час на далучаных да Беларусі заходніх тэрыторыях знаходзілася 446 касцёлаў і 14 кляштараў, працавалі 617 святароў[4]. З аднаго боку, гэта было якасна значнае ўзмацненне знішчанага савецкімі ўладамі Касцёла ў Беларусі. З іншага ж, і на гэтых тэрыторыях Касцёлу быў падрыхтаваны лёс пераследу. Прыкладам можа служыць гісторыя кардынала Казіміра Свёнтка. Будучы маладым святаром, ён у 1941 г. быў арыштаваны і асуджаны на смяротнае пакаранне, выканання якога чакаў у Брэсцкай вязніцы.

Падчас гітлераўскай акупацыі ў часы Другой сусветнай вайны ў некаторых раней ліквідаваных касцёлах распачаліся набажэнствы, як, напрыклад, у мінскай катэдры Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ці касцёле святых Сымона і Алены ў Мінску. Аднак у той жа час немцы арыштоўвалі святароў і нават расстрэльвалі іх. Прыкладам можа служыць трагічны лёс кс. Вінцэнта Гадлеўскага, якога немцы арыштавалі ў мінскім касцёле святых Сымона і Алены і ў вігілію Божага Нараджэння ў 1942 годзе расстралялі ў Трасцянцы пад Мінскам. Падобных прыкладаў можна назваць значна больш.

Пасля Другой сусветнай вайны частка Віленскай архідыяцэзіі, якая знаходзілася на тэрыторыі Беларусі, засталася без біскупа. Пераслед, які спазнаў Каталіцкі Касцёл на ўсходзе Беларусі яшчэ ў 30-я гады мінулага стагоддзя, стаўся яго лёсам і на захадзе краіны.

Людзей арыштоўвалі ні за што. Я быў малы, але добра памятаю арышты ў маёй роднай вёсцы Адэльск. Аднойчы ноччу арыштавалі сям'ю, якая жыла на нашай вуліцы і была, можа, крыху больш заможнай за іншых, і вывезлі ў Казахстан. Я прачнуўся, моцна перапалохаўся, не ведаю, чаму, але выскачыў праз акно і пабег да суседзяў, у якіх часта бываў і кампанаваў з іх дзецьмі. Нехта пачаў страляць у мой бок. Памятаю, які перапалох агарнуў усіх жыхароў вёскі. Усе пыталіся, хто наступны.

Да малога Адэльска таксама даходзілі чуткі пра арыштаваных святароў. У тыя часы нават была такая прыказка: «Дайце нам святара, а артыкул мы знойдзем».

Некаторыя святары выехалі ў Польшчу. Усё гэта азначае, што вернікі заставаліся без духоўнай апекі.

Такім чынам, у выніку распачатых яшчэ ў 20-я гады мінулага стагоддзя ганенняў, якія працягнуліся і пасля Другой сусветнай вайны, Каталіцкі Касцёл у Беларусі застаўся без біскупаў, а колькасць адчыненых касцёлаў і святароў з кожным днём катастрафічна змяншалася. Былі зачынены ўсе кляштары, у выніку чаго ў Магілёўскай і Гомельскай абласцях не засталося ніводнага дзейнага касцёла і ніводнага святара, які мог бы афіцыйна там служыць.

Часам нельга знайсці рацыянальнага вытлумачэння дзейнасці аслепленых атэістычнай ідэалогіяй уладаў. Бо калі ім не падабалася дзейнасць Касцёла і яны ліквідоўвалі і зачынялі касцёлы, перараблялі іх у клубы і фабрыкі, то нашто ж трэба было іх руйнаваць? Іх блізарукасць стала прычынай знішчэння шматлікіх помнікаў сакральнай архітэктуры.

Возьмем цэнтр Гродна. Насупраць бэрнардынскага касцёла Узвышэння Святога Крыжа знаходзіўся кляштар сясцёр бэрнардынак. Падчас Другой сусветнай вайны ён быў даволі моцна пашкоджаны. Аднак улады замест таго каб перадаць яго Касцёлу або нават самім адбудаваць, разбурылі яго. На яго месцы быў пабудаваны драматычны тэатр, архітэктура якога абсалютна не адпавядае стылю гродзенскай гістарычнай архітэктуры.

Насупраць катэдры св. Францішка Ксавэрыя знаходзіўся самы стары ў горадзе касцёл — фара Вітаўта. Велізарны сакральны будынак XIV стагоддзя па сваім гістарычным і сакральным значэнні можна параўнаць з полацкай Сафіяй. Аднак і ён таксама быў узарваны.

Добра памятаю той дзень глыбокай восенню 21 лістапада 1961 года. Я ехаў на аўтобусе ў школу, якая знаходзілася на вуліцы Кірава, і на Савецкай плошчы нехта сказаў: «Всё, костёла нет». Усе зразумелі, аб чым ішла гаворка, бо ў горадзе пэўны час былі чуткі аб тым, што ўлады хочуць узарваць гэты касцёл. Пасля школы я пайшоў на плошчу і ўбачыў руіны разбуранай святыні. Вакол стаялі людзі і плакалі, а ў вушах гучалі словы: «Всё, костёла нет». Гэта была сапраўдная духоўная і адначасова культурная катастрофа.

Горад страціў свой гістарычны выгляд. На месцы фары Вітаўта застаўся пустыр, а драмтэатр ніяк не ўпісваецца ў архітэктуру старажытнага горада над Нёманам.

Асаблівай увагі заслугоўвае гісторыя змагання за фарны касцёл св. Францішка Ксавэрыя, сённяшнюю катэдру. Яго таксама хацелі зачыніць. Калі мясцовым уладам гэтага не ўдалося, то прыехалі эмісары з Масквы. Але калі яны зайшлі ў касцёл, то ўбачылі крыж з чалавечых целаў на падлозе. Яны махнулі рукой і выйшлі.

Цягам 28 гадоў там не было святара. Людзі самі плацілі падаткі, рамантавалі касцёл і праводзілі набажэнствы. З дазволу ўладаў святар прыязджаў толькі некалькі разоў у год. Упаўнаважаны па справах рэлігіі на просьбу вернікаў мець пастаяннага святара адказваў, што хутчэй на яго далоні вырастуць валасы, чым у фары будзе пастаянны святар. І толькі праз 28 гадоў, у 1988 годзе, мне дазволілі служыць там пробашчам.

Аднак, нягледзячы на такія абставіны, дзякуючы старэйшаму пакаленню, народнай пабожнасці і нешматлікім святарам, якія «дваіліся» і «траіліся», каб толькі абслужыць вернікаў, вера засталася. Захавалася, у пэўным сэнсе, таксама і касцёльная ўлада. Касцёлам у тыя часы на Беларусі кіравалі генеральныя вікарыі. Іх прызначалі біскупы дыяцэзій, якім належалі паасобныя часткі Касцёла на тэрыторыі Беларусі. Генеральныя вікарыі маглі перадаваць сваю ўладу сваім пераемнікам[5].

Колькасць генеральных вікарыяў змянялася ў залежнасці ад абставінаў. На 1989 год, калі распачалося адраджэнне Касцёла ў Беларусі, іх было тры. Генеральным вікарыем у Гродзенскай вобласці быў ксёндз прэлат Міхал Арановіч. У Мінскай і Віцебскай абласцях – ксёндз прэлат Станіслаў Кучынскі. У Брэсцкай вобласці – ксёндз Казімір Свёнтэк, які незадоўга перад гэтым замяніў вельмі шаноўнага ксяндза прафесара Вацлава Пянткоўскага, выхаваўцеля некаторых святароў, сярод якіх біскуп Антоні Дзям'янка і біскуп Казімір Велікаселец.

Як бачна, не было генеральных вікарыяў у Магілёўскай і Гомельскай абласцях. Там не засталося касцёлаў, але засталіся вернікі, і ім таксама патрабавалася духоўная апека. Час ад часу да іх прыязджалі святары з іншых мясцінаў Беларусі і з Літвы.

Каталіцкая іерархія ў былым Савецкім Саюзе ў тыя часы заставалася толькі ў Літве і Латвіі. Пры гэтым Рыжскі біскуп меў юрысдыкцыю на ўвесь Савецкі Саюз, акрамя Масквы, якая знаходзілася ў юрысдыкцыі Віленскага біскупа. З гэтага можна зрабіць выснову, што юрысдыкцыя ў Магілёўскай і Гомельскай абласцях належала Рыжскаму біскупу. Адказ на гэтае пытанне павінны даць гісторыкі.

Прызначэнне на парафіі ў Беларусі нешматлікіх на тыя часы

выпускнікоў Рыжскай семінарыі, якія паходзілі з нашай краіны, даваў таксама Рыжскі біскуп. Аднак непасрэдную ўладу над імі мелі вышэйзгаданыя генеральныя вікарыі. Зразумела, што іх правы былі вельмі абмежаваныя, бо нават нешматлікіх святароў, якія ў тыя часы засталіся на Беларусі, яны не маглі самастойна, без згоды ўпаўнаважанага па справах рэлігіі, прызначаць на парафіі.

Такая вельмі складаная сітуацыя трывала аж да прызначэння Янам Паўлам II Апостальскага адміністратара Мінскай дыяцэзіі для католікаў лацінскага абраду Беларусі, якім стаў ваш пакорны слуга.

Наступныя паўтара года перад адраджэннем структураў паказалі, што былая палітычна-сацыяльная сістэма ўжо зжыла сябе і надыходзяць новыя часы. У выніку за гэты час удалося вярнуць каля 100 раней ліквідаваных касцёлаў. Была заснавана Вышэйшая духоўная семінарыя ў Гродне. Пачаў дзейнічаць касцёльны суд. Было выдадзена 50 тысяч экзэмпляраў «Абраду святой Імшы» і 90 тысяч — малога Катэхізіса на беларускай мове. Удалося дамовіцца з уладамі аб прыбыцці ў Беларусь 50-ці святароў з Польшчы, бо сваіх было толькі каля 60-ці. Пачалі адраджацца манаскія супольнасці.

Усё гэта разам з вялікай колькасцю вернікаў, якім патрабавалася нармальная духоўная апека, паслужыла базай для стварэння адпаведных касцёльных структураў.

Нарэшце прыйшоў доўгачаканы фацімскі дзень 13 красавіка 1991 г., калі святы Ян Павел II адрадзіў адпаведныя структуры Каталіцкага Касцёла ў Беларусі. Булаю «*Nos autem*» ён заснаваў Мінска-Магілёўскую мітраполію. У яе склад увайшлі аднайменная Мінска-Магілёўская архідыяцэзія, Гродзенская і Пінская дыяцэзіі. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія была створана ў межах Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай абласцей, Гродзенская – у межах Гродзенскай вобласці і Пінская – у межах Брэсцкай і Гомельскай абласцей. Гэта было правідэнцыйнае рашэнне святога Яна Паўла II, які своечасова распазнаў знакі часу і імгненна адказаў на іх.

Сёння, калі мы адзначаем юбілей 25-годдзя адраджэння структураў Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, трэба звярнуць увагу на тэкст булы святога Яна Паўла II «*Nos autem*». У ёй ён, між іншым, піша, што ў змрочныя часы ганенняў на веру на тэрыторыях Савецкага Саюза ён бачыў вернікаў і цяпер з радасцю спяшаецца да іх з дапамогаю. Гэтыя словы перадаюць занепакоенасць і клопат Пантыфіка пра веруючых, якія доўгія часы заставаліся без пастыраў, і адначасова радасць ад таго, што, нарэшце, Божы Провід дае магчымасць ім дапамагчы[6].

У той жа дзень папа Ян Павел II адрадзіў структуры Каталіцкага Касцёла ў Расіі, а таксама ў Казахстане і Сярэдняй Азіі. Тады ён устанавіў Апостальскія адміністратуры для католікаў лацінскага абраду ў еўрапейскай і азіяцкай яе частках, у Казахстане і Сярэдняй Азіі. Аб гэтым рашэнні Пантыфіка з даручэння Яго Эксцэленцыі арцыбіскупа Франчэско Каласуонна – першага прадстаўніка Апостальскага Пасаду ў былым Савецкім Саюзе – мне было даручана аб'явіць у гродзенскім фарным касцёле святога Францішка Ксавэрыя. Таксама з яго даручэння за некалькі дзён перад аб'яўленнем рашэння Папы я праінфармаваў дзяржаўныя ўлады ў Мінску і праваслаўнага Мітрапаліта Мінскага і Гродзенскага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта.

Першым Мінска-Магілёўскім Мітрапалітам быў прызначаны пробашч пінскай катэдры Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ксёндз прэлат Казімір Свёнтэк. Адначасова ён стаў Апостальскім адміністратарам Пінскай дыяцэзіі. Настворыную Гродзенскую дыяцэзію ўзначаліў яе першы ардынарый біскуп Аляксандр Кашкевіч, які да гэтага быў пробашчам віленскай парафіі Святога Духа.

Яны разам з многімі святарамі, семінарыстамі, кансэкраванымі асобамі і вернікамі прысутнічалі пры абвяшчэнні рашэння папы Яна Паўла II. Доўгачаканая і радасная вестка з Ватыкана стала знакам таго, што завяршаецца «зіма» ганенняў і наступае сапраўдная вясна адраджэння. <...>

Добра памятаю той дзень 13 красавіка 1991 г., які, нягледзячы на яшчэ не зусім увайшоўшую ў свае правы вясну, выдаўся сонечным і цёплым. Гэта быў як быццам знак з неба, што фацімскія аб'яўленні аб навяртанні нашых земляў да Бога ажыццяўляюцца. Пачалі спаўняцца словы Евангелля паводле Яна — цемра не агарнула Божага святла[7]. Яно прабілася праз цёмныя хмары атэізму, каб асвятліць людзей Божай праўдай. Схаваная ў падземных катакомбах рака веры вырвалася наверх, каб утаймаваць духоўную смагу людзей і паіць іх ажыўляючай душу Божай ласкай.

Успамінаючы словы чалавека, які ў далёкім 1961 г. у аўтобусе на Савецкай плошчы сказаў: «Всё, костёла нет», трэба сцвердзіць: «Нет, он есть!». Ёсць і будзе, бо збудаваны на Пятры, як кажа Хрыстус, і брамы пекла яго не перамогуць[8].

Такім чынам, дзень 13 красавіка 1991 г. стаў гістарычным для Касцёла ў былым СССР. Сёння мы дзякуем Богу і схіляем свае галовы перад святым Янам Паўлам ІІ за яго мудрасць і рашучасць і за правідэнцыйныя рашэнні, якія далі новыя магчымасці для адраджэння і ўмацавання духоўнага жыцця пасля жорсткага перыяду пераследу. Сапраўды, «*Fortuna variabilis, Deus mirabilis*» – «Лёс пераменлівы, Бог надзвычайны», – як казаў пісьменнік, навуковец і гісторык Вялікага Княства Літоўскага Шыман Старавольскі, які жыў у XVI–XVII стагоддзях[9].

Святкуючы 25-годдзе адраджэння структураў Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на доўгую і складаную гісторыю новапаўсталай Гродзенскай дыяцэзіі. Яшчэ ў 20-я гады мінулага стагоддзя прадпрымаліся першыя спробы заснавання Гродзенскай дыяцэзіі шляхам вылучэння яе з Віленскай, вельмі вялікай тэрытарыяльна і па колькасці вернікаў. За яе заснаванне прамаўляла тое, што на гэтых тэрыторыях у тыя часы жыло шмат католікаў. Не апошнюю ролю адыгрываў і той факт, што з 1900 г. існавала Гродзенская праваслаўная епархія.

Аднак стварэнне Ламжынскай і Пінскай дыяцэзій, у выніку чаго тэрыторыя Віленскай дыяцэзіі моцна зменшылася, разам з іншымі, у тым ліку і фінансавымі, праблемамі стала прычынай таго, што справа яе заснавання была адкладзеная. З новай моцай ідэя заснавання Гродзенскай дыяцэзіі адрадзілася ў другой палове 30-х гадоў ХХ стагоддзя. Яе натхняльнікам быў Віленскі Мітрапаліт арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі, які вельмі пазітыўна паставіўся да просьбы тагачасных гродзенскіх уладаў. Аднак ажыццяўленню яго амбіцыйных планаў перашкодзіла Другая сусветная вайна[10].

Трэба было чакаць наступных 50 гадоў да гістарычнага дня 13 красавіка 1991 года. Мне як Апостальскаму адміністратару Мінскай дыяцэзіі для католікаў лацінскага абраду Беларусі, разам з прадстаўніком Апостальскага Пасаду ў былым ужо Савецкім Саюзе арцыбіскупам Франчэско Каласуонна, непасрэдна давялося займацца падрыхтоўкай планаў стварэння Мінска-Магілёўскай мітраполіі і ўстанаўлення межаў дыяцэзій.

Усё адбывалася на плябаніі гродзенскай парафіі Маці Божай Анёльскай па вуліцы Чырвонапартызанскай, 1, кв. 2. У маім спальным і адначасова працоўным пакоі на стале ляжала карта Беларусі, і мы вызначалі межы дыяцэзій. Дарэчы, у тым самым пакоі былі акрэсленыя межы Апостальскіх адміністратураў для католікаў лацінскага абраду еўрапейскай і азіяцкай частак Расіі.

Гродзенская дыяцэзія была заснаваная булай папы Яна Паўла ІІ «*Qui operam*». У ёй ён падкрэсліў мэту яе заснавання, а менавіта — духоўную карысць для вернікаў на тэрыторыі Гродзенскай вобласці[11]. Так шчасліва завяршыўся доўгі шлях стварэння Гродзенскай дыяцэзіі і адначасова распачалося яе станаўленне і развіццё.

13. Трэба прызнаць, што заходняя частка Беларусі з'яўляецца найбольш каталіцкай у нашай краіне. Гістарычна тут заўсёды было шмат католікаў. Важнае значэнне мае і той факт, што перaслед веры на Гродзеншчыне працягваўся не тры, а два пакаленні. Падчас яго тут было найбольш дзейных касцёлаў і працавала асноўная колькасць святароў. Усё гэта дазволіла, нават ва ўмовах пераследу веры, захаваць яе больш жывой.

З раней ліквідаваных касцёлаў найбольшая іх колькасць вярталася вернікам менавіта ў заходніх раёнах Беларусі. І сам працэс вяртання тут быў менш складаным, чым у іншых месцах.

На дзень заснавання Гродзенскай дыяцэзіі у 1991 г. у яе склад увайшло 119 парафій з Віленскай архідыяцэзіі, 4 – з Пінскай дыяцэзіі і 7 – з Ламжынскай, усяго — 130. Колькасць касцёлаў тады дасягала 85-ці. У той час у ёй служылі 38 інкардынаваных святароў і 12 з іншых дыяцэзій, а таксама 33 з манаскіх супольнасцяў. Так што на пачатку дзейнасці Гродзенскай дыяцэзіі ў ёй працавалі 83 святары. Дзейнічалі заснаваная ў 1990 годзе духоўная семінарыя і касцёльны суд, таксама распачалося дабрачыннае служэнне і рэгулярная катэхізацыя. Усё гэта, разам з вялікай колькасцю актыўных вернікаў, утварала падмурак і стварыла новыя перадумовы для дынамічнага адраджэння Касцёла на Гродзеншчыне. Гродзенскі Касцёл 25 гадоў таму пачаў пісаць сваю гісторыю, якая прыемна здзіўляе.

14. Пасля 25 гадоў адраджэння і станаўлення Гродзенская дыяцэзія цвёрда стала на ногі і можа служыць прыкладам для іншых. З яе гісторыі і дасягненняў неабходна падкрэсліць наступныя.

Сімвалічным з'яўляецца зацверджаны Апостальскім Пасадам выбар апекуноў дыяцэзіі. Галоўная апякунка – гэта традыцыйна вельмі шанаваная на Гродзеншчыне Маці Божая Вастрабрамская — Маці Міласэрнасці, што з'яўляецца знакам прызнання дзеяння Божай міласэрнасці ў адраджэнні Касцёла ў нёманскім краі. Другасныя апекуны – святы Казімір, чыё жыццё было звя-

занае з горадам над Нёманам, дзе ён таксама нарадзіўся для неба, і святы Максімільян Кольбэ – уцелаўленне любові да бліжняга аж да мучаніцкай смерці. Да гэтай сваёй місіі ён рыхтаваўся ў Гродне.

Гродзенская дыяцэзія вызначаецца добра арганізаванай курыяй з усімі патрэбнымі для яе функцыянавання аддзеламі.

Ужо 25 гадоў дыяцэзію ўзначальвае Яго Эксцэленцыя біскуп Аляксандр Кашкевіч. Цяпер яму дапамагае Яго Эксцэленцыя біскуп Юзаф Станеўскі, выпускнік Гродзенскай духоўнай семінарыі.

На сённяшні дзень колькасць парафій дасягнула 193-х.

З мэтаю больш якаснай арганізацыі пастырскай працы тэрыторыя дыяцэзіі падзеленая на тры пастырскія рэгіёны – Гродзенскі, Лідскі і Смаргонскі. Кожны з іх узначальвае прызначаны ардынарыем і адказны за пастырскую дзейнасць біскупскі вікарый. Паасобныя парафіі ўваходзяць у адпаведныя дэканаты, агульная колькасць якіх складае 16.

Колькасць дзейных касцёлаў — 146, з якіх 27 адбудаваныя і 34 новапабудаваныя. На сённяшні дзень у дыяцэзіі будуюцца 3 касцёлы. Акрамя парафіяльных касцёлаў, было пабудавана 6 філіяльных. У дыяцэзіі таксама дзейнічаюць 84 капліцы. Усё гэта сведчыць аб тым, што ў дыяцэзіі налічваецца каля 240 месцаў Божага культу, дзе цэлебруецца Эўхарыстыя, абвяшчаецца Божае слова і ажыццяўляецца іншая касцёльная і дабрачынная дзейнасць.

Паводле касцёльных крыніцаў, у 2015 годзе 35-40% з мільёна жыхароў вобласці з'яўляюцца рыма-католікамі. <...>

Выдатна дзейнічае Вышэйшая духоўная семінарыя, у якой, нягледзячы на існуючы крызіс пакліканняў, яны ёсць. Семінарыя ўжо падрыхтавала больш за 200 святароў, якія працуюць не толькі ў Гродзенскай, але і ў іншых дыяцэзіях Беларусі і таксама ва Украіне. <...>

Неабходна асабліва падкрэсліць шырока развітую сферу душпастырства, узровень якога можа служыць прыкладам для іншых дыяцэзій. Гэта найперш агульнае душпастырства, каардынатарамі якога ў пастырскіх рэгіёнах з'яўляюцца біскупскія вікарыі, пастырства сем'яў, пастырства моладзі і студэнтаў «*Open*», інтэлігенцыі, службы здароўя, глуханямых, вязняў, настаўнікаў і выхавацеляў, пілігрымаў, цвярозасці, чыгуначнікаў.

Вельмі важнае значэнне для развіцця тэалагічнай думкі мае альманах «*Studia Teologica Grodnensia*», у якім друкуюцца навуковыя артыкулы і працы тэолагаў.

Дзейнасць гродзенскага дабрачыннага каталіцкага таварыства «*Caritas*» вядомая не толькі ў дыяцэзіі, але таксама далёка за яе межамі.

Гродзенская дыяцэзія вядомая і шматлікімі папулярнымі сярод пілігрымаў санктуарыямі — Каралевы сем'яў у Тракелях, Езуса Журботнага ў Росі, Маці Божай Цярпліва Слухаючай у Капцёўцы, Маці Божай Суцяшальніцы Засмучаных у Барунах, Маці Божай Шкаплернай у Гудагаі, благаслаўлёных сясцёр мучаніц у Навагрудку. <...>

15. Жыццё не стаіць на месцы, у ім з'яўляюцца ўсё новыя выклікі, якія маюць вельмі вялікі ўплыў і на арганізацыю душпастырства. Гэтыя праблемы таксама стаяць як перад Касцёлам у Беларусі, так і перад Касцёлам на Гродзеншчыне.

Перш за ўсё Касцёл павінен звяртаць самую сур'ёзную ўвагу на наступаючую дэсакралізацыю свету. Сучасны чалавек усё часцей жыве так, як быццам Бога зусім няма. Гэтыя працэсы ідуць таксама і да нас, і неабходна быць гатовымі ў час і адпаведным чынам на іх адказаць.

Цешачыся развіццём душпастырства моладзі, нельга заплюшчваць вочы на праблемы, з якімі яна сутракаецца. Моладзь – гэта будучыня свету і будучыня Касцёла. Нашым неадкладным заданнем з'яўляецца пошук адпаведных пастырскіх метадаў, каб моладзь не згубілася ў мітусні сучаснага секулярызаванага свету.

Свет і Касцёл занепакоеныя крызісам сям'і, а яна з'яўляцца галоўнай ячэйкаю кожнага грамадства. Таму крызіс сям'і вядзе да крызісу як грамадскага жыцця, так і рэлігійнага. Праблемамі сям'і і пошукам шляхоў іх вырашэння займаўся Сінод Біскупаў на сваіх пасяджэннях у 2014 і 2015 гадах. Па іх выніках Святы Айцец распрацаваў Апостальскую адгартацыю «*Amoris Letitiae*», якая дае напрамкі для пастырства сучаснай сям'і. Галоўная ўвага надаецца згоднай з духам Евангелля ацэнцы сужэнскай любові, падрыхтоўцы маладых людзей да сужэнства, суправаджэнню іх у першыя гады сямейнага жыцця. Не абышоў Папа сваёй увагай разбітыя і кананічна не ўрэгуляваныя сем'і і неабходнасць арганізацыі адпаведнага іх статусу пастырства. Яны не экскамунікаваныя, застаюцца членамі Касцёла і маюць права на адпаведную кананічнаму праву пастырскую апеку[12].

У нашай краіне адбываецца нябачаны дагэтуль працэс міграцыі насельніцтва з вёсак у горад. Яшчэ зусім нядаўна мы будавалі касцёлы ў вёсках. Ці не прыйдзе, і прычым ужо хутка, час, калі там не застанецца вернікаў? Што

тады рабіць з касцёламі? Зачыняць, як гэта робяць на Захадзе, ці выкарыстоўваць для іншых касцёльных мэтаў, і якіх? Да гэтага трэба рыхтавацца, і таму неабходна вельмі асцярожна падыходзіць да інвестыцый у вясковыя парафіі.

У той жа час большую ўвагу неабходна звяртаць на арганізацыю душпастырства ў гарадах і стварэнне для яго адпаведных умоваў. Малая колькасць гарадскіх парафій вядзе да таго, што многія вернікі, асабліва моладзь, застаюцца ананімнымі і паступова губляюць сваю веру і сувязь з Касцёлам.

Не да канца вырашаная праблема міжнацыянальных адносінаў у жыцці Касцёла. Для нас крытэрыем павінны быць словы святога апостала Паўла, што няма ні грэка, ні юдэя <...>, але ўсё і ва ўсім — Хрыстус[13]. Кожны народ мае права на духоўную апеку, і Касцёл павінен яе забяспечыць.

Адным з найбольш актуальных выклікаў сучаснага свету з'яўляюцца працэсы міграцыі, якія практычна не кантралююцца. Касцёл прымае актыўны ўдзел у вырашэнні гэтай праблемы, дапамагае мігрантам, але адначасова заклікае палітыкаў, дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў да выкаранення прычыны гэтай праблемы.

Пакуль што ў Беларусі бежанцы і перасяленцы ў сваёй абсалютнай большасці з Украіны. Але ніхто не можа даць гарантыі, што ў будучыні іх не будзе і з Блізкага Усходу. Ці гатовы Касцёл у Беларусі і «*Caritas*» да працы з людзьмі, якія належаць да іншай культуры і рэлігіі, бо асноўная маса бежанцаў – гэта не хрысціяне? Аб гэтым мы таксама павінны памятаць.

Гродзенская дыяцэзія мае найбольшы святарскі патэнцыял і павінна больш актыўна дзяліцца ім з церпячымі. Святы Айцец Францішак у сёлетнім ужо 53-м Пасланні на Сусветны дзень малітваў аб пакліканнях, які праводзіўся 24 красавіка пад дэвізам «Касцёл – Маці пакліканняў», вельмі справядліва заўважае, што ніхто не пакліканы выключна для нейкага адасобленага рэгіёна, групы ці касцёльнага руху, але для Касцёла і свету[14]. Таму фармацыя духавенства павінна праводзіцца ў такім духу, каб духоўныя асобы адчувалі адказнасць таксама і за ўвесь Касцёл у Беларусі. <...>

16. Сёння гродзенскі Касцёл спявае «*Te Deum*» за 25 гадоў сваёй новай гісторыі, уступае ў новы перыяд свайго існавання і пачынае пісаць новую старонку сваёй гісторыі. Мінулыя чвэрць стагоддзя існавання і станаўлення Гродзенскай дыяцэзіі можна ахарактарызаваць як час пераходу ад стану духоўнага і матэрыяльнага спусташэння, але адначасова стану захаванай веры, да стану адраджэння касцёльных структураў і дынамічнай душпастырскай дзейнасці. Дадзены Богам час ласкі не быў змарнаваны, у выніку чаго Касцёл адрадзіўся і стаў на ногі. На якасна вышэйшы ўзровень паднялося яго рэлігійнае жыццё, каб ён мог сапраўды быць сакрамэнтам паўсюднага збаўлення[15].

Выказваю надзею, што новы час, у які ён уваходзіць, стане часам яшчэ больш дынамічнага яго развіцця і служэння людзям.

У новы час з новай надзеяй, гродзенскі Касцёл! І няхай табе благаславіць Бог! Як магутны Нёман нясе свае воды, таксама і ты нясі святло Евангелля сучаснаму свету, каб у пераменлівым яго лёсе заўсёды паказваў надзвычайнасць міласэрнага і вечнага Бога і вёў людзей да Яго. <...>

**Выкарыстаная літаратура:**
1. II Ватыканскі Сабор. Дагматычная канстытуцыя пра Касцёл *«Lumen gentium»*.
2. Ян Павел II. Була *«Nos autem»*.
3. Ян Павел II. Була *«Qui operam»*.
4. Францішак. Апостальская адгартацыя *«Amoris Letitiae»*.
5. Францішак. Пасланне на 53-ці Сусветны дзень малітваў аб пакліканнях.
6. Ks. Antoni Gremza, Studia Teologica Grodnensia, 6-ы выпуск.
7. Э.С. Ярмусік. «Католический Костёл в Белоруссии в годы Второй мировой войны». – Гродно, 2002.
8. A. Hlebowicz. «Kościół w niewoli». — Warszawa, 1991.
9. https://en.wikiquote.org/wiki/Szymon_Starowolski. https://ru.wikipedia.org/wiki/Католицизм_в_Белоруссии.
10. http://kurierwilenski.lt/2012/10/19/kosciol-katolicki-w-wilnie-biskupstwo-wilenskie-od-1925-r-archidiecezja-1/.
11. http://media.catholic.by/nv/n22/art7.htm.

[1] Пар. https://ru.wikipedia.org/wiki/Католицизм_в_Белоруссии.
[2] Пар. http://kurierwilenski.lt/2012/10/19/kosciol-katolicki-w-wilnie-biskupstwo-wilenskie-od-1925-r-archidiecezja-1/.
[3] Пар. http://media.catholic.by/nv/n22/art7.htm.
[4] Пар. Э.С. Ярмусік. «Католический Костёл в Белоруссии в годы Второй мировой войны». – Гродно, 2002, с. 34.
[5] Пар. A. Hlebowicz. «Kościół w niewoli». – Warszawa, 1991, с. 9-10.
[6] Пар. Ян Павел II. Була *«Nos autem»*.
[7] Пар. Ян 1, 5.
[8] Пар. Мц 16, 18.
[9] Пар. https://en.wikiquote.org/wiki/Szymon_Starowolski.
[10] Пар. ks. Antoni Gremza, Studia Teologica Grodnensia, 6 выпуск, с. 267-274.
[11] Ян Павел II. Була «*Qui operam*».
[12] Пар. Францішак. Апостальская адгартацыя «*Amoris Letitiae*».
[13] Пар. Клс 3, 11.
[14] Пар. Францішак. Пасланне на 53-ці Сусветны дзень малітваў аб пакліканнях.
[15] Пар. II Ватыканскі Сабор. Дагматычная канстытуцыя пра Касцёл «*Lumen gentium*».

СВЯТЫ ЯН АД КРЫЖА

# УЗЫХОД НА ГАРУ КАРМЭЛЬ

ТРАКТАТ ПРА ТОЕ, ЯК ПАВІННА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДУША, КАБ ЗА КАРОТКІ ЧАС ДАСЯГНУЦЬ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. ПАРАДЫ І ВУЧЭННІ ЯК ДЛЯ ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ, ГЭТАК І ДЛЯ ДАСВЕДЧАНЫХ, — ВЕЛЬМІ КАРЫСНЫЯ, КАБ ВЫЗВАЛІЦЦА АД УСІХ РЭЧАЎ ДАЧАСНЫХ, НЕ АБЦЯЖАРВАЦЬ СЯБЕ ДУХОЎНЫМІ ПРЫВЯЗАНАСЦЯМІ І ЗАСТАЦЦА Ў НАЙВЫШЭЙШАЙ АГОЛЕНАСЦІ І СВАБОДЗЕ ДУХУ, НЕАБХОДНЫХ ДЛЯ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. НАПІСАНЫ АЙЦОМ КАРМЭЛІТАМ БОСЫМ, БРАТАМ ЯНАМ АД КРЫЖА.

## КНІГА ПЕРШАЯ
## ДЗЕЙСНАЯ НОЧ ПАЧУЦЦЯЎ

**У якой гаворыцца, што такое «*Цёмная ноч*» і чаму неабходна прайсці праз яе, каб дасягнуць злучэння з Богам. У прыватнасці, гаворка будзе ісці пра «*цёмную ноч пачуццяў*» і жаданняў, пра шкоду, якую яны могуць нанесці душы.**

### РАЗДЗЕЛ 1

**У якім прапануецца 1-я страфа песні, дзе тлумачыцца розніца паміж дзвюма начамі, праз якія павінны прайсці духоўныя душы, у адпаведнасці з дзвюма часткамі чалавечай прыроды: ніжняй і вышэйшай, і пра гэта гаворыцца ў наступнай страфе песні:**

***У тую цёмную ноч,***
***з тугою, каханнем распаленая,***
***о мой шчаслівы лёс!***
***Я выйшла незаўважаная,***
***калі ўжо спачываў мой дом.***

1. У гэтай першай страфе песні душа апявае благаслаўлёнае шанцаванне, калі яна, выйшаўшы з сябе, пазбавілася ўсіх вонкавых рэчаў, усіх жаданняў, усіх недасканаласцяў, якія мае пачуццёвая частка чалавека, калі не падпарадкоўваецца розуму. І каб лепей зразумець гэта, неабходна ведаць, што для таго, каб душа дасягнула стану дасканаласці, яна звычайна павінна прайсці праз два віды цемры, якія духоўныя людзі называюць ачышчэннямі душы. Тут мы называем іх ночамі, бо душа , як і ў адной гэтак і ў другой, крочыць, нібы ў начной цемры.

2. Першая ноч, ці ачышчэнне, датычыць пачуццёвай часткі душы, пра якую гаворыцца ў цытаванай страфе песні і пра якую будзе ісці гаворка ў першай частцы гэтай кнігі. Другая ж ноч датычыць духоўнай часткі душы, і пра яе — другая страфа, дзе гаворыцца пра актыўнае дзеянне душы: пра гэта — другая і трэцяя частка кнігі. Пра пасіўнае дзеянне душы будзе гаварыцца ў чацвёртай частцы.

3. Праз першую ноч павінны прайсці пачаткоўцы, калі Бог пачынае ўводзіць іх у кантэмпляцыйны стан, у якім удзельнічае дух, пра што мы пагаворым далей. Праз другую ноч, ці ачышчэнне, праходзяць дасведчаныя, якіх Бог уводзіць туды для таго, каб яны перайшлі ў стан злучэння з Богам. Гэтая ноч самая цёмная і змрочная, у ёй адбываецца самае жахлівае ачышчэнне. Пра гэта — таксама далей.

#### ТЛУМАЧЭННЕ СТРАФЫ

4. У гэтай страфе з песні душа гаворыць пра тое, як яна, пакліканая Богам, — у любові да Яго і запаленая Ягонай любоўю, выйшла ў цёмную ноч, пазбаўленая і ачышчаная ад усіх пачуццёвых жаданняў вонкавых рэчаў свету і таго, што так падабаецца целу, а таксама ад усіх упадабанняў волі. Усё гэта адбываецца праз ачышчэнне пачуццяў, і таму гаворыцца, што *дом яе ўжо спачываў,* што мае на ўвазе пачуццёвую частку: супакоеныя і спачылыя жаданні ў душы і для душы, бо яны яе больш не турбуюць. І сапраўды, нельга вызваліцца ад перажыванняў і болю, выкліканымі жаданнямі, пакуль яны не супакояцца і спачнуць. І таму ў страфе гаворыцца: «О мой шчаслівы лёс!» — бо душа змагла выйсці незаўважаная. Ніводнае жаданне цела і ніякае іншае ўжо не змагло ёй перашкодзіць. І, больш за тое, яна гаворыць: «о мой шчаслівы лёс!», бо яна выйшла ў ноч, таму што Бог пазбавіў яе ад усіх гэтых недасканалых схільнасцяў, і гэтае пазбаўленне і з'яўляецца для яе ноччу.

5. І гэта сапраўды «шчаслівы лёс!», бо сам Бог увёў яе ў гэтую ноч, крыніцу ўсялякага дабра: сама яна не здолела б увайсці ў яе, таму што чалавек не здольны спустошыць сам сябе ад усіх

сваіх жаданняў, каб дайсці да Бога.

6. У гэтым, урэшце, і заключаецца сэнс страфы. І мне, паводле майго намеру, застаецца толькі пачаць тлумачыць гэта больш падрабязна, радок за радком. Як я ўжо згадаў у Пралогу, я буду разглядаць усе страфы песні такім самым чынам: спачатку страфу цалкам, а пасля — кожны радок паасобку.

## РАЗДЗЕЛ 2

**Дзе тлумачыцца сутнасць *цёмнай ночы,* праз якую душа праходзіць для таго, каб дасягнуць злучэння з Богам, тлумачацца яе прычыны.**

***У тую цёмную ноч…***

1. Мы можам вызначыць тры прычыны, па якіх гэты пераход душы да злучэння з Богам называецца ноччу. Першая датычыць зыходнага пункту, калі душа выходзіць у ноч. Каб прайсці праз яе, душа павінна пазбавіцца і адмовіцца ад жадання ўсіх належных ёй рэчаў гэтага свету. І гэтае пазбаўленне і адмаўленне падобныя да ночы для ўсіх пачуццяў чалавека. Другая прычына мае на ўвазе сродак, ці шлях, якім душа павінна прайсці для таго, каб дасягнуць злучэння. Гэта шлях веры. Вера таксама цёмная для нашага разумення, цёмная, як ноч. І трэцяя прычына датычыць канцовага пункту — пункту прыбыцця душы — гэта значыць Бога. Ён ні больш ні менш, як цёмная ноч для душы ў гэтым жыцці. Гэтыя тры ночы павінны прайсці праз душу, ці лепей душа павінна прайсці праз іх, каб дасягнуць святога злучэння з Богам.

2. У Кнізе Тобія (6, 18–22) гэтыя тры віды ночы прадстаўлены алегарычна як тры ночы, якія анёл спаслаў Тобію для таго, каб прайсці іх перад тым, як злучыцца ў адно са сваёю жонкаю. У першую ноч анёлам было загадана Тобію спаліць у агні сэрца рыбы — сімвал чалавечага сэрца, прывязанага да рэчаў свету. Каб распачаць свой шлях да Бога, неабходна спаліць у агні Божай любові сваё сэрца для яго ачышчэння ад усяго створанага. Праз гэтае ачышчэнне выганяецца злы дух, які пануе над душою праз прывязанасць да рэчаў цялесных і прамінальных.

3. У другую ноч Тобію было абвешчана, што ён будзе дапушчаны да сумоўя са святымі патрыярхамі, айцамі веры. Гэта значыць, што, прайшоўшы праз першую ноч і пазбавіўшыся ўсіх пачуццёвых прадметаў, душа ўваходзіць у другую ноч, дзе застаецца сам-насам з вераю. Гэта не выключае любоў (як будзе растлумачана далей), але душа пазбаўляецца ўсіх інтэлектуальных навінаў, і пачуцці ўжо не пануюць над ёю.

4. У трэцюю ноч анёл сказаў Тобію, што ён атрымае благаслаўленне, якім ёсць Бог. Падчас другой ночы — ночы веры, Бог яднаецца з душою такім інтымным і таямнічым чынам, што ў ёй нараджаецца трэцяя ноч, бо зносіны з Богам становяцца ўсё больш цьмянымі і незразумелымі. Гэта мы растлумачым далей. Калі ж мінае трэцяя ноч, якая праходзіць у сталых зносінах з Богам у духу і характарызуецца вялікаю цемраю душы, настае злучэнне з жонкаю — Мудрасцю Божаю. Пра гэта анёл сказаў Тобію: калі праміне трэцяя ноч, ён злучыцца са сваёю жонкаю ў боязі Божай. І калі боязь Бога — дасканалая, дасканалаю ёсць любоў, бо душа перайначваецца гэтай любоўю Бога.

5. Гэтыя тры віды ночы па сутнасці з'яўляюцца адной ноччу, якая мае тры часткі, як ноч у прыродзе. Таму што першая ноч пачуццяў падобная да таго, калі настае ноч, якая ахінае ўсе рэчы, і яны знікаюць з нашага бачання. Другая частка, ці другая ноч веры, падобная да поўначы, абсалютна змрочнай. І трэцяя ноч Бога падобная да світанку перад тым як з'явіцца дзённае святло. Каб лепей зразумець, пра што ідзе гаворка, пачну тлумачыць паасобку кожную з азначаных характарыстык.

## РАЗДЗЕЛ 3

**У якім гаворыцца пра першую ўмову гэтай *ночы,* гэта значыць пра тое, як пазбавіцца жадання ўсіх рэчаў, і пра тое, чаму гэта называецца *ноччу.***

1. Мы называем тут ноччу тое, што адбываецца з жаданнем усіх рэчаў, калі страчваецца іх смак. Паколькі ноч — гэта не што іншае, як пазбаўленне святла, бо страчваецца бачнасць усіх прадметаў і здольнасць бачыць застаецца ў цемры без выяваў, тое ж самае можна сказаць пра ўмярцвенне жаданняў, падобнае да душэўнай ночы, бо, калі душа пазбаўляецца смаку ўсіх рэчаў, яна застаецца ў цемры без нічога. Падобна да таго як здольнасць бачыць праз святло і пры святле сілкуецца і наталяецца прадметамі, бо іх бачыць, а без святла губляе іх, таксама і душа праз свае жаданні сілкуецца і наталяецца ўсімі рэчамі, бо здольнасці душы знаходзяць у іх смак. У той момант, калі гэты смак губляецца, ці лепей сказаць, калі ён знішчаецца, душа перастае сілкавацца і наталяцца смакам рэчаў і таму паводле сваіх жаданняў застаецца ў цемры і ў пустаце.

2. Магу прывесці прыклад кожнай асобнай здольнасці. Калі жаданне душы пазбаўляецца ўсяго таго, што можна смакаваць праз слых, яна застаецца ў цемры і ў пустаце. Тое ж адбываецца і з бачаннем рэчаў, калі зрок страчвае ўпадабанне ў рэчах, якія бачыць, і тады душа застаецца ў цемры і ў пустаце. Пазбаўляючыся ўсяго прыемнага, што ёсць у пахах, якія душа можа смакаваць

праз нюх, яна застаецца ў цемры і ў пустаце. І, адмаўляючыся ад усіх прысмакаў, якія могуць задаволіць нёба, душа таксама застаецца ў цемры і без нічога. І, нарэшце, калі душа знішчае для сябе ўсе задавальненні і прыемнасці, якія можа атрымаць праз дотыкі, яна таксама застаецца ў цемры і ў пустаце. І таму мы можам сцвярджаць, што душа, якая адмовілася і аддаліла ад сябе ўсё, што маглі смакаваць яе жаданні, знаходзіцца ў цемры, як у начы, бо яна абсалютна спустошаная.

3. Прычына гэтага, як лічаць філосафы, у тым, што душа ў той момант, калі Бог удыхае яе ў цела, нібы чыстая і гладкая дошка, на якой пакуль што няма аніякай выявы. Па сваёй прыродзе яна нічога не можа атрымаць звонку інакш як толькі праз пачуцці. І вось душа знаходзіцца ў целе, нібы ў змрочнай вязніцы, а той, хто знаходзіцца ў вязніцы, не ведае нічога іншага, апрача таго, што дасягае яго праз вокны гэтай вязніцы. Гэтаксама і душа стасуецца з вонкавым светам праз пачуцці, якія падобныя да вокнаў вязніцы, бо па сваёй прыродзе душа не мае іншага шляху зносінаў як толькі праз пачуцці.

4. І таму можна сказаць, што душа застаецца ў цемры і ў пустэчы, калі яна адмаўляецца і пазбаўляецца ўсяго таго, што можа атрымаць праз пачуцці. Як было сказана, душа па сваёй прыродзе не можа атрымаць нічога з іншых крыніцаў інакш як толькі праз пачуцці. І нават калі на самай справе душа працягвае чуць, бачыць, нюхаць, смакаваць і адчуваць, яна ўсё ж перастае звяртаць на гэта ўвагу, яна пазбаўляецца і адмаўляецца ад усяго, што прапаноўваюць ёй пачуцці, і гэтыя рэчы больш яе не напаўняюць і не турбуюць. Яна нібыта не чуе, нібыта не бачыць і г.д. — падобная да таго, хто, заплюшчыўшы вочы, спазнае цемру, нібыта сляпы, які не мае здольнасці бачыць. Так, дарэчы, казаў Давід: «*Pauper sum ego, et in laboribus a iuventute mea*», што азначае: *«Убогі я і працую з самага юнацтва»* (Пс 87, 16)*. Ён называе сябе ўбогім (нават калі зразумела, што ён быў заможным), бо не засяроджваў на багацці сваю волю, і таму быў сапраўды ўбогім. І, наадварот, калі б ён быў убогім, але ягоная воля імкнулася да багацця, дык ён і не быў бы сапраўдным бедняком, бо ягоная душа была б багатаю, перапоўненаю жаданнямі. І таму мы называем аголенасць — ноччу для душы. Гэта не значыць, што мы гаворым пра недахоп рэчаў. Нястача рэчаў не агаляе душу, калі яна іх прагне. Мы гаворым *аголенасць душы*, калі душа аголеная і пазбаўленая смакавання рэчаў і іх прагнення, яна вольная ад іх і яна пустая, бо пазбаўленая гэтых жаданняў, нават калі валодае рэчамі. Рэчы гэтага свету ўжо не займаюць такую душу, і яны ёй не шкодзяць, таму што яна не ўваходзіць у іх ні сваёю ўнутранаю воляю, ні сваімі ўнутранымі жаданнямі.

5. Гэта першы від ночы, як пасля мы растлумачым, уласцівы душы паводле яе пачуццёвай часткі. Гэтая ноч адна з дзвюх, праз якія павінна прайсці душа, каб дасягнуць злучэння з Богам.

І зараз апавяду, чаму карысна для душы выйсці ў гэтую цёмную ноч пачуццяў, каб рушыць насустрач паяднанню з Богам.

## РАЗДЗЕЛ 4

**У якім гаворыцца, наколькі карысна для душы па-сапраўднаму прайсці праз «*цёмную ноч пачуццяў*» — гэта значыць праз умярцвенне жаданняў, каб рушыць да злучэння з Богам.**

1. Каб дасягнуць злучэння з Богам, неабходна, каб душа прайшла праз цёмную ноч умярцвення жаданняў і адмаўлення ад смакававання ўсіх рэчаў, таму што ўсе прывязанасці да створаных рэчаў перад абліччам Бога з’яўляюцца непрагляднаю цемраю. І пакуль душа, заблытаная ў іх, нічога не робіць, каб ад іх вызваліцца, простае і чыстае святло Бога ніколі не зможа асвяціць яе і запанаваць у ёй, бо, як сцвярджае святы Ян, святло і цемра не могуць існаваць разам: «*tenebrae eam non comprehenderunt*» (Ян 1, 5), гэта значыць, што цемра не можа суіснаваць са святлом.

2. І прычына палягае ў тым, што дзве супярэчнасці, як вучыць нас філасофія, не могуць суіснаваць у адным і тым жа суб’екце. Вось чаму цемра, гэта значыць прывязанасць да рэчаў створаных, і святло, гэта значыць Бог, супярэчныя, і няма нічога падобнага і суадноснага паміж імі. У пасланні да Карынцянаў святы Павел вучыць нас: «*Quae conventio lucis ad tenebras*?», гэта значыць: *«Што агульнага паміж святлом і цемрай?»* (2 Кар 6, 14). Адсюль вынікае, што ў душу не можа пранікнуць Божае святло, калі спачатку яна не пазбавіцца ўсіх сваіх прывязанасцяў.

3. І каб лепей растлумачыць ужо сказанае, неабходна ўзгадаць, што замілаванне і прывязанасць душы да стварэнняў прыраўноўвае яе саму да стварэнняў. Чым большае яе замілаванне імі, тым больш яна стаецца падобнаю і роўнаю ім, бо любоў прыпадабняе таго, хто любіць, да таго, каго любяць. Пра гэта гаварыў Давід, звяртаючыся да тых, хто пакланяецца ідалам: «*Similes illis fiant qui faciunt ea, et omnes qui confidunt in eis*». — «*Падобны да іх тыя, хто аддае ім свае сэрцы*» (Пс 113, 8). Вось чаму той, хто любіць стварэнні, апускаецца да іх узроўню, а можа нават і яшчэ ніжэй, бо любоў не толькі ўпадабняе, але і падпарадкоўвае таго, хто любіць, улюбёнай асобе ці рэчы. Вось чаму, калі душа нешта любіць, яна становіцца

няздольнаю да чыстага злучэння з Богам і да перамянення ў Ім , бо нізасць створаных рэчаў нявартая Божых вяршыняў. Такім чынам, цемра нявартая атрымаць святло, бо ўсе рэчы, зямныя і нябесныя, у параўнанні з Богам — нішто, як гаворыць Ерамія наступнымі словамі: «*Aspexi terram, et ecce vacua erat et nihil; et caelos , et non erat lux in eis*». «*Я ўзглянуў на зямлю, і вось яна — пустая, і няма нічога, узглянуў на неба і пабачыў — няма святла*» (пар. Ер 4, 23). Сцвярджэнне прарока, што ён пабачыў пустую зямлю, азначае, што ўсе зямныя стварэнні — гэта нішто, і сама зямля — таксама нішто. І калі ён гаворыць пра неба і не бачыць святла на ім, гэта значыць, што ўсе свяцілы нябесныя — нішто ў параўнанні з Богам, і ўсе яны — проста цемра. Такім чынам, мы можам сцвярджаць, што калі ўсе стварэнні — гэта нішто, дык прывязанасць душы да іх робіць яе меншаю за нішто, бо робіць немагчымым яе пераўтварэнне ў Богу, гэтаксама як цемра — гэта нішто, і меншая за нішто, бо пазбаўляе нас святла. Як нехта, агорнуты змрокам, не можа зразумець, што такое святло, гэтаксама душа не зможа зразумець Бога, калі яна прывязаная да створаных рэчаў. І пакуль яна не ачысціцца, яна не зможа ні пераўтварыцца ў чысціні любові, ні асвяціць свой зрок: ні тут на зямлі, ні там на небе. І каб гэта было больш зразумела, я растлумачу гэта больш падрабязна.

4. Усё быццё стварэнняў, калі яго параўнаць з бязмежным быццём Бога, — гэта нішто, і вось чаму душа, калі яна прывязваецца да стварэння, у вачах Божых — нішто, больш за тое, яна — меншая за нішто, бо, як было сказана раней, любоў мае гэтакую ўласцівасць станавіцца падобнаю да таго, каго любіць, яна нават прыніжаецца ў стасунках з тым, каго любіць. Вось чаму, паколькі тое, чаго няма, не можа быць адначасова тым, што ёсць, гэтак і душа, якой няма, не можа паяднацца з бязмежным быццём Бога. І зараз я падрабязна растлумачу гэта з дапамогаю некаторых прыкладаў:

а) Уся прыгажосць стварэнняў — найвышэйшая брыдкасць у параўнанні з бязмежнай прыгажосцю Бога. Як сцвярджае Саламон у «Прыпавесцях»: «*Fallax gratia, et vana est pulchritudo*». «*Уводзіць у зман прыгажосць, і марная ёсць прыгажосць*» (Прып 31, 30). Гэтаксама душа, прывязаная да прыгажосці стварэння, у вачах Бога ёсць найвялікшаю брыдкасцю. І не можа гэта брыдкая душа пераўтварыцца ў прыгажосць, якой ёсць Бог, таму што брыдкасць не можа дасягнуць прыгажосці.

б) Любая ласкавасць і добразычлівасць стварэнняў у параўнанні з ласкаю і добразычлівасцю Божаю з'яўляюцца найвышэйшаю грубасцю і незычлівасцю. Душа таго, хто прагне атрымаць ласкавасць і добразычлівасць ад стварэнняў, стаецца грубаю і незычліваю да Бога, бо яна няздольная атрымаць благаслаўленне і прыгажосць Бога. А той, хто пазбаўлены нястворанай ласкі Божай, існуе жахліва далёка ад Яго добразычлівасці.

в) Любое дабро, якое можна сустрэць у зямных стварэннях, у параўнанні з бязмежным дабром Стварыцеля можна назваць благім, таму што няма нічога добрага па-за Богам (Лк 18, 19). Вось чаму, калі душа прывязваецца да зямнога дабра і добрых рэчаў, перад абліччам Пана яна поўная найвялікшага зла. І, такім чынам, яна ніколі не зможа дасягнуць злучэння з Богам — бязмежным дабром, гэтаксама як благое ніколі не можа пагадзіцца з добрым.

г) Уся мудрасць свету і ўсялякая здольнасць чалавечая, параўнаная з бязмежнай мудрасцю Божай, будуць яўным і найвышэйшым глупствам, паводле таго, што піша святы Павел у пасланні да Карынцянаў: «*Sapientia enim hujus mundi, stultitia est apud Deum*». «*Мудрасць свету гэтага ёсць неразумнасць перад Богам*» (1 Кар 3, 19).

5. Вось чаму ўсялякая душа, якая больш давярае ведам і сваёй уласнай здольнасці дасягнуць Божай мудрасці, з'яўляецца ў найвышэйшай ступені неразумнаю перад абліччам Бога і застанецца далёка ў баку ад яе, бо неразумнасць не ведае, што такое мудрасць. Як гаворыць святы Павел, перад Богам чалавечая мудрасць — глупства. А тыя, хто верыць, што ведаюць нешта, на самай справе перад Богам — дурні. Пра іх гаворыць Апостал, калі звяртаецца да Рымлянаў: «*Dicentes enim se esse sapientes, stulti facti sunt*», гэта значыць: «*Называючы сябе мудрымі, здурнелі*» (Рым 1, 22), і толькі тыя маюць Божую мудрасць, хто, як неразумныя дзеці, не звяртаючы ўвагі на свае веды, служаць Богу ў любові. Менавіта пра такую мудрасць піша святы Павел у пасланні да Карынцянаў: «*Si quis videtur inter vos sapiens esse in hoc saeculo, stultus fiat ut sit sapiens. Sapientia enim hujus mundi, stultitia est apud Deum*», што значыць: «*Калі хто з вас думае быць мудрым у веку гэтым, той хай будзе неразумны, каб быць мудрым. Бо мудрасць свету гэтага ёсць неразумнасць перад Богам*» (1 Кар 3, 18–19). Такім чынам, дзеля таго, каб паяднацца з мудрасцю Божаю, душа павінна імкнуцца да таго, каб не ведаць, замест таго, каб ведаць.

6. д) Любое панаванне і свабода свету, параўнаныя са свабодаю і панаваннем Божага духа, больш падобныя да найвышэйшага ўціску і страху нявольніцтва. Вось чаму душа, улюбёная ў гонар, у пасады і падобнае да гэтага,

прагная свабоды для сваіх жаданняў, перад абліччам Бога не можа быць Ягонаю вольнаю дачкою, але ёсць нявольніцаю і вязнем, бо не захацела здзейсніць у сабе святое вучэнне, якое гаворыць: той, хто хоча ўзвысіцца, няхай станецца малым, і той, хто хоча быць малым, няхай будзе вялікім (Лк 22, 26). Таму душа не зможа дасягнуць сапраўднай свабоды духа ў паяднанні з Богам, бо нявольніцтва ніякім чынам не можа ўдзельнічаць у свабодзе, якая, у сваю чаргу, не можа знайсці сабе месца ў сэрцы нявольніка чалавечых прывязанасцяў. Свабода можа пасяліцца толькі ў сэрцы вольным, бо гэтае сэрца — сэрца сына. З гэтай нагоды Сара папрасіла Абрагама, свайго мужа, каб ён выгнаў нявольніцу з яе сынам, сцвярджаючы, што сын нявольніцы не можа ўдзельнічаць у спадчыне з сынам свабоднай (Быц 21, 10).

7. е) Усе асалоды і прыемнасці, якія воля атрымлівае ад створаных рэчаў, у параўнанні з асалодаю, якой ёсць Бог, з'яўляюцца вялікім болем, пакутаю і горыччу, і той, хто аддае сваё сэрца гэтаму, перад абліччам Бога варты найвялікшага болю, пакуты і горычы. Ён ніколі не зможа дайсці да асалоды абдымкаў злучэння з Богам і варты будзе толькі болю і горычы.

8. ж) Усё багацце і слава стварэння ў параўнанні з багаццем, якім ёсць Бог, з'яўляюцца найвялікшым убоствам і нікчэмнасцю. І таму душа, улюбёная ў сваё ўласнае зямное багацце, ёсць у найвышэйшай ступені ўбогаю і нікчэмнаю перад абліччам Бога. І таму яна не зможа дасягнуць багацця і хвалы, якія з'яўляюцца станам перамянення ў Богу: настолькі стан убоства і нікчэмнасці далёкі ад стану заможнасці і славы. І вось чаму, адчуваючы боль за тых, хто самі сябе робяць брыдкімі, нізкімі, нікчэмнымі і ўбогімі, бо ўлюбёныя ў тое, што яны лічаць заможным і прыгожым у гэтым свеце, звяртаецца да іх Божая мудрасць у Кнізе Прыпавесцяў наступнымі словамі: «*O viri, ad vos clamito, et vox mea ad filios hominum. Intelligite, parvuli, astutiam, et insipientes, animadvertite. Audite, quoniam de rebus magnis locutura sum*»; і далей гаворыцца: «*Mecum sunt divitiae et gloria, opes superbae et justitia. Melior est enim fructus meus auro et lapide pretioso, et genimina me argento electo. In viis justitiae ambulo, in medio semitarum judicii, ut ditem diligentes me, et thesauros eorum repleam*». — «*Да вас, людзі, даклікаюся я, і да сыноў чалавечых мой голас! Навучыцеся, дзеці малыя, добрай разумнасці, зразумейце вы хітрасць, бязглуздыя. Бо ісціну вымавіць язык мой, а бязбожнасць — гідота для вуснаў маіх; усе словы вуснаў маіх слушныя; няма ў іх хітрыны і ашуканства; усе яны простыя разумнаму і справядлівыя тым, хто здабыў веды. <...> Багацце і слава са мною — скарб нятленны, і праўда; плады мае лепшыя за золата, і золата самага чыстага, і карысці ад мяне болей, чым ад чыстага срэбра. Я хаджу дарогаю праўды, сцежкамі правасуддзя, каб даць тым, хто мяне любіць, спадчыну дабра, і скарбніцы іхнія я напаўняю*» (Прып 8, 4–8, 18–22).

У гэтых словах Божая мудрасць размаўляе з усімі, хто аддаў сваё сэрца прывязанасці да якойсьці рэчы гэтага свету, як мы ўжо казалі. І называе іх малымі дзецьмі, бо яны становяцца падобнымі да рэчаў, якія любяць, а гэта і ёсць нікчэмнасць. І таму яна ім гаворыць, каб яны навучыліся хітрасці і былі б уважлівымі, бо яна гаворыць аб рэчах вялікіх, а не малых, як яны, і што вялікае багацце і хвала, якія яны любяць, знаходзяцца не там, дзе яны думаюць, але там, дзе Яна — мудрасць, з Ёю і ў Ёй, там — сапраўднае багацце і справядлівасць. І паколькі гэтым асобам падаецца, што багацце гэтага свету — найвышэйшае за ўсё, Мудрасць хоча, каб яны зразумелі, што Яе багацце лепшае за іхняе. І затым дадае, што плён, які яны знойдуць у Ёй, — найдаражэйшы за золата і за каштоўныя камяні, бо тое, што Мудрасць народзіць у іх душах, лепей за чыстае срэбра, якое яны так любяць. Тут маюцца на ўвазе магчымыя ў гэтым жыцці прывязанасці да любога роду рэчаў.

*Пераклад з іспанскай мовы Святланы Грэсві.*

*Працяг будзе.*

* У трактаце святога Яна ад Крыжа цытаты са Святога Пісання падаюцца на лацінскай мове. У беларускім тэксце яны пададзеныя ў перакладзе С. Грэсві.



# ВЫСТАВА БЕЛАРУСКІХ АБРАЗОЎ У ВАТЫКАНЕ

2016 год у Беларусі, як вядома, абвешчаны Годам культуры, а Папам Рымскім Францішкам у паўсюдным Касцёле — Надзвычайным Юбілейным Годам Міласэрнасці пад дэвізам «Міласэрныя, як Айцец». Пад гэтымі дэвізамі культурнай разнастайнасці і міласэрнасці праходзяць знакавыя падзеі нашага духоўнага жыцця.

Сімвалічна, што выстава «Іканапіс Беларусі XVII–XXI стст. з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея адкрылася ў будынку пінакатэкі музеяў Ватыкана менавіта ў Міжнародны дзень музеяў — 18 мая. На адкрыцці выставы прысутнічалі міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Макей, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Каралеўстве Вялікабрытанія, Паўночнай Ірландыі і Святога Пасаду Сяргей Алейнік, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, настаяцель мінскага прыходу Усіх Святых протаіерэй Фёдар Поўны, Генеральны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзімір Пракапцоў, дырэктар музеяў Ватыкана прафесар Антоніо Паолучы, супрацоўнікі музеяў Ватыкана, прадстаўнікі еўрапейскіх амбасадаў, журналісты. Адкрыццё выставы ўпрыгожыла выступленне праваслаўнага хору мінскага прыходу Усіх Святых, а твор «*Ave Maria*», які выканала Патрыцыя Курганава, беларуская ўдзельніца праекту «Голас», выклікаў слёзы ўзрушэння і авацыі ўсіх прысутных.

21 мая ў час афіцыйнага візіту ў Ватыкан выставу наведаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ў суправаджэнні Дзяржаўнага Сакратара Апостальскай Сталіцы кардынала П'етра Параліна. Прэзідэнт Беларусі перадаў у дар музею Ватыкана копію крыжа Еўфрасінні Полацкай і сучасную беларускую ікону. Выстава будзе доўжыцца да 25 ліпеня 2016 года.

Мы папрасілі расказаць пра выставу галоўнага яе арганізатара — Генеральнага дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь У.І. Пракапцова і яе куратара — загадчыцу аддзела старажытнабеларускага мастацтва музея А.У. Карпенку.

— *Уладзімір Іванавіч, як узнікла ідэя выставы ў Ватыкане? Хто з'яўляецца яе ініцыятарам?*

— **У. Пракапцоў:** З ініцыятывай такой унікальнай выставы выступіў беларускі бок. Ідэя нарадзілася яшчэ 9 гадоў таму, у 2007 годзе. У чэрвені 2014 года ў Беларусь падчас правядзення IV Еўрапейскага праваслаўна-каталіцкага форуму прыехалі арцыбіскуп Эстэргомскі і Будапешцкі, прэзідэнт Савета Біскупскіх канфэрэнцый Еўропы, кардынал Пэтэр Эрдэ, кіраўнік дыпламатычнага прадстаўніцтва, Апостальскі нунцый у Рэспубліцы Беларусь арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці. Па маім запрашэнні яны наведалі выставу «Праваслаўны свет. Вобраз Хрыста ў іканаграфіі краін Усходняй Еўропы» і высока ацанілі майстэрства беларускіх іканапісцаў. Пасля візіту ідэя правядзення выставы стала больш рэальнай. Выстава арганізавана пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры і Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь з удзелам прыходу Усіх Святых горада Мінска. Упершыню беларускія абразы дэманстраваліся ў Італіі ў галерэях Мілана і Трыеста ў 2004–2005 гадах. Ужо тады стала зразумела, што нашы іконы выклікалі вялікую цікавасць да сакральнага мастацтва Беларусі, зусім не вядомага ў

Італіі. Італьянскія спецыялісты адзначылі, што беларуская ікона вельмі адрозніваецца ад рускай, мае сваю адметнасць, якая перадае ментальнасць і характар нацыі. Задача выставы ў Ватыкане — пазнаёміць шматлікіх турыстаў з усяго свету і мастацтвазнаўцаў з найлепшымі творамі беларускай сакральнай культуры. Працэс падрыхтоўкі быў вельмі няпростым, бо даводзілася ўлічваць асаблівасці дзейнасці гэтага аднаго з самых багатых і знакамітых музеяў свету. У апошнія гады музеі Ватыкана не прымалі міжнародныя выставы з-за адсутнасці вольных памяшканняў. Для Беларусі было зроблена выключэнне: наша выстава размешчаная ў адным з залаў пастаяннай экспазіцыі пінакатэкі — «Візантыйскае мастацтва XVстагоддзя».

*— Дзе менавіта выстаўленыя абразы ў музеях Ватыкана?*

— **У. Пракапцоў:** Нашай выставе адведзена вельмі статусная пляцоўка — іконы дэманструюцца ў зале з грэцкім іканастасам, у непасрэднай блізкасці ад залы Рафаэля. Штодня праз гэтыя залы праходзяць каля 30 тысяч турыстаў з усяго свету. Больш удалае месца для дэманстрацыі выставы цяжка было б знайсці. Мы, арганізатары, адчувалі гонар ад таго, што творы нашага музея, абразы народных беларускіх майстроў з сельскіх забытых цэрквачак і касцёлаў знаходзяцца побач з самымі знакамітымі карцінамі свету.

*— У калекцыі нашага Нацыянальнага мастацкага музея больш за 500 абразоў. Які быў прынцып выбару твораў?*

— **У. Пракапцоў:** Адбор экспанатаў дыктаваўся ўмовамі залы. Спачатку быў падрыхтаваны адзін камплект выставы з сарака абразоў, але потым ён быў зменены, бо ўдакладнілася месца размяшчэння выставы. Цяпер іконы невялікага памеру дэманструюцца на шчытах у



Падчас адкрыцця выставы.

невялікіх вітрынах. Давялося прыдумаць спецыяльную канструкцыю шчытоў, якая выглядае вельмі годна. Пад кожную шкляную вітрыну прыстасавалі па тры пары металічных падпорак, каб ад цяжару нашых іконаў не разламалася шкло вітрынаў. Некаторыя з размешчаных на іх абразоў спецыяльна адрэстаўраваныя для гэтай выставы і экспануюцца ўпершыню.

*— Раскажыце, калі ласка, аб знакавых экспанатах выставы.*

— **А. Карпенка:** На выставе прадстаўлены 29 абразоў беларускіх іканапісцаў са збору музея і 2 чаканныя аклады, а таксама два абразы сучаснага іканапісца Андрэя Жарова. Усе яны па-свойму цікавыя. Яны адносяцца да часу фарміравання нацыянальнай школы іканапісу і ўзлёту нацыянальнай культуры ва ўсіх яе праявах: беларускія майстры хутка асвойваюць перадавыя заходнееўрапейскія стылі, складаную арнаментыку і сімволіку барока, а пасля — ракако.

Выстава складаецца з некалькіх комплексаў: 12 твораў святочнага шэрагу іканастаса Крыжаўздвіжанскай царквы (1754–1757) сяла Аброў Івацэвіцкага раёна на Брэстчыне, сюжэты з жыцця Маці Божай на абразах з Шарашова Пружанскага р-на Брэсцкай вобласці, а таксама выбраныя выявы мясцовашанаваных святых. Прадстаўлены некалькі іканаграфічных тыпаў Маці Божай, апякункі Мінска. Многія цудатворныя іконы Маці Божай — як знакамітая Жыровіцкая або прадстаўленая на выставе Маці Божая Барунская з Кобрынскага раёна — шануюцца абедзвюма канфесіямі. Вобраз Маці Божай адлюстроўвае народнае разуменне прыгажосці — менавіта такая Маці Божая Адзігітрыя XVII стагоддзя з царквы вёскі Галынка Мінскай вобласці. Яна нядаўна, у 2011 годзе, была адрэстаўраваная Аркадзем Шпунтам. Жывыя, быццам выпраменьваючыя духоўны свет абліччы Маці Божай і Дзіцяткі, увасабляюць народны ідэал жаноцкасці. Колеравая гама твора яркая, насычаная. Абраз намаляваны невядомым майстрам з каларыстычнай вытанчанасцю і гарманічнасцю, адухоўленай цеплынёю вобразаў. На выставе дэманструецца і створаны для абраза металічны залачоны аклад, упрыгожаны раслінным арнаментам у стылістыцы барока.

Лёсы многіх нашых твораў іканапісу драматычныя. Быў вывезены ў Германію ў пачатку вайны «Арханёл Міхал». Такі ж



Падчас выступлення мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча на адкрыцці выставы.

лёс напаткаў і абраз Маці Божай Адзігітрыі XVII ст. смаленскага тыпу з вёскі Вербавічы Рэчыцкага павета Гомельскай вобласці, які да вайны захоўваўся ў Беларускім дзяржаўным музеі. На шчасце, яны былі вернутыя ў 1948 годзе. Маці Божая Адзігітрыя зноў паступіла ў Беларускі дзяржаўны музей Мінска, а праз 6 гадоў была перададзена ў Дзяржаўную карцінную галерэю БССР.

*— Алена Уладзіленаўна, у чым адметныя асаблівасці беларускай школы іканапісу?*

— **А. Карпенка:** Культура ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай, дзе дамінаваў Каталіцкі Касцёл, была арыентаваная на вышэйшыя дасягненні італьянскага Рэнесансу і Барока. Адкрытасць і гарманічнасць, якія ўласцівыя іх мастацкай мове, ляжаць у аснове большасці нацыянальных помнікаў нашага сакральнага мастацтва. Беларускія майстры ў XVIII– пачатку XIX стагоддзя ствараюць асаблівыя, непаўторныя вобразы святых. У большасці сваёй — гэта канкрэтныя асобы з яркай індывідуальнасцю. На беларускіх землях адначасова развіваліся сакральны і партрэтны жывапіс. Індывідуальнымі і выразнымі рысамі адметныя іконы Маці Божай Пясковай, Маці Божай Мінскай, выбраныя святыя на трохчасткавай іконе з царквы вёскі Чарнякава Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Нацыянальныя асаблівасці беларускай іканапіснай школы праяўляюцца ў выкарыстанні арнаментальных разьбяных пазалочаных фонаў, упрыгожванні абразоў масіўнымі рамамі з дэкаратыўнымі накладкамі, роспісам у народным стылі. Беларускія мастакі ўзбагацілі кананічныя сюжэты апавядальнымі матывамі. Выявы народных касцюмаў, бытавых прадметаў, гарадскіх і сельскіх пейзажаў надаюць часам нашым абразам рысы жанравых карцінаў, а іх прыгажосць і дэкаратыўнасць падкрэсліваюць чаканныя металічныя аклады, часта пазалочаныя або пасярэбраныя, таксама прадстаўленыя на выставе. Царкоўны жывапіс Беларусі значна адрозніваецца ад рускай іконы, у якой даўжэй культываваліся візантыйскія традыцыі ў непарушнай сімвалічнасці сакральных вобразаў.

*— Ці ёсць на выставе іконы, якія шануюцца і каталікамі, і праваслаўнымі?*

— **А. Карпенка:** Такіх іконаў некалькі. Гэта вобраз Міхала Арханёла, Маці Божай Кракаўскай (Пясковай), Маці Божай Барунскай, трохчасткавая ікона з выявамі Маці Божай Барунскай, свяціцеля Мікалая, Параскевы Пятніцы і выбраных святых з сяла Чарнякава. Вельмі цікавая гісторыя Маці Божай Пясковай з царквы святой Параскевы Пятніцы ў Старых Дзявяткавічах Слонімскага раёна. Навуковая экспедыцыя музея вывезла гэтую ікону з закрытай падчас барацьбы з рэлігіяй царквы ў 1975 годзе. Пратограф іконы знаходзіцца ў кракаўскім касцёле кармэлітаў, заснаваным Уладзіславам Ягайлам і каралевою Ядвігаю ў 1395 годзе. У канцы XVI – пачатку XVII стагоддзя на сцяне над уваходам у храм манах кармэліт пачаў пісаць вобраз Маці Божай. Ён паспеў абмаляваць толькі Яе контур, бо ўжо цямнела, але раніцаю манахі ўбачылі цалкам намаляваны абраз, і чуваць было спевы анёла. Да выявы пачаў збірацца народ, адчуваючы цудоўную дапамогу ад Божай Маці. Для захавання іконы да царкоўнай сцяны прыбудавалі капліцу. У 1655 годзе касцёл быў паўразбураны шведскім войскам, але абраз застаўся цэлым. У 1683 годзе кароль Ян Сабескі, збіраючыся на бітву пад Венаю, прыходзіў да гэтай іконы на малебен. У 1764 годзе Рым даў дазвол на каранацыю абраза як цудатворнага, але ўрачыстасць адбылася толькі ў 1882 годзе. Назва «Пясковая» паходзіць ад месца, дзе стаіць касцёл у Кракаве («На пяску»). Згодна з легендаю, у XI стагоддзі тым пяском вылечыўся ад ранаў кароль Уладзіслаў Герман. У 1610–1673 гадах у Кракаве выдаваліся гісторыі з'яўлення і цудаў кармэліцкай іконы. У Вялікім Княстве Літоўскім кракаўская ікона стала вядомая пасля выхаду кнігі пра 12 цудатворных іконаў у храмах Польшчы. Кніга напісаная прафесарам Янам Дрэўсам, з гравюрамі Лявонція

Тарасевіча (Вільня, 1687). Ікону можна лічыць рарытэтам, мабыць, адзіным прыкладам такой іканаграфіі ў Беларусі. Цікава, што абраз паходзіць не з каталіцкага касцёла (як яго прататып), а з царквы святой Параскевы Пятніцы. Верагодна, яна згадваецца ў галоўным алтары царквы ў вопісе ад 1784 года. Гэта яшчэ раз пацвярджае, што вобраз Маці Божай любімы і шанаваны і каталікамі, і праваслаўнымі.

*— На выставе экспануюцца дзве сучасныя іконы. У якіх традыцыях яны напісаныя? Якую ролю адыгрываюць на выставе?*

— **А. Карпенка:** Гэтыя абразы напісаў малады іканапісец Андрэй Жараў з Мінска. Узорамі для напісання абразоў «Унебаўзяцце Багародзіцы» і «Косма і Дам'ян» паслужылі старажытныя помнікі хрысціянскага мастацтва: мазаікі Рыма і Равэны, а таксама іконы VI стагоддзя, выкананыя ў тэхніцы энкаустыкі. Асновай творчасці Андрэя Жарава з'яўляецца стварэнне сучаснай іконы праз пранікненне ў традыцыі ўсходнехрысціянскага мастацтва, пачынаючы з роспісаў першых хрысціянскіх катакомбаў, аж да іконы XXI стагоддзя. Агульная кампазіцыя і мастацкія вырашэнні — іканаграфія лікаў Космы і Дам'яна, малюнак Хрыста ў цэнтры кампазіцыі, сіні фон з аблокамі — шмат у чым адпавядаюць вобразу святых лекараў у алтары базылікі святых Космы і Дам'яна ў Рыме (VI стагоддзе). Андрэй Жараў маладым далучыўся да свету царкоўнага мастацтва праз свайго бацьку — іканапісца Паўла Жарава. Да таго ж, ён атрымаў фундаментальную адукацыю на іканапісным аддзяленні Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі (майстэрня В.Т. Жданавай) і ў маскоўскім Праваслаўным Свята-Ціханаўскім гуманітарным універсітэце (майстэрня дацэнта кафедры іканапісу, протаіерэя Мікалая Чарнышова). Іконы ён выконвае ў розных тэхніках: васковага жывапісу, яечнай тэмперы, а таксама насценнага казеінавага і сілікатнага жывапісу. Цяпер Андрэй Жараў уваходзіць у склад Архітэктурна-мастацкай рады пры Мінскім епархіяльным упраўленні, піша іконы для праваслаўных храмаў і манастыроў. У 2007–2016 гадах ён распрацаваў праект іканастаса і напісаў частку іконаў для Спаса-Праабражэнскага храма Еўфрасіннеўскага манастыра ў Полацку. Як вядома, гэтая царква з'яўляецца помнікам са спісу сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Гэтыя абразы дэманструюць трансфармацыю традыцыйнага іканапісу ў сучасны жывапіс Беларусі, а таксама жывую пераемнасць іканапісцаў.

*— Якая была рэакцыя на выставу спецыялістаў і наведвальнікаў музея?*

— **У. Пракапцоў:** Адкрыццё выставы праходзіла ў зале Рафаэля і выклікала вялікую цікавасць. За першыя два дні працы выставы старонкі «Кнігі водгукаў» напоўніліся захопленымі радкамі на некалькіх мовах свету. Выставу з цікавасцю наведалі і ўдзельнікі канферэнцыі біскупаў, якая праходзіла ў гэтыя дні ў Ватыкане, і спецыялісты-мастацтвазнаўцы. Дырэктар музея Ватыкана, буйны італьянскі вучоны, знаўца сусветнага сакральнага мастацтва, некалькі разоў даваў інтэрв'ю журналістам. У гэты раз мы не змаглі паказаць з усёю паўнатою беларускі іканапіс і вырашылі арганізаваць такую выставу ў Мінску напярэдадні Трэцяга Нацыянальнага музейнага форуму, які адбудзецца ў Магілёве. Я, як Генеральны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея, запрасіў свайго калегу — прафесара, дырэктара музеяў Ватыкана спадара Антоніо Паолучы — наведаць Мінск у верасні гэтага года для знаёмства з нашым Нацыянальным мастацкім музеем, абмеркаваннем сумесных выставачных праектаў у сферы абмену спецыялістамі і стажыровак рэстаўратараў. Да гэтага часу будзе падрыхтавана вялікая выстава іканапісу, будуць выпушчаныя маркі з выяваю Маці Божай, напісанай у каталіцкай і праваслаўнай традыцыях.

*— Уладзімір Іванавіч, на Ваш погляд, якую ролю адыграе гэта першая выстава ў Ватыкане для беларускай і еўрапейскай духоўнай культуры?*

— **У. Пракапцоў:** Для беларускага народа заўсёды была важная духоўная аснова існавання. Яна дазволіла нам захаваць сваё нацыянальнае адзінства, мову і культуру ў складаны перыяд заваявальных войнаў і тэрытарыяльных падзелаў. Гэтая выстава — своеасаблівая маніфестацыя беларускай духоўнай культуры, дэманстрацыя мастацкай адметнасці нашага іканапісу, нацыянальнай ідэнтычнасці беларускага народа ў еўрапейскай сям'і народаў. Гэтая дэманстрацыя беларускага іканапісу сярод шэдэўраў сусветнага мастацтва паказала, што беларуская ікона развівалася ў кантэксце агульнаеўрапейскай мастацкай культуры. Для еўрапейцаў — гэта адкрыццё ў шырокім сэнсе духоўнай культуры Беларусі, яе яркага і самабытнага феномену. Гэты праект мае не толькі музейны характар — гэта дзяржаўны рэлігійна-палітычны праект, які ставіць, у тым ліку, і задачу ўмацавання іміджу нашай краіны як талерантнай поліканфесійнай міратворчай дзяржавы. Хрысціянскі абраз — гэта «акно ў веру», і наша выстава стала такім своеасаблівым «акном у Еўропу».

*Размаўляла Надзея Усава — загадчык аддзела навукова-асветніцкай працы Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.*

*Фота Аляксандра Панчанкі.*



«Апошняя Вячэра», сярэдзіна XVIII ст.
абраз з Аброўскага іканастаса (в. Аброва Івацэвіцкага р-на).
Захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

Аляксандр ЯРАШЭВІЧ

# Адзінства ў разнастайнасці

Рым для беларусаў — горад не чужы. Для многіх з нашых продкаў вера ў Хрыста прыйшла менавіта з Вечнага горада. Своеасаблівым сімвалам сувязі з хрысціянскім Рымам з'яўляецца абраз Маці Божай «Пратэктаркі рымлянаў» з базылікі Санта-Марыя-Маджорэ, паўторы якога разышліся па Беларусі ад Гродна да Хоцімска. Варта згадаць, што Жыровіцкі цудатворны абраз набыў вядомую ўсім жывапісную іканаграфію ў Рыме як насценная фрэска. Шмат якія абразы Маці Божай у нашых касцёлах іканаграфічна паходзяць ад рымскіх першаўзораў, але набылі цалкам мясцовае аблічча...

Барунская ікона Маці Божай звязана з манахам базыліянінам Язафатам Бражыцам, ігуменам Полацкага манастыра, які ў 1671 г. убачыў Маці Божую ў мроі такою, якою Яна паказаная на Барунскім абразе. Перадаўшы яго дабрачэснаму Мікалаю Песляку, Бражыц у 1683 г. памёр. У 1692 г. Пясляк заснаваў у Барунах кляштар і перадаў туды ікону, якая адразу стала вядомай сваімі цудамі. У 1712 г. протаархіман-

---

**Аляксандр ЯРАШЭВІЧ** — кандыдат мастацтвазнаўства. Даследуе мастацтва эпохі Барока і гісторыю рэлігіі на Беларусі. Адзін з аўтараў двухтомнага даведніка «Рымска-каталіцкія Кальварыйскія могілкі ў Мінску на Беларусі» (Варшава, 1996, 2000), аўтар кніг "Маці Божая Снежная» ў Беларусі» («Про Хрысто», 2003), «Абраз Маці Божай Будслаўскай» («Про Хрысто», 2004), укладальнік і адзін з аўтараў альбома «Музей старажытнабеларускай культуры» (Мн., 2004). Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

дрыт закону базыліянаў Леў Кішка надрукаваў у Супраслі кнігу з вопісам засведчаных ад яе цудаў. Дарэчы, гэтая ікона ацалела падчас пажару драўлянай царквы і ў новай царкве ў 1715 г. была змешчаная ў асобным алтары. У XVIII–XIX стст. Барунская ікона стала адною з самых шанаваных ва ўніяцкім асяроддзі. Іконаграфічна яна падобная да Адзігітрыі беларускай школы іканапісу. На ёй Дзіцятка Езус у белым хітончыку паўляжыць на левай руцэ Панны Марыі, апранутай у хітон вішнёвага колеру і ў сіне-зялёны мафорый. Вакол іх галоваў — німбы ў выглядзе прамяністага ззяння, на фоне кірыліцаю нанесеныя манаграмы Маці Божай і Збавіцеля.

Абразоў Маці Божай Барунскай захавалася нямнога. Той, што з-пад Кобрына, — гэта значна паменшаная копія, аднак яна дакладна перадае іканаграфію пратографа. Яго з'яўленне, досыць далёкае ад Барунаў, напэўна, звязана са старажытным манастыром Святога Спаса ў Кобрыне, ад пачатку XVIII ст. базыліянскім.

Абраз XVIII ст. Маці Божай Пясковай трапіў у музей з царквы св. Параскевы ў Старых Дзявяткавічах, што на Слонімшчыне. Цудатворны пратограф «Пясковай» знаходзіцца ў кракаўскім касцёле кармэлітаў.

У Вялікім Княстве Літоўскім кракаўскі абраз стаў вядомы пасля выдання ў Вільні (1687 г.) кнігі прафесара Яна Дрэўса пра 12 цудадзейных абразоў Маці Божай у Рэчы Паспалітай з медзярытамі Лявонція Тарасевіча. Абраз з Дзявяткавічаў — сапраўдная рэдкасць для Беларусі. Цікава, што ён быў выяўлены не ў каталіцкім касцёле, але ў калісьці ўніяцкай царкве ў 1820 г. у Старых Дзявяткавічах. Магчыма, абраз быў падараваны ў храм сямействам Слізеняў, уласнікаў вёскі ў XVIII ст.



Маці Божая Адзігітрыя. XVII ст.
З царквы в. Вербавічы Гомельскай вобл.
Захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

«Маці Божая Адзігітрыя» з царквы св. Параскевы ў вёсцы Вербавічы Рэчыцкага павета была перададзеная ў 1912 г. святаром у Мінскі царкоўна-археалагічны музей. Пасля перавароту 1917 г. новыя гаспадары Беларусі зачынілі гэты музей, але незвычайная ікона знайшла прытулак у БДМ (Беларускім дзяржаўным музеі). У 1944 г. экспанаты гэтага музея былі эвакуяваныя ў Германію, і, магчыма, хоць частку іх гэта ўратавала ад бомбаў і пажараў. У 1948 г. вербавіцкі абраз разам з іншымі быў вернуты ў Мінск і з 1957 г. захоўваецца ў фондах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Час ад часу гэты абраз з'яўляецца на выстаўках як сапраўды ўнікальны твор беларускага мастацтва, выкананы не ў жывапісе, а ў выглядзе барэльефа, выразанага з дрэва ліпы. На гэтым абразе Багародзіца трымае Дзіця Езуса на левай руцэ (абое прадстаўлены амаль франтальна). Своеасаблівай рысаю іка-



Абразы з Шарашоўскага іканастаса. 2-я пал. XVIII ст.
Захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

награфіі Адзігітрыі з'яўляецца досыць буйная сфера — сімвал сусвету, на якую Езус усклаў руку (Ён не трымае яе знізу, як на цудатворных Мінскім і Бялыніцкім абразах). Мафорый Дзевы Марыі і пазалочаны хітон Езуса выразаны плаўнымі рэльефнымі складкамі. Праставатая, але выразная пластыка, характэрны тыпаж святых твараў сведчаць пра работу мясцовага выканаўцы.

Гісторыя абраза з вёскі Чарнякава на Брэстчыне мае цудадзейны пачатак. Больш за тры вякі назад у мясцовага селяніна раптам прапалі валы. Шукаючы іх, ён доўга хадзіў па лесе аж да вечара, заблудзіўся і страціў надзею ў цемнаце знайсці дарогу дадому, хоць і без валоў. І раптам ён заўважыў нейкае святло наперадзе. Пайшоўшы на яго, селянін убачыў, што яно сыходзіць ад абраза на вершаліне сасны, а побач спакойна пасвяцца яго валы. Людзі пачалі хадзіць да гэтай сасны з абразком, а потым паставілі там каплічку і ўнеслі ў яе абраз. Уласнік той мясцовасці Юрэвіч у 1725 г. пабудаваў царкву, у якую перанеслі яўлены абраз. У Першую сусветную вайну абраз, як і некаторыя іншыя шанаваныя абразы, з Беларусі быў вывезены ў Расію. Амаль усе яны зніклі ў гады бальшавіцкага перавароту. Вярнуліся на радзіму толькі Жыровіцкі і Чарнякаўскі — яны перажылі Другую сусветную вайну. А ў 1960-я гады камуністычныя ўлады аб'явілі новую вайну з «опіумам для народа» (рэлігіяй), пачалі зачыняць цэрквы і касцёлы, знішчаць абразы і там, дзе не маглі гэтага зрабіць у 1930-я гг. — на захадзе Беларусі. У гэты перыяд бясследна знік Свержаньскі абраз Маці Божай, які за 450-гадовую гісторыю непарушным перажыў усе войны і пажары. Чарнякаўскі абраз, на шчасце, людзі захавалі і неўзабаве перадалі ў Дзяржаўны мастацкі музей (для храма была выканана даволі дакладная яго копія).

Абраз мае ўнікальную двух'ярусную шматсюжэтную кампазіцыю: уверсе прадстаўлена Маці Божая, падобная да Барунскай, і св. Мікалай (Чарнякаўская царква асвечаная ў яго гонар). Унізе — невядомы святы, свяціцелі Васіль Вялікі, Рыгор Багаслоў, Іаан Златавусны і св. Параскева. У канцы XIX ст. брэсцкі епіскап Іосіф (Сакалоў) меркаваў, што на Чарнякаўскім абразе паказаны маскоўскія мітрапаліты, але такой ідэнтыфікацыі пярэчыць іх іканаграфія.

Выключнае месца ў праваслаўным храме і ў гісторыі іканапісу належыць іканастасу; у ім у нагляднай форме лаканічна выкладзена ўся гісторыя Новага Запавету. Беларускі іканастас найчасцей складаецца з трох ярусаў: мясцовага з царскімі і

дыяканскімі варотамі, абразамі Спаса і Маці Божай, тытулу храма, Дэісуснага (з абразамі Спаса і апосталаў) і святочнага, у якім паказаныя галоўныя падзеі евангельскай гісторыі Хрыста. Гэты рад можна чытаць як Евангелле ў фарбах. Намаганнямі атэістаў з сякерамі ў 1930-я гады абразы ва Усходняй Беларусі былі татальна знішчаныя. Заходняя Беларусь знаходзілася па-за межамі атэістычнай савецкай імперыі, таму і захаваліся два святочныя цыклы з іканастасаў, цяпер выстаўленыя ў ватыканскім музеі. 12 абразоў сярэдзіны XVIII ст. у стылі позняга барока паходзяць з царквы Уздзвіжання Святога Крыжа ў сяле Аброва (дакладней — у Вульцы Аброўскай). Бліжэйшым царкоўным і мастацкім цэнтрам быў і цяпер з'яўляецца Пінск: хутчэй за ўсё, адтуль паходзіў таленавіты майстар абразоў для Аброўскага іканастаса, на жаль, імя яго засталося для нас невядомым.

У старажытным мястэчку Шарашова здаўна існавалі дзве царквы: драўляная — Нараджэння Багародзіцы (Прачысценская) і мураваная — св. Мікалая. У ахвяру нячыстай сіле ўлады прынеслі драўляную, якую лягчэй было разламаць, але ад яе засталася званіца — цудоўны помнік беларускай драўлянай архітэктуры 2-й паловы XVIII ст. Разабраны ікананастас удалося ўратаваць — ён быў вывезены ў Дзяржаўны мастацкі музей у Мінску. Святочны рад у ім мае ажно 24 абразы; гэта незвычайная колькасць, бо праваслаўны каляндар налічвае ўсяго 12 асноўных («двунадзясятых») святаў, прадстаўленых у іканастасе. У Шарашоўскім іканастасе яны адлюстраваныя больш разгорнута, лаканічнымі кампазіцыямі і некаторымі дапаўняльнымі сюжэтамі. Тытульнае свята храма паказана ў дзвюх выявах: «Сустрэча Яўхіма і Ганны пры Залатых варотах» і «Нараджэнне Багародзіцы», далей —«Уводзіны Марыі ў храм», а затым «Св. Яўхім і Ганна з Марыяй на каленях», «Нябеснае благаслаўленне Марыі», «Сустрэча Марыі і Альжбеты», «Дабравешчанне», «Нараджэнне Хрыста і пакладненне вешчуноў», «Стрэчанне», «Абразанне», «Хрышчэнне», «Перамяненне», «Уваскрашэнне Лазара», «Уваход у Ерусалім», «Укрыжаванне», «Уваскрашэнне-Сыходжанне ў пекла», «Узнясенне», «Сыходжанне Св. Духа на апосталаў», «Успенне Багародзіцы», «Паднясенне крыжа» і ў канцы загадкавая выява св. Іосіфа (?), які нібыта ідзе ў горы. Усе выявы належаць працы невядомага самабытнага мастака, магчыма, з Бярэсця, але даказаць гэта метадам параўнання нельга, таму што ў 1830-я гады старажытны Брэст з храмамі розных канфесій быў разбураны дзеля пабудовы на яго месцы крэпасці.

Заўважым, што Італія ў XVII–XVIII стагоддзях зрабіла вельмі прыкметны ўплыў на беларускую архітэктуру і мастацтва, і наведвальнікі выставы нашых абразоў у ватыканскім музеі змогуць заўважыць у іх знаёмыя рысы.



Успенне Багародзіцы. XXI ст. Мастак Андрэй Жараў.
Захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

Ева Лявонава

# «КАБ ДУША ТВАЯ АБУДЗІЛАСЯ...»

## *Гісторыя і сучаснасць у творчасці Генрыка Сянкевіча*



У гэтым годзе асоба і творчасць Генрыка Сянкевіча прыцягваюць да сябе асаблівую ўвагу літаратуразнаўцаў і чытачоў, найперш — адданых аматараў гістарычнага рамана: 5 мая польская і сусветная грамадскасць адзначылі 170-годдзе з дня нараджэння слыннага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Генрыка Сянкевіча, а 15 лістапада споўніцца 100 гадоў, як ён пайшоў з жыцця. У Польшчы гэты год аб'яўлены Годам Генрыка Сянкевіча.

Нарадзіўся будучы пісьменнік 5 мая 1846 года ў мястэчку Воля Акшэйска на Падляшшы, непадалёк ад Лукава (цяпер гэта Сядлецкае ваяводства). Продкі Генрыка Сянкевіча, паводле біяграфічных крыніцаў, мелі татарска-беларускае паходжанне. З боку бацькі яны традыцыйна знаходзіліся на вайсковай службе; у XVIII ст. змянілі мусульманскае вераспавяданне на каталіцкае і набылі шляхецтва. Вайскоўцам быў і прадзед Міхал Татар, і дзед, які ў афіцэрскім чыне браў удзел у напалеонаўскіх войнах, а пазней уладкаваўся рабіць ляснічым. Бацька ж, Жозеф Сянкевіч, быў небагатым арандатарам. Больш знатнае паходжанне мела маці: род Цецішкоўскіх, да якога належала Стэфанія, лічыўся адным з самых старых і знакамітых. Варта заўважыць, што яна сама не была абдзеленая літаратурным талентам: пісала вершы і прозу. Напярэдадні паўстання 1863 г. сям'я Сянкевічаў (Генрык меў старэйшага брата Казіміра і трох малодшых сясцёр — Зоф'ю, Анэлю і Хэлену) перабралася ў Варшаву.

Генрыка Сянкевіча звязвае з Беларуссю не толькі паходжанне. Ужо вядомым пісьменнікам ён наведваў у маёнтку Дубнікі (цяпер тэрыторыя Астравецкага раёна) дзядзьку сваёй першай жонкі Бранíслава Мінейку; тут ён адпачываў, паляваў, гэтымі мясцінамі, іх гісторыяй і краявідамі яму былі падказаны многія эпізоды раманаў «Патоп» і «ПанВаладыёўскі». «Што я рабіў па шляху да Маладзечна? Абдумваў сцэны з „Валадыёўскага"», — пісаў у адным з лістоў Г. Сянкевіч.

У Варшаве Генрык Сянкевіч закончыў гімназію, вучыўся ў Варшаўскай Галоўнай школе (з 1869 г. — у Варшаўскім універсітэце), аднак у 1871 г. пакінуў вучобу і пачаў актыўна супрацоўнічаць са сталічнай прэсай як аглядальнік тэатральных падзеяў, рэпарцёр і фельетаніст, а пасля — як выдавец і рэдактар. У 1872 г. выйшла яго аповесць з жыцця студэнтаў «Дарэмна», якую ўхваліў Юзаф Крашэўскі; у шэрагу газет з'явіліся і апавяданні Г. Сянкевіча, падпісаныя псеўданімам «Літвас».

У 1876 г. Г. Сянкевіч едзе ў Злучаныя Штаты Амерыкі, маючы на мэце, па-першае, даслаць на радзіму цыкл карэспандэнцый аб жыцці гэтай краіны (пазней яны выйдуць асобнай кнігай «Лісты з падарожжа»), па-другое, узяць удзел у ажыццяўленні сацыяльнай задумы (утапічнай, як аказалася) — стварэнні ў штаце Каліфорнія поль-

**Ева Лявонава** — кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Крытык і навуковец. Працуе ў такіх галінах літаратуразнаўства, як германістыка, беларусістыка, кампаратывістыка, вывучае беларуска-замежныя літаратурна-культурныя сувязі. Апублікавала ў айчынным і замежным друку больш за 400 артыкулаў, навуковых і навукова-метадычных працаў, у тым ліку кнігі «Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX–XX стагоддзяў» (1998), «Беларуская літаратура XX ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт» (2002), «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры» (2003), «Немецкая литература XX века: Германия. Австрия» (Москва: Флинта; Наука, 2010) і інш. Аўтар і сааўтар многіх вучэбных праграм, вучэбных дапаможнікаў і падручнікаў для выкладчыкаў-славеснікаў, студэнтаў і школьнікаў.

скай сельскагаспадарчай камуны. Час знаходжання ў Амерыцы (да сакавіка 1878 г.) быў багаты на незабыўныя сустрэчы з самымі рознымі людзьмі — польскімі эмігрантамі, белымі амерыканцамі, індзейцамі; пазней драматычныя лёсы многіх з іх знойдуць мастацкае ўзнаўленне ў творах пісьменніка. Дарэчы, у Каліфорніі Генрык Сянкевіч пазнаёміўся і пасябраваў з беларусам Юльянам Гарайнам, пра якога распавёў наш вядомы вучоны Адам Мальдзіс у артыкуле «Беларускі сябар Сянкевіча» («Літаратура і мастацтва», 26.02.1966). Родам з-пад Радашковічаў, Гарайн закончыў Мінскую гімназію, вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, затым (верагодна, пасля паўстання 1863 г.) эміграваў у ЗША, дзе, апроч гандлю канцылярскімі таварамі, займаўся і літаратурнай дзейнасцю (у прыватнасці, пісаў пра Уладзіміра Сыракомлю і Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча). Ёсць сведчанні, што менавіта Гарайн распавёў Сянкевічу пра выпадак, які той паклаў у аснову свайго апавядання «На маяку»: галоўны герой гэтага твора, закінуты лёсам у далёкую Панаму стары ліхтарнік Скавінскі, прататыпам якога паслужыў беларус-эмігрант Сялява з Віцебшчыны, быў так узрушаны пачаткам паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш» («Літва! Бацькоўскі край...»), што забыўся запаліць ліхтар маяка.

Варта зазначыць, што Сянкевіч і надалей будзе шмат падарожнічаць, наведае розныя куткі свету — ад Італіі, Францыі, Іспаніі і іншых заходнееўрапейскіх краін да вострава Занзібар, але працавалася яму найлепей дома, на радзіме.

На жаль, асабістае жыццё пісьменніка нельга назваць шчаслівым. Першая яго жонка, Марыя Шаткевіч (родам з Віленшчыны), з якой ён пазнаёміўся ў Венецыі і ў 1881 г. узяў шлюб, памерла ў 1885 г. ад сухотаў, пакінуўшы сына Генрыка-Юзафа (1882 г. н.) і дачку Ядвігу (1883 г. н.). Разрыў з другой жонкай, Марыяй Валадкевіч, адбыўся амаль адразу пасля вянчання, хаця толькі больш чым праз два гады Рымская Курыя прызнала іх шлюб несапраўдным. У 1904 г. Г. Сянкевіч ажаніўся з пляменніцай Марыяй Бабскай, з якой пражыў да канца сваіх дзён.

Слава польскага пісьменніка на мяжы XIX—XX стст. сталася насамрэч сусветнай. У 1900 г., у час святкавання 25-годдзя літаратурнай дзейнасці Сянкевіча, юбілейны камітэт набыў і падараваў яму маёнтак Абленгорак (цяпер там працуе музей Генрыка Сянкевіча). Пісьменнік вельмі любіў гэтае месца, але ў 1914 г., з пачаткам Першай сусветнай вайны, калі Абленгорак захапілі аўстрыйцы, мусіў з'ехаць за мяжу, у швейцарскае мястэчка Вевей. Тут 15 лістапада 1916 г. Генрык Сянкевіч і памёр. У 1924 г. удзячныя суайчыннікі перавезлі яго прах у Варшаву і пахавалі ў катэдральным саборы святога Яна.

Дзеля больш глыбокага разумення творчасці Генрыка Сянкевіча і яго паплечнікаў — Элізы Ажэшкі, Баляслава Пруса, Марыі Канапніцкай — неабходна ўсведамляць, што іх станаўленне як мастакоў слова адбывалася ў перыяд асэнсавання характару і наступстваў нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 года. У літаратуры 1860–1880-х гг. у вострай палеміцы з рамантызмам, але нярэдка не без яго ўплыву (асабліва рамантычнай паэзіі Адама Міцкевіча і Юльюша Славацкага) усталёўваецца рэалістычны напрамак. Працякаў гэты працэс інтэнсіўна і меў выразныя нацыянальныя рысы, абумоўленыя падзеленасцю Польшчы на тры часткі, у кожнай з якіх былі свае варункі для літаратурнага развіцця. У польскай культурнай прасторы атрымаў шырокае распаўсюджанне «варшаўскі пазітывізм», што, у адрозненне ад заходнееўрапейскіх варыянтаў літаратурнай рэцэпцыі пазітывізму, насіў не так эстэтыка-філасофскі, як ідэйна-грамадскі характар. Польскія пазітывісты апелявалі да народа з заклікам аб супрацоўніцтве ў імя будучыні Польшчы, эканамічна-сацыяльнага і духоўнага ўзвышэння краіны. Паводле пазітывісцкай праграмы, гэтая «арганічная праца» павінна была суправаджацца актыўнай асветніцка-выхаваўчай дзейнасцю польскай інтэлігенцыі. «Варшаўскі пазітывізм» паклаў адбітак на мастацкую свядомасць цэлай генерацыі польскіх пісьменнікаў.

На новым этапе развіцця, у 1890—1900-я гг., польская літаратура набывае новыя якасці, рэалізм у ёй усё часцей сінтэзуецца з нерэалістычнымі напрамкамі. Гэтай з'яве паспрыяла публікацыя ў 1898 г. цыкла артыкулаў Артура Гурскага пад агульнай назвай «Маладая Польшча», якая паслужыла найменнем для цэлага кірунку ў польскай літаратуры (прыблізна ад канца 1890-х да 1918 г.). Яго прадстаўнікі арыентаваліся на абнаўленне і пашырэнне праблемна-тэматычнай палітры літаратуры, на пошук новых жанравых формаў, новых вобразна-выяўленчых сродкаў, звярталіся да эстэтычных адкрыццяў натуралізму і сімвалізму, імпрэсіянізму і эстэтызму.

Менавіта на гэты складаны час і прыпала літаратурная дзейнасць Генрыка Сянкевіча. У першых яго творах знайшлі адлюстраванне тагачасная рэчаіснасць (апавяданні «Эскізы вугалем», «Янка-музыка», «Па хлеб», «Бартак-пераможца»), уражанні ад паездак у Амерыку (аповесць «Праз стэпы», апавяданні «Орса», «У краіне золата», «Сахем» і інш.) і Францыю («Лісты Літваса з Парыжа»). Ранняя творчасць Сянкевіча сведчыла пра яго вялікія патэнцыяльныя магчымасці. Для ўсіх твораў пісьменніка, пра што б ён ні распавядаў: пра смерць таленавітага сялянскага хлопчыка Янкі («Янка-музыка», 1879) або блуканні і гібелі бедных эмігрантаў Тапорака і яго дачкі Марысі («Па хлеб», 1880), пра палітыку гвалтоўнай германізацыі палякаў («Бартак-пераможца», 1882) або бязлітаснае знішчэнне каланістамі індзейцаў («Сахем», 1883) — характэрна арганічная сувязь

патрыятычнага пафасу з трагічным светаадчуваннем аўтара. Мастацкая сіла, з якой Сянкевіч узнаўляў малюнкі рэальнага жыцця, была гэткай моцы, што чытачы ў сваім асэнсаванні падзеяў часам прыходзілі да высноваў нават больш радыкальных, чым меў на ўвазе сам пісьменнік.

Ці не самы вядомы ў нас твор Сянкевіча з усёй яго малой прозы — апавяданне «Янка-музыка». У Расіі яно займела гучны розгалас ужо на мяжы XIX—XX стст. Даследчыкі канстатуюць, што толькі да 1917 г. «Янка-музыка» вытрымаў каля 40 выданняў на рускай мове. Што датычыцца перакладу апавядання на беларускую мову, то ўпершыню ён з'явіўся ў 1904 г. і належаў Марыяну Фальскаму (1881—1974), беларускаму перакладчыку (родам з Ляхавіцкага раёна), польскаму педагогу і грамадскаму дзеячу. У 1924 г. апавяданне «Янка-музыка» надрукавала заходнебеларуская газета «Грамадскі голас», а ў 1938 г. яно (у перакладзе з рускай, аднак без указання прозвішча перакладчыка) выйшла асобным выданнем у Мінску. Патрапіла яно і ў склад зборніка «Апавяданні» (1955) Г. Сянкевіча ў перакладзе на беларускую мову Міхася Машары (у кнізе змешчаны яшчэ сем твораў, у тым ліку вышэйзгаданыя «Эскізы вугалем», «Па хлеб», «Орса», «Сахем»).

Апавяданне «Янка-музыка» непасрэдна прымыкае да «Эскізаў вугалем», якія ў свой час былі прыняты крытыкай неадназначна: надта ўражвала апавяданне непрыхарошаным адлюстраваннем беспрасветнага сялянскага жыцця і злачыннай абыякавасці сацыяльных вярхоў. Аўтара папракалі ў грубасці, песімізме, прадузятасці. У абарону пісьменніка выказаўся Баляслаў Прус. Сам Сянкевіч не бачыў неабходнасці апраўдвацца. У адным з лістоў ён, у прыватнасці, пісаў: *«Я маю смеласць гаварыць пра рэчы, якія да гэтага часу ніхто не кранаў, я ствараю першую сялянскую аповесць, у якой пададзены не ідэалізаваны селянін, а сапраўдны мужык і яго жыццё...»*.

Гэткі ж сапраўдны, непрыхарошаны сялянскі побыт паказаў пісьменнік і ў апавяданні «Янка-музыка». Сюжэт твора бясхітрасны: гэта расповед пра сялянскае дзіця, шчодра надзеленае музычным талентам, якому, аднак, з-за нечалавечых умоваў так і не суджана было раскрыцца. Здаецца, насуперак самому лёсу з'яўляецца хлопчык на свет: нараджаецца ён такім кволым, такім слабенькім, што прысутныя гатовы адразу ж справадзіць няшчасную «душу хрысціянскую» туды, «адкуль прыйшла». Але не пажадала тая развітацца з худзенькім целам. Усе дзесяць гадкоў, што наканавана было малому правесці на гэтым свеце, прайшлі ў голадзе ды холадзе. Ні чужыя людзі, ні родная маці не спадзяваліся, што калі-небудзь хлопчык стане падтрымкай і ўцехай, вельмі ж непрыдатны ён быў да працы ды і жыцця наогул.

Між тым у знясіленай дзіцячай душы гняздзілася тое, што выклікала ў людзей раздражненне, — прага музыкі, гуку, мелодыі. Не было ў дзіцяці іншага настаўніка, апроч прыроды, і іншага выканаўцы, апроч яе; музыку прыроды Янка слухаў дзень і ноч: *«...да аднаго ў яго была вялікая ахвота — гэта да музыкі. Усюды ён яе чуў, а як толькі Янка крыху падрос, дык ні аб чым іншым і не думаў... Сосны, букі, бярозы, івалгі — усё іграла; увесь лес іграў. І рэха таксама...»* (апавяданне тут і далей цытуецца ў перакладзе Міхася Машары). Вёска, вецер, вераб'і і былінкі, жукі і жабы гучалі суцэльным чароўным канцэртам. Ад музыкі ж, якую Янка мог пачуць у касцёле, на вяселлі або на дажынках, ён ледзь не траціў прытомнасць: *«...у яго так туманіліся вочы, нібы глядзелі яны з нейкага іншага свету»*.

Ці ж дзіўна, што прадметам яго гарачай любові стала скрыпка — сапраўдная, а не змайстраваная ім самім з гонты ды конскага воласу, хоць і граў Янка на ёй з раніцы да вечара. Тая ж, сапраўдная, была *«недасягальнай для яго святыняй»*: належала яна іншаму, а лунала *«нейкім сярэбраным ззяннем»* для Янкі, клікала яго да сябе. Не адолеў у сабе хлопчык жадання завалодаць цудоўнай рэччу ці хоць бы дакрануцца да яе, патрымаць у руках, — і стаў ахвярай нечуванай чалавечай жорсткасці. Пад адзіную даступную яму мелодыю — мелодыю штодзённага вясковага жыцця, пад песні птушак памірае пасля жудаснага пакарання музыка Янка, памірае з надзеяй, што Бог дасць яму *«на небе сапраўдную скрыпку»*.

Гісторыя Янкі наўрад ці пакіне каго абыякавым. Стварэнню ж пранікнёна-шчымлівай, трагічнай атмасферы твора спрыяе не толькі сама яго фабула, але і кампазіцыя. Важная функцыя ўскладзена аўтарам на своеасаблівы эпілог: лаканічны, усяго ў некалькі радкоў, ён паглыбляе драматызм сюжэта і разам з тым пашырае змест апавядання, дазваляе вывесці яго дзеянне за межы канкрэтнай сітуацыі і надаць апошняй абагульнена-сімвалічны сэнс. Далучэнне эпілога да асноўнай часткі адбываецца па прынцыпе кантраснага мантажу: з сялянскай хаты і з маленькага нябожчыка аўтарскі погляд перамяшчаецца ў панскі двор, а адтуль — на могілкі, дзе над свежым грудком ужо шумяць бярозы.

Значную ролю выконвае ў творы сімволіка. У сістэме сімвалаў, бадай, адным з галоўных з'яўляецца вобраз-матыў птушкі. Ён, як і вобраз музыкі, традыцыйны не толькі для літаратуры, але і для вуснай народнай творчасці. Ні музыканту, ні птушцы існаванне ў няволі не абяцае ні песняў, ні жыцця наогул. Вобразы птушак прасякаюць усё апавяданне: маці, *«бедная падзёншчыца... як ластаўка пад чужым дахам»*; пра ўсё на свеце забывае Янка, слухаючы птушыны спеў; птушкі суправаджаюць яго на шляху да запаветнай мары — скрыпкі; спачуваючы яму, *«добры, паважны казадой»* папярэджвае аб небяспецы, салавей жа спакушае, але і ён у драматычны момант прыпыняе свой спеў; сам Янка, якога пасля прысуду войта

вартаўнік нясе падпахі ў гумно на пакаранне, *«толькі глядзеў, як злоўленая птушка»*.

Невялікія памеры апавядання не сталі перашкодай для этыка-эстэтычнай ёмістасці, глыбокага раскрыцця асноўнай тэмы — лёсу народа ў найцяжэйшых сацыяльных варунках. Звяртаюць на сябе ўвагу строгае, ашчаднае стаўленне пісьменніка да слова, стрыманасць, давер да чытача: аўтарскія дэкларацыі ў творы адсутнічаюць, высновы павінны рабіць мы самі. Адзінае, што дазваляе сабе апавядальнік, — гэта горкую іронію: *«Ну як тут судзіць такога гаротніка, калі яму ўсяго толькі дзесяць гадкоў ды на нагах ледзь трымаецца?.. Трэба ж пры гэтым мець крыху літасці да дзяцей. Няхай вартаўнік возьме і адлупцуе яго розгай...»*. Той і *«махнуў з пляча»* — біў, нават калі дзіця ўжо перастала падаваць прыкметы жыцця.

У сярэдзіне XX ст. вялікі нямецкі пісьменнік Томас Ман у дачыненні да свайго рамана «Доктар Фаўстус», цэлыя старонкі якога з'яўляюцца «партрэтамі» музычных твораў, а галоўны герой — кампазітар, напіша, тым не меней, што «музыка... была тут толькі першым планам, толькі прыватным выпадкам, толькі парадыгмай больш агульнага, толькі сродкам...». Тое ж, відавочна, можна сказаць і пра маленькае апавяданне Г. Сянкевіча.

Вобраз музыкі мае ў сусветнай літаратуры грунтоўную традыцыю, узыходзіць да антычных міфаў, да фальклору розных народаў і можа паслужыць прадметам найцікавейшага параўнальна-тыпалагічнага даследавання. У розныя часы звярталіся да гэтага вобраза творцы рознай нацыянальнай прыналежнасці, у тым ліку беларусы: Роберт Бёрнс і Тарас Шаўчэнка, Гіём Апалінэр і Уладзімір Караленка, Янка Купала і Якуб Колас, Францішак Багушэвіч і Змітрок Бядуля, Васіль Быкаў і інш. У сувязі ж з апавяданнем Г. Сянкевіча міжволі ўспамінаецца верш Максіма Багдановіча «Вы, панове, пазіраеце далёка...», упершыню надрукаваны ў 1913 г. у газеце «Наша Ніва». Чаму менавіта ён? Ёсць жа ў М. Багдановіча творы, дзе цэнтральным з'яўляецца якраз вобраз-матыў Музыкі. Напрыклад, яго першы апублікаваны твор — лірычная мініяцюра «Музыка», галоўны герой якой, што хадзіў *«між бедным людам і граннем сваім будзіў ад цяжкага сну»*, увасобіў трагедыю станаўлення беларускай нацыі, мару пра яе адраджэнне. Або «Апокрыф» (1913), дзе вуснамі Хрыста выкладзена сутнасць найвышэйшай місіі музыкі і мастацтва наогул: *«...не схіляй нізка галавы твае і не хавай аблічча ад вачэй людскіх. Бо няма праўды ў тым, каторы кажа, што ты — лішні на зямлі... пад песні кладуць чалавека ў калыску і з спевамі ж апушчаюць у магілу яго... Шануйце ж песні свае»*.

У той жа час у вершы «Вы, панове, пазіраеце далёка...» музыка зусім не згадваецца. Аднак прачытайма твор уважліва:

*Вы, панове, пазіраеце далёка*
*Ў блеску сонца з велізарных плеч народных,*
*Але святло крые шмат чаго ад вока —*
*Днём не бачыце Вы зорак пуцяводных.*

*Заглянiце ж, будзь ласка, Вы у студню:*
*Ўжо даўно яна счарнела і згнівае,*
*Але дно яе і ў ночы і ў палудню*
*У вадзе люстранай зоры адбівае.*

*К тым, каго жыццё заціснула глыбока*
*Ўніз, у норы падзямельныя пад Вамі,*
*Вы, панове, хоць і бачыце далёка,*
*Заглянiце ў душы — студні са слязамі.*

Студня, што *«даўно... счарнела і згнівае»*, — ці ж гэта не сімвал гаротнай народнай душы (*«заглянiце ў душы — студні са слязамі»*), якой накаваны не шчасце і воля, а пакуты ў *«норах падзямельных»*; зоры ж, якія гэтая *«студня»* *«ў вадзе люстранай... адбівае»*, — ці гэта не метафарычнае ўвасабленне хараства, красы, таленту, які даецца Богам незалежна ад саслоўнага звання? Наўрад ці ёсць падставы гаварыць пра арыентаванне М. Багдановіча на твор Г. Сянкевіча, але аб'ектыўна верш гучыць амаль парафразам апавядання, прычым супольнасць твораў праяўляецца на ўзроўнях як праблематыкі, так і паэтыкі: у абодвух аўтараў прысутнічае паняцце душы, у абодвух гаворыцца пра яе пакуты, абодва сцвярджаюць, кажучы словамі Тамары Чабан, «гуманістычную думку аб далучанасці да неба, да зораў, да глыбінных ісцін быцця», «зняважаных і пагарджаных», толькі ў вобразна-выяўленчай структуры верша функцыю, ускладзеную Г. Сянкевічам на вобраз промня, у М. Багдановіча выконвае (як і ў шматлікіх іншых яго паэтычных творах) вобраз зорак.

І, нарэшце, яшчэ адна відавочная паралель. Успомнім фінал апавядання Г. Сянкевіча пра паноў, якія вярнуліся на радзіму з падарожжа па Італіі: *«Малады чалавек сказаў на французскай мове:*

*— Што за цудоўная краіна Італія!*

*— І што за музычны народ! Якое шчасце вышукваць там таленты і дапамагаць ім, — дадала паненка»*. А цяпер перачытайма М. Багдановіча: уражанне такое, нібы «панове» з яго верша, што пазіраюць «далёка», ды не бачаць «блізка», — гэта тыя ж Сянкевічавы «паны з іх крывадушнай „дабрачыннасцю“ і „спагадлівасцю“».

З паўстагоддзя таму Сцяпан Александровіч, маючы на ўвазе апавяданне «Янка-музыка», прамовіў словы, з якімі нельга не пагадзіцца: «Ёсць творы, якія застаюцца ў памяці на ўсё жыццё». Словы гэтыя могуць быць цалкам аднесены і да эпічнай прозы Сянкевіча.

Дынамізм дзеяння і пластычнсць характараў, экспрэсіўнасць і дзіўная кампазіцыйная зладжанасць, уласцівыя малой прозе Г. Сянкевіча, праявіліся і ў яго раманах пра сучаснасць, з якіх найбольшую цікавасць уяўляе раман «Без догмату» (1890), напісаны ў форме дзённіка героя.

Матывавана і пераканаўча, з псіхалагічнай глыбінёй мастак стварае тып гэтак званага «лішняга чалавека». Такі тып паўстаў у свой час у творах Джорджа Байрана, Аляксандра Пушкіна, Міхаіла Лермантава, Юльюша Славацкага. Генрык Сянкевіч акцэнтуе ўвагу на генезісе «лішняга чалавека», дэтэрмінаваным новай рэальнасцю, што пазбаўляе героя якіх бы то ні было ідэалаў або догматаў.

«Бяздогматцам» і з'яўляецца галоўны персанаж рамана — Ляон Плашоўскі. Адукаваны, звышчуйны, здольны, ён асуджаны на бяздзейнасць, на паразітычнае існаванне «вясёлага звера». Ляон цалкам усведамляе ганебнасць уласнага жыцця, бясконца рэфлексуе, дакарае сябе і іншых і ў рэшце рэшт канчае самагубствам.

Аўтар паклапаціўся, каб чытач зразумеў, што лёс героя абумоўлены яго бездухоўнасцю, і атрымаў урок з гэтай гісторыі. *«Раман павінен быць і будзе папярэджаннем — да чаго вядзе жыццё без догмату розум крытычны, вытанчаны, пазбаўлены...апірышча, — падкрэсліваў Г. Сянкевіч. — Праўда, гэта не ўратуе Плашоўскіх, але зверне ўвагу на прычыны, якія спараджаюць Плашоўскіх».*

Ёсць у рамане і персанаж, які кіруецца ў сваіх думках і ўчынках выключна догматам. Гэта Анэлька, якая палка кахае, глыбока пакутуе, аднак — паводле надта спрошчанага разумення хрысціянскіх запаведзяў — заглушае ў сабе пачуцці. Так Сянкевіч развенчвае другую крайнасць, бо не можа быць духоўным апірышчам тое, што змушае чалавека гвалтаваць у сабе чалавечае, уласную прыроду, натуральныя памкненні і жаданні.

Асноўнай жа формай асэнсавання рэчаіснасці стаў для Сянкевіча гістарычны раман, які быў характэрнай з'явай польскай літаратуры гэтага перыяду, дасягнуўшы ў ёй свайго апагею. Польская гістарычная проза прадстаўлена цэлым шэрагам бліскучых імёнаў: Баляслаў Прус, Стэфан Жаромскі, Уладзіслаў Рэймант і інш. Што да Генрыка Сянкевіча, то да якіх бы сюжэтаў з мінулага ён ні звяртаўся, у іх лёгка прачытваюцца прыкметы сучаснасці, аналогіі з рэальнасцю другой паловы XIX ст. Першы гістарычны твор Сянкевіча, аповесць «Татарская няволя», убачыў свет у 1880 годзе. Аднак надзвычайны поспех пісьменніку прынёс яго гістарычны раман «Агнём і мячом» (1884), што склаў разам з раманамі «Патоп» (1886) і «Пан Валадыёўскі» (1888) знакамітую трылогію, прысвечаную гісторыі войнаў Рэчы Паспалітай у XVII ст. Менавіта з трылогіяй даследчыкі звязваюць праблему рэцэпцыі твораў Сянкевіча, да сённяшняга дня не вырашаную канчаткова: саступаючы іншым кнігам пісьменніка па гістарызме і пераканаўчасці, трылогія ўспрымаецца як адно з яго найвышэйшых дасягненняў. Вельмі экспрэсіўнае выказванне на гэты конт належыць польскаму пісьменніку Вітальду Гамбровічу: «Магутны геній! І ніколі, бадай, не было такога першаразрадна-другараднага пісьменніка. Гэта Гамер другой катэгорыі, гэта Дзюма-бацька першага класа. Дальбог, праўда, цяжка знайсці ў гісторыі літаратуры іншы прыклад такога зачаравання народу, больш магічнага ўздзеяння на ўяўленне масаў... Калі б гісторыя літаратуры прыняла ў якасці крытэрыя ўплыў мастацтва на людзей, Сянкевіч (гэты дэман, гэтая катастрофа нашага розуму, гэты шкоднік) павінен быў бы заняць у ёй у пяць разоў вышэйшае месца, чым Міцкевіч».

Адзін з самых значных гістарычных твораў Г. Сянкевіча — гэта, бясспрэчна, раман «Крыжакі» (1900), прысвечаны падзеям з эпохі Сярэднявечча, — гераічнай барацьбе славянаў з Тэўтонскім ордэнам, ад жорсткіх набегаў якога доўга пакутавалі ўсходнія землі. Апісанне гэтай барацьбы ўвенчанае ў рамане шырокай панарамай славутай Грунвальдскай бітвы 15 ліпеня 1410 года, у якой аб'яднаныя сілы палякаў і чэхаў, мараваў і літоўцаў, украінцаў і беларусаў разграмілі нямецкіх рыцараў, паклалі канец «бедствам і пакутам», прынеслі сваім народам доўгачаканы і благаслаўлёны мір.

Кампазіцыйным стрыжнем расповеду з'яўляецца гісторыя кахання юнага шляхціца Збышкі да рыцарскай дачкі Данусі, якая стала, як яе маці і бацька, «магутны і мужны» граф Юранд, ахвярай вераломства крыжакоў. У рамане дзейнічаюць шматлікія гістарычныя асобы — ад знатных вяльможаў да шляхціцаў і сялянаў: кароль Уладзіслаў Ягайла, яго стрыечны брат Вітаўт і князь Януш Мазавецкі, каралева Ядвіга і гросмайстры ордэну Конрад і Ульрых фон Юнгінгены, рыцары Завіш і Зындрам, шляхціцы Мацька і Зых і іншыя.

Бліскучае валоданне словам, псіхалагізм, мастацкая вобразнасць дазволілі пісьменніку стварыць прадметную, гістарычна дакладную карціну жыцця свайго, польскага, і іншых народаў на мяжы XIV—XV стст. Кожным радком рамана аўтар ушаноўвае, калі казаць яго ж словамі, «вялікую, свяшчэнную мінуўшчыну» сваіх продкаў (на беларускай мове твор, перакладзены Міхасём Кенькам, быў выдадзены ў 1997 годзе).

І ўсё ж асаблівае месца ў творчай спадчыне Генрыка Сянкевіча займае апублікаваны 120 гадоў таму (1896) гістарычны раман «*Quo vadis*», за які ў 1905 г. пісьменнік быў узнагароджаны Нобелеўскай прэміяй і які літаральна адразу ж пераклалі ледзь не на ўсе еўрапейскія мовы. У перакладзе на рускую мову твор упершыню выйшаў у 1896 г. пад назвай «*Quo vadis*» і пасля перавыдаваўся больш за 20 разоў, у тым ліку пад назвамі «Куда идешь» і «Камо грядеши». На беларускую мову раман Г. Сянкевіча лацінкаю пераклаў у 1956 г. у Рыме кс. Пётра Татарыновіч. У 2002 г. Вітаўт Мартыненка, які нядаўна адышоў у вечнасць, перавыдаў кірыліцаю раман «*Quo vadis*». (Цяпер урыўкі з рамана гучаць у праграме беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё. — *Заўвага рэд.*).

У рамане ўваскрэшаны адзін з самых драма-

тычных перыядаў рымскай гісторыі — апошнія чатыры гады (64—68 гг. н. э.) праўлення Нерона, што давялі некалі магутную імперыю да стану поўнага заняпаду. «*Ніхто не быў спакойны за сваё жыццё і маёмасць. Закон перастаў ахоўваць. Зніклі чалавечыя годнасць і дабрачыннасць, аслаблі сваяцкія сувязі, і спадлелыя сэрцы не рашаліся нават на спадзеў... Увесь свет паўставаў суцэльнай крывавай і блюзнерскай оргіяй...*».

У рамане, паводле слоў аўтара, даецца «мастацкае проціпастаўленне... двух светаў, адзін з якіх уяўляў з сябе ўсёмагутную ўладарную сілу адміністрацыйнай машыны, а другі — сілу выключна духоўную». Нерон (Луцый Даміцый Агенабарб; імя Нерона Клаўдзія Друза ён прыняў пасля ўсынаўлення імператарам Клаўдзіем), «камедыянт» і «вылюдак» — плоць ад плоці першага свету. Забойца маці, першай і другой жонак, мноства падданых, ён да самай сваёй жахлівай смерці працягвае здзяйсняць злачынствы, ад якіх кроў стыне ў жылах. Кульмінацыйныя часткі рамана прысвечаны апісанню пажару, які ператварыў Рым у «мёртвую пустыню» і пацягнуў за сабою незлічоныя бедствы для гараджанаў. Спаліць горад загадаў імператар Нерон, віну ж за падпал ён усклаў на хрысціянаў, якіх падвергнуў жудаснаму публічнаму пакаранню. Кінутыя на разарванне галоднымі ільвамі і сабакамі, сцякаючы крывёю, пад шалёнае скавытанне звяроў і лямант натоўпу спявалі гэтыя нязломныя духам людзі «*Pro Christo! Pro Christo!*» (лац. «За Хрыста!»). «*Імператар купаўся ў крыві, Рым і ўвесь язычніцкі свет вар'яцеў. Але тыя, для каго ліхадзействы і шаленства сталі нясцерпнымі, каго зневажалі, чыё жыццё было суцэльным горам і рабствам, усе прыгнечаныя, усе самотнікі, усе пакутнікі ішлі слухаць дзіўную вестку пра Бога, які з любові да людзей аддаў сябе на ўкрыжаванне дзеля выкуплення іх грахоў*».

Менавіта з тымі людзьмі, якія прынялі хрысціянства, пакутавалі за свае перакананні, мужна ішлі за іх на катаванні і смерць, аўтар звязвае надзеі на будучыню Рыма і ўсяго свету, на новае жыццё, заснаванае на духоўных каштоўнасцях і гуманнасці. Да ліку такіх персанажаў адносяцца Аўл Плаўцій і яго жонка Пампонія Грацына, іх юная выхаванка Лігія і многія іншыя — і патрыцыі, і прадстаўнікі простых саслоўяў, і рабы; усе яны — духоўна прыгожыя, гатовыя на любыя ахвяры стоікі — праз неймаверныя высілкі садзейнічалі пашырэнню хрысціянства.

Пакутніцкую смерць прымаюць у Рыме і апосталы Пётр і Павел. Паводле аднаго з апокрыфаў, адданыя хрысціянству гараджане наважыліся ўратаваць апостала Пятра ад праследу Нерона і вывелі яго ўначы з горада. Аднак за гарадской брамай ён нечакана сустрэў Езуса Хрыста, у якога папытаўся: «*Quo vadis, Domine?*» («Куды ідзеш, Пане?»). Хрыстус прамовіў у адказ: «*У Рым, каб зноў прыняць укрыжаванне*» — і на вачах Пятра ўзнёсся да нябёсаў. Пётр жа, убачыўшы ў словах Настаўніка свой вырак, вярнуўся ў Рым, дзе ў хуткім часе быў укрыжаваны ўніз галавою. Тое ж адбываецца і ў рамане Г. Сянкевіча. Хрыстус на пытанне Пятра: «*Куды ідзеш, Пане?*» — адказвае: «*Раз ты пакідаеш народ мой, я іду ў Рым, на новае ўкрыжаванне*» — і пазбаўляе апостала апошніх сумненняў, умацоўвае яго ў жаданні падзяліць трагічны лёс горада і тым самым ператварыць Рым у сталіцу, адкуль будзе пашырацца на ўвесь свет («*Urbi et orbi!*»; лац. «Гораду і свету!») Хрыстова ўлада над людскімі сэрцамі. Як ніколі раней, Пётр, разумее, «*што ні імператару, ні ўсім яго легіёнам не адужаць жывой ісціны, што ні слёзы, ні кроў не зальюць, не пагасяць яе*».

Менавіта на месцы помнай сустрэчы Пятра з Хрыстом і дзеля яе ўвекавечання і была, згодна з паданнем, узведзена ў Рыме, на *Via Apia*, капліца пад назвай «Quo vadis», якая не толькі дала назву раману, але і падказала аўтару агульную канцэпцыю твора.

Персанажы, прыналежныя да двух розных лагераў, рэзка палярызаваныя. Разам з тым у рамане нямала герояў складаных, што мяняюцца, па ходу дзеяння перайначваюцца, як гэта здарылася са старым грэкам Хілонам ці маладым трыбунам Вініцыем; пакручасты шлях апошняга да веры пачынаецца са звернутых да яго выратавальных слоў хрысціяніна Крыспа: «*...Бог не дазволіў табе здзейсніць злачынства, але захаваў табе жыццё, каб душа твая абудзілася*». Трагічнай фігурай з'яўляецца і Петроній, «сябар, сатрапезнік і наперснік» Нерона. Вядомы сваёй спешчанасцю «арбітр вытанчанасці», гэты арыстакрат-эстэт пагарджае «чэрню», аднак народ любіць яго за шчодрасць і заступніцтва. Адыход з жыцця таленавітага, незалежнага ў сваіх меркаваннях, не здатнага на даносы і здраду Петронія прызначаны сімвалізаваць знікненне «паэзіі і прыгажосці» са свету татальнага зла.

Раман, займеўшы гучны рэзананс ва ўсім свеце, быў ухвалены і Каталіцкім Касцёлам, і ў 1900 г. сам Папа Рымскі павіншаваў Генрыка Сянкевіча з 25-годдзем літаратурнай дзейнасці.

Творчасць Г. Сянкевіча паўплывала на многіх еўрапейскіх пісьменнікаў XX стагоддзя; бясспрэчна, зведалі гэты ўплыў і беларускія майстры гістарычнага рамана. Да прыкладу, Уладзімір Караткевіч у адным з інтэрв'ю, кажучы пра сваіх улюбёных айчынных і замежных мастакоў слова, прызнаваўся, што чытае тых або іншых у залежнасці ад настрою, і калі ён роўны — перавагу аддае, апроч кніг Аляксея Талстога, добрым гістарычным раманам Генрыка Сянкевіча.



# З дабрынёю і чыстым сэрцам

У далёкія сямідзясятыя гады ў святой для мяне Зэльве на днях народзінаў Ларысы Геніюш я пазнаёмілася з навукоўцамі, якія летам у экспедыцыях па Беларусі вывучалі наша сакральнае мастацтва. Сярод іх былі мастацтвазнаўцы Вольга Церашчатава, Элеанора Вецер, Віктар Шматаў, фізікі Аляксандр Ярашэвіч і Юры Хадыка.

Гэтае знаёмства далей перарасло ў сяброўства і супрацоўніцтва. Яны мяне навучылі, як збіраць музейныя экспанаты, паказалі мне шмат цікавага з прыгожай духоўнай сакральнай спадчыны, якая захавалася, нягледзячы на пажары, разбурэнні і раскраданні. Яны захоплена апісвалі, вывучалі самабытныя абразы і карціны ў касцёлах і цэрквах Беларусі, струхлелыя, паншчаныя, якія яшчэ можна было выратаваць, бо заўсёды жывыя выявы Езуса Хрыста і святых. Яны знаходзілі іх на гарышчах, у прыдарожных капліцах, на могілках. Захоўвалі ад далейшага разбурэння, рэстаўравалі, а калі было каму аддаваць, вярталі. Так яны стварылі ў Мінску Музей старажытнабеларускай культуры пры Акадэміі навук.

Езус Хрыстус у скульптурах народных разьбяроў па дрэве — проста цудоўны. Нашы беларускія самавукі не капіравалі майстроў Рыма і Візантыі, не бачылі самую высокую скульптуру Езуса-Адкупіцеля на гары Каркаваду ў Рыа-дэ-Жанэйра ў Бразіліі, не ведалі прааграмадныя каменныя скульптуры з вострава Пасхі. Пэўны час майстры ўсяго свету займаліся разьбярствам паасобку, ізалявана.

Беларусы стваралі Бога па падабенстве добрага бацькі — чалавека ціхага, разумнага, па-свойму прыгожага, уважлівага, удумлівага, сур'ёзнага, часам строгага. Пастуха авечак. Вандроўніка. Часам беларускі Бог адпачывае на хмарцы... Беларускі Бог не ўсміхаецца. Часам плача. Схіляецца ў скрусе...

Езус Хрыстус у катэдральным касцёле св. Францішка Ксавэрыя ў Гродне, прывезены майстрам Ёганам Шмітам з Рэшаля на Варміі (Польшча) у верасні 1736 года, — гэта дасканалы ўзор еўрапейскага разьбярства. Мы молімся ў гэтым касцёле да прыгожага Езуса ў цэнтры барочнага алтара...

...Калі Казімір Місюра, пазваніўшы мне, сказаў, што ў аўторак 15 сакавіка прывязе да сябра Антона Ляшчынскага на фатаграфаванне скульптуру Езуса Валадара Сусвету, якую выразьбіў для правага праёма алтара для бабруйскага касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, я пачала ўяўляць, якога ж Езуса выразьбіў Казімір Місюра. Хлопцы з Літвы на пленэры ў Гродне называлі Казіміра «акадэмікам», бо ён стварае сапраўды класічныя вобразы ў дрэве, дасканалячы кожную дэталь, думаючы аб прапорцыях цела, аб памерах. Гледзячы, як гэты скульптар выгладжвае складкі на разьбяным адзенні, я думала пра тое, што яго можна назваць краўцом-мадэльерам, а прычоскі святым скульптурам у дрэве Казімір робіць так, што пазайздросцяць цырульнікі...

Трэба было арыентавацца на левы бочны алтар у бабруйскім касцёле, дзе ўжо знаходзіцца створаная Казімірам Місюрам скульптура Маці Божай Будслаўскай з Дзіцем Езусам. Пробашч Андрэй папрасіў выразьбіць Сына Божага на 10 сантыметраў вышэй, а ўся вышыня скульптуры складае два метры.

Калі скульптар працаваў над вобразам Маці Божай Будслаўскай, у думках укладваў і вобраз Езуса Хрыста па другі бок цэнтральнага алтара, таму над гэтай скульптурай працаваў больш смела — усё было ўкладзена ў галаве. Працаваў у натхненні і з усёй аддачаю — бывалі такія дні, што меў сілы працаваць па 17 гадзін! Казімір Місюра зрабіў знутры бервяно ліпкі пустым, каб яно было лягчэйшым. Уся праца заняла паўгода...

Бог, якога ён «вымольваў» з ліпы, ідавочна кіраваў яго разцом. Талент і праца стварылі скульптуру Езуса Хрыста, Божага Сына, які адкупіў грахі людзей і навечна валадарыць светам. Ён увойдзе ў адзін з пакрыўджаных людзьмі касцёлаў — там да будынка святыні ў 1968 годзе прыбудавалі адміністрацыйны дом

на пяць паверхаў, «утапіўшы» неаготыку ў пачварным будынку.

Але Бог не пакінуў Бабруйск...

Скульптар выразьбіў вобраз Сына-Бога, Валадара Сусвету. Мы нарэшце маем нашага Караля ад Воранава да Бабруйска праз Гродна і Мінск! Ён добры, сур'ёзны, разумны, не штучны. У Яго выразныя вочы, тутэйшыя вусны, злёгку ўпалыя шчокі, ямка на падбародку. Пра валасы я ўжо сказала — у Бога на галаве шмат валасоў. Дочкі скульптара, Вера і Алена, рабілі заўвагі бацьку: «Даклей носа, прыбяры падбародак». А Бог маўчаў, таму Казімір не слухаў сваіх разумных дачок.

Бог стаіць моцна на абедзвюх, не сагнутых у каленях нагах, правая крыху выступае наперад. У левай руцэ трымае бэрла, ім і кіруе ўсім белым светам (бэрла з арэхавага кійка), а правай рукой благаслаўляе нас на жыццё, дарогу і праўду. Залатая карона — з двух ярусаў. Белая кашуля і барвовы плашч натуральнымі хвалямі аблягаюць постаць звычайнага чалавека, бо Ён стаўся Чалавекам, але галоўнае ў скульптуры — гэта сэрца, якое б'ецца паверх рэбраў, паверх грудзей, паверх кашулі. Сэрца палае полымем укрыжаваным...

Я гавару пра колеры, якія накладуцца ўжо пасля...

У сучасных касцёлах любяць паліхромію. Накладваць паліхромію на гэты раз прыедзе з Кракава Чэслаў Колышка, ксёндз і былы вучань Казіміра Місюры родам з Ліды.

У той вечар Казімір, які звычайна ахвотна гаворыць сам, быў маўклівы, і выцягнуць з яго нейкае слова прызнання было немагчыма. Яго сябра, з якім вучыліся ў віцебскім інстытуце, кіраўнік кафедры, прафесар Гродзенскага ўніверсітэта Антон Ляшчынскі, працаваў з фотаапаратамі і рознымі прыладамі — падсветкамі, лямпамі, а я назірала з кутка, як мяняецца аб'ёмны вобраз ад таго, куды накіраванае святло. Антон сказаў, што святло на скульптуру Езуса Хрыста павінна падаць з неба, але там было шмат ліхтароў, матавых экранаў і шэры парасон...

Нарэшце каля Езуса Антон паставіў Казіміра, спачатку злева, пасля справа... Не хацеў перасылаць мне здымак Езуса з Казімірам, казаў, што разьбяр надта стомлены і дрэнна выглядае, але я зразумела: адбыўся такі падман вачэй — твар разьбяра мае падабенства да Аблічча Бога, а выглядае нібы такім заклапочаным, стомленым, простым...

Калі фотасесія была скончаная, гаспадар майстроўні пакінуў ключы і паехаў дадому ўкладваць спаць свайго яшчэ малога сына, а Казімір з Віктарам, сябрам па бабруйскім ПТВ, дзе яны вучыліся працаваць з дрэвам, дачкой Верай і зяцем Юрам прыселі перакусіць. Я на іх крыху палюбавалася — на іх сумоўе, міласэрнае ў сваім братэрстве. Казік моцна трымаецца за людзей, якіх яму дае Бог, беражэ іх, як родных дзяцей, служыць ім духоўнай падтрымкай, а яны служаць яму. Аднойчы я нечакана апынулася ў яго майстроўні, калі ён працаваў над скульптурамі згарэўшых у нашай катэдры апосталаў, і атрымала на ўсё жыццё такога магутнага добрага сябра, і ягоных сяброў у дадатак!

Хочацца, каб чытачы часопіса, асабліва ў Бабруйску, ведалі, што Маці Божую Будслаўскую і Езуса Хрыста стварыў у дрэве майстар выключнай дабрыні, а чыстае сэрца майстра адкрытае перад людзьмі на чыстае сумоўе, і б'ецца паверх яго будняга адзення на падабенства Міласэрнага Божага Сэрца...

Адпачыўшы, Казімір сказаў, што ў Воранаве ён пакінуты на адзіноту ў кантэмпляцыі з дрэвам, бо ніхто яго там не вучыць і не збівае з панталыку.

— У Воранаве няма чужых свежых вачэй, там усе мяне хваляць. У мяне яшчэ ёсць дні тры, каб звузіць крылы носа, прыбраць складку ў рукаве... Тры дні буду чысціць, гладзіць, папраўляць, а пасля спынюся, каб да Вялікадня накласці паліхромію... Я выразьбіў Бога-Сына, такога, як Айцец, але які служыць Айцу і людзям адначасна, які паслухаў Айца, прайшоў праз усё найгоршае, што могуць прыдумаць Чалавеку людзі, якія дарваліся да ўлады, Чалавеку, якога асудзілі несправядліва, прыбілі да крыжа і пакінулі паміраць на крыжы, і адступіліся ад Яго амаль усе ... І цяпер Ён валадарыць сусветам. І на Беларусі таксама.

...У цёмнай майстроўні, дзе скульптура засталася нанач, я паразмаўляла з Езусам Хрыстом, пагладзіла шурпатыя складкі Яго адзення, прытулілася шчакой і папрасіла ў Божага Сына здароўя свайму хвораму сыну, дачцэ, усім маім духоўным сёстрам і сябрам, за якіх малюся, папрасіла апекавацца маімі ўнукамі. І падзякавала Езусу за Казіміра Місюру і яго духоўных братоў і маіх сябровак.

...Я ведаю, што скульптуру павінен асвяціць святар, і толькі тады Езус Хрыстус сапраўды ўвойдзе ў драўляны вобраз, утаемніцца ў ім, каб постаць Бога ў дрэве атрымала сваю цудоўную сілу...

Уночы ў мяне пачала балець галава, але я зразумела, што гэты боль — падарунак, «аванс» за маю просьбу, якую Езус пачуў і прыняў. Можа, гэта Божы знак... Такая адбылася ў мяне падзея ў маім Вялікім посце.

*Данута Бічэль,*
*23 сакавіка 2016 г.*

---

**Данута Бічэль —** паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1984). Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), «Іду сцяжынаю да Бога» (2012), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008), «Мост святога Францішка» (2010), «Правінцыя святога Францішка» (2013). Жыве ў Гродне.



29 сакавіка на 85-м годзе жыцця адышоў у вечнасць апошні народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч.

У гэтым нумары нашага квартальніка, шаноўным і заўсёды чаканым аўтарам якога быў Ніл Сымонавіч, мы складаем яму ў вянок памяці свае словы глыбокай павагі і ўдзячнасці.

*Рэд.*

*У вянок памяці Ніла Гілевіча*

Радзім Гарэцкі

# ЗМАГАР ЗА БЕЛАРУСЬ І МОЙ СЯБАР

Маё блізкае знаёмства з Нілам Гілевічам, якое пазней перарасло ў сапраўднае сяброўства, пачалося ў дні, калі ў 1993 г. адзначаўся 100-гадовы юбілей з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, старшынёй якой быў Ніл Гілевіч, прыняла пастанову аб шматлікіх мерапрыемствах па святкаванні юбілею. Выдатны паэт і дзяржаўны дзеяч высока цаніў асобу Максіма Гарэцкага і сам прымаў актыўны ўдзел у святкаванні. У Горках у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі адбыліся другія «Гарэцкія чытанні», дзе мы зрабілі даклады; у Палацы культуры прайшоў рэспубліканскі ўрачысты вечар, які адкрыў Ніл Гілевіч; бралі ўдзел у адкрыцці мемарыяльнай дошкі; разам абрэзалі чырвоную стужку на адкрыцці музея Максіма Гарэцкага ў Малой Багацькаўцы. Ва ўсіх гэтых падзеях актыўны ўдзел прымаў Янка Брыль, з якім спачатку Ніл Гілевіч, а троху пазней і я шчыра пасябравалі, прычым па прапанове старэйшага за нас Івана Антонавіча мы нават перайшлі на «ты» — як ён казаў: «сяброўства люблю на роўных».

Мы з вялікай радасцю часта сустракаліся на розных літаратурных вечарах, нарадах, прэзентацыях, іншых імпрэзах, прымалі ўдзел у штогадовых «Гарэцкіх чытаннях», тэлефанавалі адзін аднаму. З прыемнасцю ўспамінаю нашу вандроўку у Крынічнае на Нёмане, на 80-годдзе Янкі Брыля, калі я з жонкай Галінай, з Нілам Гілевічам і яго Нінай Іванаўнай — усе чацвёра — нечакана прыехалі на маіх «Жыгулях». Колькі было радасці, жартаў, добрых сардэчных слоў у гонар юбіляра!

Як заўсёды ў жыцці, добрае чаргуецца з балючым. У 1988 годзе пакінуў нас мой любы Тата, акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. Сардэчная ўдзячнасць мая за падтрымку ў маім горы Ніла Гілевіча і Янкі Брыля сёння бязмерная, а ўсхваляваныя і шчырыя словы апошняга выклікалі ў мяне слёзы супакаення.

24 ліпеня 2003 года Ніла Гілевіча напаткала вялікае гора — пасля цяжкай пакутнай хваробы памерла яго Ніна Іванаўна. Іх вялікае каханне — гэта боскае аб'яднанне дзвюх палавінак: волата беларушчыны і «добрага анёла беларускасці». Ніл Сымонавіч страціў самую любую жанчыну, верную, надзейную клапатлівую сяброўку, спадарожніцу ў задачах і нягодах, лепшую дарадчыцу ў творчасці і жыцці. Ад гэтага страшэннага ўдару ён ужо ніколі не мог адысці. Яна жыла ў яго сэрцы, ён у думках працягваў раіцца з ёю і атрымліваў добрыя парады, якія дапамагалі пераадолець усе цяжкасці. Ніл Гілевіч пабудаваў сваёй любай Жанчыне неразбуральны помнік у выглядзе цыклу з дзесяці кніг «Памяці Ніны» — найсветлы гімн любові і вернасці, дзякуючы якому зорка Ніны Іванаўны Гілевіч будзе свяціць вечна.

Успамінаю, як у той час стварэння гэтага цыклу Ніл дрыжачым голасам, амаль са слязьмі, неяк узгадаў той момант, калі Ніна Іванаўна ляжала ў бальніцы і жалосна прасіла яго, каб хоць на адну гадзіну зноў пабыць у роднай хаце.

— Дык ты ж не зможаш узняцца нават на адну ступеньку па лесвіцы!

— Змагу — толькі адвязі да хаты. Хоць трошачку яшчэ раз пабыць там...

«Так шкадую, што не выканаў яе просьбы», — казаў ён...

Ніл Гілевіч заўсёды здзіўляў мяне сваёй шматграннасцю. Безумоўна, ён — унікальная асоба ў беларускай культуры і літаратуры. У сваёй універсальнай творчасці ён стварыў мноства літаратурных жанраў: у паэзіі і ў прозе, публіцыстыцы і перакладзе, літаратуразнаўстве і крытыцы, гісторыі беларускай літаратуры і фальклярыстыцы, журналістыцы і рэдактарстве. Гэта шматгранная літаратурная дзейнасць была справядліва ацэненая: народны паэт Беларусі — апошні, хто працаваў да 2016 г., Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы, лаўрэат Міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева, прэміі Івана Франка. Ён меў ордэн Кірыла і Мяфодзія 1-й ступені, ордэн Югаслаўскай зоркі са стужкай, ордэн князя Яраслава Мудрага.

Ніл Гілевіч — вядомы навуковец і педагог: кандыдат філалагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Беларусі, на працягу 25 гадоў — выкладчык на філалагічным факультэце БДУ.

Ніл Гілевіч — адзін з самых працавітых і пладавітых пісьменнікаў Беларусі. Толькі ён з беларускіх майстроў прыгожага пісьменства сам на працягу 10-ці гадоў склаў свой «Збор твораў у 23-х тамах», прычым і выдаў амаль усе тамы за

свой кошт. Толькі чалавек вялікай волі і мужнасці, працавітасці і мэтанакіраванасці, нягледзячы на розныя хваробы, асабліва моцнае пагаршэнне зроку, змог здзейсніць такую, здавалася б, зусім непасільную задуму. Гэта — подзвіг творцы.

Успамінаю, як у канцы верасня 2011 года зайшоў да Ніла Гілевіча, каб даведацца, як ён адчувае сябе за тыдзень да 80-годдзя. На ўсё ён глядзеў пафіласофску — дзякуй Богу, што даў столькі гадоў! Але жаліўся і надта перажываў, што амаль зусім не бачыць, таму вельмі цяжка працаваць, а яшчэ трэба падрыхтаваць да друку аж 6 тамоў...

Ніл Гілевіч — вядомы дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Ён працаваў Першым сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, старшынёй пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, старшынёй Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны і рэдактарам газеты «Наша слова».

Яшчэ з дзяцінства ў сэрца Ніла Гілевіча глыбока ўвайшла шчырая любоў да роднай зямлі, яе прыроды, людзей, цудоўнай беларускай мовы, таму змаганне за беларускасць, любую Бацькаўшчыну, мара «дайсці да беларускай Беларусі» — сталі галоўнымі ў жыцці гэтага сапраўднага волата беларушчыны. 15-гадовым юнаком ён напісаў верш «Першая клятва (Родная мова)». Вось некаторыя радкі з яго.

Як ты дорага мне, мая родная мова!
Мілагучнае, звонкае, роднае слова!
............................................
А задумае вораг з чужога далёкага краю
Адабраць у мяне, знішчыць родную мову маю —
Не дазволю.
Не дам.
Не прадам.
Не змяняю.
І да смерці за волю яе пастаю!

З таго часу роднае слова стала галоўным сэнсам жыцця Ніла Гілевіча, яго літаратурнай і грамадскай дзейнасці. У кожнай кнізе паэзіі, прозы, публіцыстыкі пісьменнік з гонарам і болем гаворыць пра беларускую мову. А колькі душэўных сіл паклаў ён у абарону мовы на розных дзяржаўных і грамадскіх пасадах! Дзякуючы ў першую чаргу менавіта Нілу Гілевічу 26 студзеня 1990 г. быў прыняты Закон аб мовах, паводле якога беларуская мова абвяшчалася адзінай дзяржаўнай у Беларусі. Сваю любоў да беларускай мовы, вялікі гонар за адну з самых прыгажэйшых, багатых, старажытных славянскіх моў і адначасова боль і горыч за яе прыніжэнне, за здраду ёй многімі беларусамі пісьменнік выказаў у кнізе «Любоў прасветлая: Роздумы ў вершах і прозе аб роднай мове. Лірыка-публіцыстычная хроніка: 1947–1995» (Мінск: Навука і тэхніка, 1996. — 544 с.).

На 70-гадовы юбілей Ніла Гілевіча, які адбыўся ў Чырвоным касцёле, сабралася такая вялікая колькасць людзей (не менш за 1500), што многія не змаглі ўвайсці ў святыню. Імпрэзу вельмі натхнёна вёў пробашч касцёла Уладзіслаў Завальнюк. Усё было надзвычай урачыста, шчыра і пранікнёна. Свае вершы паэт чытаў з амбоны. Пазней Ніл Сымонавіч сам адзначыў, што ніколі не быў такі шчаслівы, ніколі раней не чуў пра сябе столькі добрых слоў, якіх яму хопіць на ўсё жыццё...

Я вельмі ўдзячны Нілу Гілевічу за тое, што ён заўсёды паважаў і высока цаніў творчасць і дзейнасць Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх. Ён шмат разоў узгадваў Максіма Гарэцкага як класіка беларускай літаратуры. У зборніку «Мой тэстамэнт» (2006) Ніл Гілевіч, для якога галоўным тэстамэнтам з'яўляюцца мова, народ і Беларусь, змясціў свой верш, прысвечаны памяці Максіма Гарэцкага (напісаны яшчэ ў 1974 годзе):

Дзе вы, дбайныя руплiўцы песень родных?
Мы сягоння ў працы побач быць маглі б.
Маладых яшчэ скасілі вас нягоды,
Адарваўшы ад бацькоўскіх гнёзд-сяліб.
Але вера, што калісьці вас натхняла
У вялікаснай сяўбе і на жніве, —
Тая вера не памеркла, не сканала:
Тая вера, тая вера ў нас жыве!

Ніл Гілевіч выступаў на ўрачыстых мерапрыемствах, прысвечаных юбілею Максіма Гарэцкага, на «Гарэцкіх чытаннях». У 16-м томе «Збору твораў у 23-х тамах» (2009) ён надрукаваў два эсэ «Велічыня першага раду (Максім Гарэцкі)» — 1993, «Ён ведаў свой народ, як мала хто іншы», — слова на V «Гарэцкіх чытаннях» (1996), «Прывітальнае слова на XI „Гарэцкіх чытаннях“» (2003).

Да 80-годдзя Гаўрылы Гарэцкага Ніл Гілевіч прысвяціў яму вялікі верш «Акадэміку Г.І. Гарэцкаму» (1980), які змясціў у 2-м томе «Збору твораў...» (1999). Трэба адзначыць, што і гэты верш, і верш, прысвечаны памяці М.Гарэцкага, ён змясціў у 1-м томе «Збору твораў у 23-х тамах» (2003). Ён выступіў на навуковай канферэнцыі ў НАН Беларусі да 100-годдзя Г.Гарэцкага, а ў «Запісах...» (2006) некалькі разоў успамінаў пра наведванне Г. Гарэцкага ў яго кватэры. У раздзеле «Неўпарадкаваныя нататкі. 1980–2002» («Толькі мы самі...», 2006) ёсць эсэ Ніла Гілевіча «Апошні з магікан» (2006), прысвечанае Г. Гарэцкаму.

Ніл Сымонавіч заўсёды вельмі ўважліва адносіўся і да маіх артыкулаў і кніг, большасць з якіх я яму прэзентаваў. Праз некаторы час ён званіў і выказваў сваю думку. Памятаю, як ён пахваліў мае кнігі: «Браты Гарэцкія», «Гавриил Иванович Горецкий» (па заказе Расійскай Акадэміі навук), «Жыццёвы меланж». Асабліва яго ўзрушыла кніга «Лісты жыцця і кахання», ад якой ён «адарвацца не змог, пакуль не закончыў. [...] Якое неверагоднае каханне! Якая дабрыня! Я ў захапленні...» Шчыра мяне павіншаваў. Адгукаўся і на мае артыкулы, прычым выказваў свае заўвагі, што было мне аса-

бліва карысна.

Апошні 23-ці том свайго «Збору твораў» (2008), Ніл Гілевіч абазначыў як «Абрыс пройдзенага шляху ў святле адной мары». У ім ён успамінаў пра свой жыццёвы шлях, стараючыся аб'ектыўна даць яму ацэнку і падсумаваць сваю дзейнасць. Ніл Гілевіч падараваў мне гэты том на дзень майго 80-годдзя з такім цёплым дароўным надпісам: «Слаўны, шаноўны, дарагі Радзім Гаўрылавіч! Я бязмежна ўдзячны лёсу за тое, што падарыў мне такога вернага сябра і паплечніка ў Вялікім змаганні за Бацькаўшчыну. Віншую з высокім юбілеем. Зычу здароўя табе і моцы духу на доўгія-доўгія гады! Сардэчна абдымаю — Ніл Гілевіч. 4.12.08». Гэта быў для мяне найлепшы падарунак ад нашага самага найвыдатнейшага народнага паэта і патрыёта Беларусі, сяброўствам з якім я вельмі ганаруся.



95-годдзе Максіма Гарэцкага.
Музей Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. 11.03.1988 г.
(Справа налева: Ніл Гілевіч, Радзім Гарэцкі,
Дзмітрый Бугаёў, Алесь Пісьмянкоў).

Ніл Сымонавіч у апошняй частцы тома падкрэсліў некаторыя самыя важныя падзеі ў сваім жыцці:

«У маім жыцьці было некалькі сапраўды шчасьлівых дзён. Першы — калі пасля трох гадоў нямецкай акупацыі, жыцьця пад пастаянным страхам сьмерці, я сустракаў у ліпені 1944-га «нашых» («Нашы ідуць! Гэй-гэй! Нашы ідуць!»), разумеючы, што вайну перажыў, ацалеў, не загінуў. Другі — калі ўлетку 1946-га ўбачыў у часопісе «Бярозка» свой першы надрукаваны верш. Трэці — калі ўступіў у шлюб з каханай дзяўчынай. Чацьверты — калі нарадзіўся сын. Быў і яшчэ адзін дзень — [...]нарэшце, беларуская мова запісана як адзіная дзяржаўная ў Канстытуцыі суверэннай незалежнай Беларусі».

На жаль, самыя галоўныя мары Паэта не збыліся, таму Ніл Гілевіч гэтаму 23-му тому даў падзагаловак «Між роспаччу і надзеяй», а замест прадмовы напісаў такія пранізлівыя словы:

Між роспаччу і надзеяй
пражыў усё сваё сьвядомае жыцьцё —
ад маладосьці да старасьці.
Між роспаччу і надзеяй жыву-дажываю і сёньня.
І роспачы, на вялікі жаль, усё больш і больш.
Але надзея застаецца...
2003, ліпень.

З 2012 г. Ніл Сымонавіч бачыў толькі цені і ўжо не мог чытаць — артыкулы з газетаў ведаў толькі праз сястру Святлану ды слухаў навіны з прыёмніка. Аперацыю дактары і ён разам з імі баяліся рабіць у сувязі з хваробаю сэрца і дыябетам. Але з часам вырашылі рызыкнуць.

Ніл страшэнна перажываў, што не дарабіў да друку некалькі тамоў, ды і іншыя задумы роіліся ў думках. Нарэшце, у кастрычніку аперацыя на вачах прайшла, і ўдала. У тыя дні ён казаў мне, што больш вершаў пісаць не будзе, бо ўсё, што хацеў, ужо сказаў. Але ўжо ў снежні, калі Ніл Сымонавіч пазваніў, каб павіншаваць мяне з днём нараджэння, і я яго шчыра павіншаваў з яго вершамі, якія я з прыемнасцю прачытаў, бо ў іх зноў з'явіліся і імпэт, і гумар, і сатыра, і філасофскія роздумы. Ён быў вельмі рады, пачуўшы, што вершы мне спадабаліся, а я ўзрадаваўся, што мой сябра зноў адчуў уздым ад таго, што ўбачыў свет пасля аперацыі.

Нягледзячы на значны ўзрост, з якім прыходзіць усё больш розных хваробаў, а з імі і фізічная слабасць, Ніла Гілевіча не пакідалі светлы розум, добрая памяць, мужнасць, аптымізм, пачуццё гумару. Ён упарта працягваў творчую працу, без якой проста не мог існаваць. Яго жыццю, узяўшы на сябе клопат пра быт, дапамагалі родныя: мілыя жанчыны — сястрычка Святлана і пляменніца, сын Сяргей і інш.

Ніл Гілевіч сабраў свае эпіграмы і выдаў кнігу «Эпіграмы. 1958–2012» (Мінск: Кнігазбор, 2015. — 112 с.). Аўтар прадмовы, Міхась Скобла, справядліва адзначыў: «І вось нарэшце чытацкім набыткам робіцца айчынная аўтарская кніга эпіграмаў. Яе аўтар — народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. [...] ...Ніл Гілевіч ніколі не хаваўся ў вежу са слановай косці ад надзённых і балючых праблемаў, заўсёды даваў адпор тым, каго Янка Купала назваў „ворагамі беларушчыны“. [...] З выхадам гэтай кнігі на беларускім Парнасе з'явіўся яшчэ адзін сад. Калючы і страхотлівы... „Сад эпіграмаў“. Сам аўтар у аўтографе так сказаў пра сябе: „Дарагі Радзім Гаўрылавіч, сведчу гэтай кніжачкай, што паслухмяным, ціхім і безабаронным хлопчыкам я ніколі не быў. З любоўю — Ніл Гілевіч. 14.05.15“».

Калі мы забраліся на 80-ы «паверх» нашага жыцця (спачатку я, затым — Ніл Гілевіч, а праз 1,5 месяцы — Анатоль Вярцінскі — сябра Ніла са студэнцкіх гадоў, а цяпер і мой), даволі часта сустракаліся на кватэры ў Ніла Сымонавіча ў маладзейшыя гады па розных нагодах, пазней там жа абавязкова адзначалі дні нараджэння. Ніл



Ніл Гілевіч і Радзім Гарэцкі. 1995 г.

Гілевіч увесь час сядзеў у хаце, стараўся працаваць, мала рухаўся і таму прыкметна слабеў — у сярэдзіне 2013 года мы ўбачылі яго з кійком, бо яму моцна балелі ногі і ён нават баяўся ўпасці. А як устаць, калі ён шмат часу быў адзін у хаце? Безумоўна, да яго прыходзілі родныя, шматлікія сябры, знаёмыя... У самым канцы сакавіка 2015 года Ніла Гілевіча паклалі ў бальніцу Лечкамісіі для прафілактычнага агляду. Я наведаў яго, добра пагаманілі. Я яго павіншаваў з прэміяй часопіса «Дзеяслоў», якую ён атрымаў за кнігу «У віры быцця: новая кніга эсэістыкі». Ён быў бадзёры, някепска выглядаў. Сардэчна развіталіся. У пачатку чэрвеня Сяргей Нілавіч звазіў Ніла Гілевіча на могілкі да Ніны Іванаўны. Пазней, 30 верасня, Анатоль Вярцінскі і я, як заўсёды, адзначылі разам з роднай сястрой Святланай і стрыечнай Ірынай Уладзіміраўнай дзень нараджэння Ніла Гілевіча, а 18 лістапада — 84-годдзе Анатоля Ільыча. Да нас далучыўся паэт Эдуард Акулін, якога Ніл Гілевіч вельмі любіў і з якім таксама сябраваў. Вельмі добра паразмаўлялі на розныя тэмы. Толькі гаспадар хаты адчуваў сябе кепска, быў вельмі слабы і зусім мала еў — жаліўся, што цяжка глытаць. У снежні мой дзень нараджэння адклалі, бо Ніла Сымонавіча паклалі ў бальніцу ў Бараўляны, каб зрабіць аналіз на анкалогію печані. Чакаць вынікі было даволі доўга, таму ён адпрасіўся да хаты. Але мы не сустрэліся, а паспелі толькі пагаманіць па тэлефоне, бо і я трапіў у бальніцу, каб паставіць кардыястымулятар. Павіншаваўшы адзін аднаго з Новым годам і пажадаўшы здароўя, мы яшчэ працягнулі трохі размову, а размова наша была на тэму, якую мы з Нілам згадвалі ўжо некалькі гадоў узімку: «Трэба дажыць да вясны!». Ён не мог забыць тыя пахаванні, на якіх яму даводзілася быць у халодныя зімовыя дні. На яго неверагодна цяжкае ўражанне рабілі гучныя ўдары аб века труны мёрзлых кавалкаў зямлі... Ён з сумам казаў, што ні ў якім выпадку не хоча памерці ўзімку, бо калі пачуе гэтакі грукат над сабою, дык перавернецца ў труне ад жудасці. «Хачу толькі чуць над сабой цёплы ласкавы пясочак...» Таму і сабе і мне пажадаў абавязкова дажыць да вясны...

15 студзеня 2016 года мы сабраліся ў Ніла Сымонавіча, каб разам сустрэць па-старому Новы год і адзначыць два дні нараджэння — мой (яшчэ снежаньскі мінулагодні) і Эдуарда Акуліна (7 студзеня гэтага года). Ніл мне прызнаўся, што ў яго аналізы дрэнныя — анкалогія ў печані. Нечакана прыйшоў Мікола Сымонавіч, а за гаспадыню, як заўсёды, была Святлана Сымонаўна. Шчыра і зацікаўлена размаўлялі на розныя тэмы, у тым ліку і пра будучыя юбілеі гэтага года — 85-годдзе Ніла Гілевіча і Анатоля Вярцінскага, 80-годдзе Міколы Гіля. Эдуард Акулін папрасіў двух юбіляраў даць інтэрв'ю, каб змясціць іх у часопісе «Верасень». Яны згадзіліся. Ніл Сымонавіч быў усцешаны новай грунтоўнай манаграфіяй Тамары Нуждзінай «Ніл Гілевіч: маштабнасць таленту і веліч асобы» (Мінск: Про Хрысто, 2015) і з гонарам паказаў яе нам. Мы былі рады, што Ніл Сымонавіч працягваў шмат працаваць, але ён жаліўся на значную слабасць, і нас дужа непакоіла тое, што за такім святочным сталом з margin рознымі прысмакамі ён амаль нічога не еў не толькі з-за адсутнасці апетыту, але і цяжкасці глытання. Мікола Гіль на развітанне пакінуў брату тры экзэмпляры верша «Тры волаты», якія пазней дайшлі і да нас. Верш мае падзагаловак «Падчас запозненай сустрэчы старога Новага года ў слаўнай кампаніі».

Гляджу на трох сяброў-волатаў —
І сціскаецца з жалю сэрца:
Не цьмянее з часам золата,
Ды сам час — пад ногі каберцам.

Крывіцкага духу сейбіты —
Гарэцкі, Гілевіч, Вярцінскі...

У другую палову студзеня і большую частку лютага Ніл Гілевіч так кепска сябе адчуваў, што мог хадзіць толькі з дапамогай спецыяльнай перасоўкі, больш сядзеў ці ляжаў, адчуваў болі ў паясніцы. На прапановы Вярцінскага і маю наведаць яго, каб дапамагчы, адказаў адмоўна. Думаў, што ачуняе і тады пакліча нас да сябе. І праўда, 24 лютага Ніл Гілевіч прызначыў у 12:15 нам сустрэчу. У яго па чарзе ўвесь час былі сястра і пляменніца, якія і адчынілі нам дзверы. Ніл сядзеў на канапе, выглядаў нават лепш, чым калі мы бачылі яго ў апошні раз. Мы не толькі добра размаўлялі на розныя тэмы мінулага і сучаснага, але і выпілі па чарачцы каньяку... Ніл Гілевіч трымаўся вельмі мужна і, нягледзячы на зусім цяжкі стан, працаваў. Якраз у гэты дзень у «Народнай Волі» з'явілася яго выдатная падборка з запісаў «У віры быцця», якую мы вельмі хвалілі. Ніл з прыемнасцю слухаў гэта, ён быў рады нашай гамонцы, але праз гадзіну вельмі стаміўся, і мы сардэчна развіталіся.

На жаль, Ніл Сымонавіч адчуваў сябе ўсё горш. Калі я блізка да 25 сакавіка пазваніў яму, каб даве-

даццa пра яго адчуванне, павіншаваць са святам і паведаміць некаторыя навіны, спытаў: «Ты можаш гаманіць ці пазваніць пазней?». Ён ледзь адказаў зусім слабым голасам і ўзрадаваўся маёй прапанове: «Лепш пазней, лепш пазней».

29 сакавіка 2016 г. у 20:20 увечары пазваніў мне Сяргей Нілавіч і паведаміў страшную вестку: адышоў у іншы свет Ніл Гілевіч. Раніцою паклалі ў Лечкамісію, а ўвечары сэрца спынілася. Як сказала сястра Святлана — нарадзіўся ўвечары і памёр увечары. Сяргей казаў, што прыблізна ў 18:30 ён схіліўся да бацькі, які ўвесь час быў непрытомны, і звярнуўся да яго: «Бацька! Гэта я, твой сын». У адказ — маўчанне. Сяргей зноў яго паклікаў. Раптам голас бацькі: «Ціха!». Сяргей Нілавіч узрадаваўся, што Тата ачуняў, і выйшаў з палаты. Праз 10-15 хвілін званок ад доктара: «Ніл Гілевіч памёр». Гэта было ў 18:55.

31 сакавіка родныя ў хаце развіталіся са сваім дарагім Нілам Сымонавічам, каб назаўтра канчаткова, ужо разам з яго сябрамі, прыхільнікамі яго творчасці, беларускім народам пахаваць на Кальварыйскіх могілках. Сяргей Нілавіч запрасіў Анатоля Вярцінскага і мяне далучыцца да родных. Прыходзілі шматлікія родзічы з вянкамі і кветкамі, сядзелі, пацiху размаўлялі, успаміналі добрае і сумнае мінулае, выпадкі з нябожчыкам. Сум і гора былі ў хаце...

Ніл ляжаў у труне вельмі бледны, як быццам спаў, і зусім супакоены, таму што ведаў — зрабіў для Бацькаўшчыны ўсё, што мог. Нам здавалася, што ён дае нам апошні свой запавет: «Дарагія сябры, працягвайце той шлях, на якім вы так падтрымлівалі мяне, рабіце ўсё магчымае для беларушчыны, дэмакратыі, незалежнасці і не губляйце аптымізму, бо «ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі!..»

1 красавіка развітацца з Нілам Гілевічам у Свята-Петра-Паўлаўскі сабор прыйшлі тысячы людзей. Усе газеты (нават многія дзяржаўныя) далі вялікія раздзелы пра апошняга народнага паэта Беларусі, выдатнага навукоўца, педагога, палітычнага і грамадскага дзеяча.

Былі ўскладзеныя кветкі і вянкі ад імя розных інстытуцый і арганізацый: Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага ПЭН-цэнтра, Таварыства беларускай мовы, ЗБС «Бацькаўшчына», Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Пасольства Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і іншых.

Жалобную службу на беларускай мове правялі тры святары: а. Георгій Латушка, а. Юры Залоска і клірык Свята-Духава сабора а. Сергій Гардун. Пасля заканчэння малітвы настаяцель Свята-Петра-Паўлаўскага сабора протаіерэй Георгій Латушка зачытаў спачувальныя лісты ад Мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі і Мітрапаліта Філарэта, ганаровага Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.

З развітальнымі словамі на грамадзянскай паніхідзе выступілі старшыня Саюзу беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, палітыкі і грамадскія дзеячы Станіслаў Шушкевіч, Пётр Краўчанка, пісьменнікі Анатоль Вярцінскі, Віктар Казько, старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў, дэкан філалагічнага факультэта БДУ, прафесар Іван Роўда, дырэктар Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы, Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Іван Саверчанка і я.

Развітанне і грамадзянская паніхіда працягнуліся на Кальварыйскіх могілках. Каля труны выступілі Сяргей Законнікаў, Уладзімір Арлоў, Генрых Далідовіч, Аляксей Каўка, Эдуард Акулін, Вячаслаў Рагойша, старэйшы з пляменнікаў Ніла Гілевіча Валер Маслаў. Першы намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч зачытаў спачувальныя тэлеграмы ад Часовага Паверанага ў справах Каралеўства Вялікабрытанія ў Рэспубліцы Беларусь, Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Расіі, ад Саюза пісьменнікаў Швецыі, ад Героя Украіны, паэта Дмытра Паўлычкі.

Пад гімн «Магутны Божа» сотні чалавек правялі Ніла Сымонавіча ў апошні шлях...

Калі цябе назаўсёды пакідае сябар, сэрца ахопліваюць сум і нуда, адчуваеш невыносны боль (нават калі ніколі не звяртаўся да кардыёлагаў), а ад душы, якая таксама найбольш чулая да такой згубы, адвальваецца нябачны кавалак і замест яго з'яўляецца пустэча... Калі твой сябар, які пайшоў ад цябе ў іншы свет, быў вялікаю асобаю, згуба якога не толькі тваё гора, а бяда для ўсяго народа, усёй краіны, дык гэтая жудасная страта адчуваецца ўдвая. Чым даўжэй жывеш, тым больш перажываеш страты блізкіх людзей. Так і цяпер стаіць у душы боль ад адчування пустэчы — і ў сяброўстве, і ў грамадстве. І не зменшыўся ён і пасля саракавінаў, у час якіх можна было пачуць ад блізкіх, родных і ад сяброў такія шчырыя словы любові, падзякі за дабрыню, дапамогу, сяброўства, вялікую паэтычную творчасць (асабліва раман «Родныя дзеці» як сучасны працяг коласаўскай «Новай зямлі»), за цудоўную публіцыстыку, яркія гумар і сатыру, навуковую і педагагічную дзейнасць, за працу ў Вярхоўным Савеце, Таварыстве беларускай мовы і многае іншае. Усе жадалі, каб душа Ніла Гілевіча трапіла на нябёсы, каб злучылася з душою яго каханай Ніны Іванаўны. Спадчына і імёны такіх вялікіх творцаў нашай Бацькаўшчыны, як Ніл Гілевіч, а таксама адданых сыноў Беларусі, якія адышлі перад ім, — Васіля Быкава, Янкі Брыля, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна — будуць жыць вечна, як вечна будзе жыць і наша родная Беларусь...

## У вянок памяці Ніла Гілевіча

Васіль Зуёнак

### ЛЮБОЎ ПРАСВЕТЛАЯ

*Над кнігаю Ніла Гілевіча*

І натхнёны, і адмысловы,
Чарадзей у прасветлай сяўбе,
Улюбёны ў роднае слова,
Дык і слова любіць цябе.

З ім да Бацькаўшчыны дарогу
Лёс адольваць наканаваў,
Каб адступнік сваю перамогу
Запраданскую не святкаваў.

Каб душа не згасала ў народзе,
Слова роднае ты акрыліў,
Праз жыццё з ім у добрай згодзе
Летуценныя думы спяліў.

Непахіснае слова-празорца —
Як паходня веры тваёй:
Вечна ззяць беларускай зорцы —
Мове нашай быць вечна жывой!

Данута Бічэль

### КАЛІ ПАМІРАЮЦЬ ПАЭТЫ

Калі паміраюць паэты –
у зацьменне заходзяць планеты.
Вершамі плачуць палеткі,
ў снапкі збіраюцца кветкі,
каб у роднай сталіцы
Паэту ў дол пакланіцца.
Ад слёз разліваюцца рэкі.
Як ад горкай рэдзькі
праслязіўшыся, родныя слоўцы
прыжмурваюць вочы на сонцы...

Наш народны Паэт Ніл
на хвілінку прылёг за небасхіл.
Бессмяротнае слова,
як і памяць пра Ніла,
не пахаваем за небасхіл!

*15 красавіка 2016 г.*

Галіна Каржанеўская

### АПОШНІ З МАГІКАН

*Ніლу Сымонавічу*

Пакінуў нас
Апошні з магікан —
наш волат духу,
абаронца мовы,
што выкрываў аблуду і падман
Класічным вершам,
нескароным словам.

Маленькая — ля Гайны — Слабада
Такога патрыёта нарадзіла!
...Усіх нас прыгаломшыла бяда.
Нам хоць бы кроплю
ад ягонай сілы.

*2016 г.*

Хрысціна Лялько

### ЯК БЫЦЬ?

*Ніლу Гілевічу,*
*апошняму народнаму паэту Беларусі*

Як быць народу без сваіх народных, —
без мудрых, мужных і высакародных?

Як быць народу, што губляе мову —
Душу сваю і сутнасці аснову?

Як быць народу, што сваіх прарокаў
ніколі не трымаў навідавоку?

Як быць народу, каб не стаць жыхарствам? —
Чытаць і шанаваць іх спадчыну, спадарства!

*30 красавіка 2016 г.*

*У вянок памяці Ніла Гілевіча*

Арсень Ліс

# ПАМЯЦІ ПАЭТА-ГРАМАДЗЯНІНА, ЗМАГАРА

Адышоў у вечнасць светлай памяці таленавіты творца, вялікі працаўнік на ніве беларускай літаратуры, культуры — Ніл Гілевіч.

Асэнсаванае ўспрыняцце — а пра гэта засведчылі ўжо раннія вершы Ніла Гілевіча — такіх вечных каштоўнасцяў, як мова народа, яго тысячагадовая гісторыя, старажытная пісьменнасць, культура, дапамагло паэту сарыентавацца ў няпростых абставінах грамадска-палітычнай атмасферы свайго часу.

У 1960-я гады вялізная Краіна адназначна скіроўвалася яе ідэолагамі на пабудову вялікай утопіі. Згодна з мэтаю, на дзяржаўным узроўні выпрацоўваліся пэўныя міфалагемы, даваліся адпаведныя ўстаноўкі. Сярод іх — стварэнне новай грамадскай супольнасці «адзіны савецкі народ». Не ў форме лозунгаў, аднак настойліва пакрыёма пачала прапагандавацца ідэя адмірання моваў, нягучна агітаваўся пераход пісьменнікаў нацыянальных і аўтаномных рэспублік на мову рускую як перспектыўную ў будучым камуністычным грамадстве.

На пленуме маладых савецкіх пісьменнікаў у Маскве Ніл Гілевіч выступіў з гарачым аспрэчваннем пражэкцёраў светлай будучыні адносна лёсу мовы. У сваім непрыняцці сумніўнага тэзіса ён атрымаў дружную публічную падтрымку ад прысутных не толькі ў зале літаратараў з усяго Савецкага Саюза. У сваіх жа вершах гэтага часу Ніл Гілевіч горача заклікаў братоў-паэтаў не слухаць фальшывых пракокаў, якія гаварылі пра паміранне моваў.

У духоўным узвышэнні свайго народа, вернасці яго традыцыям, мове як этнічным абліччы народа і гістарычнай памяці Ніл Гілевіч бачыў грамадзянскую пазіцыю пісьменніка:

*Спявайце, юныя паэты.*
*Пакуль паэты будуць пець,*
*Не быць Радзіме безымяннай,*
*Зямлі бацькоў не анямець!*

За час працы на кафедры беларускай літаратуры ў БДУ (1960–1986) Нілам Гілевічам было напісана пяць манаграфій, прысвечаных беларускаму фальклору і літаратуры 1920-х гадоў. Сярод іх такія адметныя выданні, як «Наша родная песня», «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», «Паэтыка беларускіх загадак». Акрамя таго, выдадзена пяць зборнікаў беларускага аўтэнтычнага фальклору і некалькі кніжак літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў.

У гэты ж перыяд Ніл Гілевіч значна пашырыў геаграфію перакладной паэзіі на беларускую мову. Ім была маштабна перастворана па-беларуску класічная і сучасная паэзія балгараў. Асобным выданнем у яго перакладзе выйшаў зборнік балгарскіх народных песняў.

Праз кнігу «Маці мая, Славенія» Ніл Гілевіч перанёс на беларускую культурную глебу і паэзію славенцаў XIX–XX стагоддзяў.

Заглыбленне ў паэтычную творчасць паўднёвых славянаў — а ён перакладаў яшчэ творы сербаў і лучыжанаў — дало магчымасць паэту-навукоўцу напісаць даследаванне «Вусная народная творчасць і сучасная лірычная паэзія ўсходніх і паўднёвых славян». Акрамя навукова-даследчых і перакладчыцкіх здабыткаў прафесара Ніла Гілевіча, якія іначай як вынікова-важкімі назваць нельга, выходзілі кніжкі яго ўласнай паэтычнай творчасці, лірычнай, гумарыстычнай, сатырычнай, а таксама выданні прозы і драматургіі.

Пасля першых паэтычных кніг Ніла Гілевіча, пачынаючы з канца 1950-х — а выходзілі ў свет яны часта-густа — у 1967 г. з'явіўся зборнік паэзіі «Актавы». Гэтая кніга сцвердзіла Ніла Гілевіча не толькі як творцу, што актыўна асэнсоўваў у літаратуры маральна-этычныя аспекты

жыцця грамадства, лёсу народа, але і як сталага майстра беларускага мастацкага слова.

У напісаным вершам рамане «Родныя дзеці» (1985), асабліва ў аўтарскім роздуме аб лёсе зямлі і лірычных адступленнях, Ніл Гілевіч засяродзіўся на анталагічных праблемах быцця свайго народа, выйшаў за акрэсленыя ідэолагамі рамкі сацрэалізму як метаду мастацкага адлюстравання рэчаіснасці.

Апошні перыяд жыцця і працы Ніла Гілевіча, пачынаючы з 90-х гадоў, быў самым складаным, напружаным у рэалізацыі грамадска-палітычных ідэалаў паэта і, пэўна, самым плённым у яго мастацкай творчасці. Абраны дэпутатам у Вярхоўны Савет БССР, узначаліўшы ў ім Камісію па мове, гісторыі і культуры, Ніл Гілевіч непасрэдна спрычыніўся да абвяшчэння найвышэйшым заканадаўчым органам рэспублікі дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Каб дамагчыся гэтага гістарычнага акту, Нілу Гілевічу разам з нацыянальна арыентаванымі дэпутатамі давялося моцна пазмагацца як палымянаму прамоўцу з трыбуны Вярхоўнага Савета і як публіцысту ў друку — шматлікіх інтэрв'ю, артыкулах.

Палкае, таленавітае слова Ніла Гілевіча-публіцыста, увасобленае ў кнігах «Толькі мы самі», «Любоў прасветлая. Роздумы ў вершах і прозе аб роднай мове», навочна сведчыць, колькі душэўных і інтэлектуальных сілаў аддаваў народны паэт дзеля дабра і годнай будучыні беларускага народа. У сваёй творчасці ён нястомна сцвярджаў фундаментальныя ісціны пра тое, што мова народа — гэта абярэг і гарант яго вечнага існавання ў прасторы і часе, а дзяржаўная суверэннасць — адзіная зарука поўнай рэалізацыі творчых патэнцый, закладзеных у народзе адпрыродна, Богам.

У сваіх мемуарах, названых «Паміж роспаччу і надзеяй», як і ў запаветным вершы «Усё ж дойдзем мы да Беларусі...», паэт пакінуў нам надзею...

Язэп Янушкевіч

## БЯЗЛІСТЫ ГАЙ

Памяці Ніла Гілевіча

У шэрым небе сіратлівым  
Сем паркаў злева, справа — тры...  
Крыляюць порстка, так імкліва  
Імкнуць дадому жураўлі!  
А паміж імі, адзінока,  
Стары, што колісь важаком  
Прыводзіў вырай здалёку,  
Каб не забылі родны дом.  
Адстаў ад клінаў крэўных птахаў,  
«Ку-у-рл-ы-ы-ы!» — крычыць, і той адчай  
З-пад стомленых натужных узмахаў  
Спрабуе ўчуць бязлісты гай...  
Той гай, дзе белыя бярозы  
Гайдалі, поўныя задум,  
Ягоны веснавыя крозы,  
Высокі ўзлёт,  
Высокі ўзлёт,  
Высокі ўзлёт — жыцця і дум...  
«... Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы,  
Асыпайце, мілуйце ціхай ласкай зямлю.  
А я лягу-прылягу край гасцінца старога,  
Я здарожыўся трохі, я хвілінку пасплю...»  
... У шэрым небе сіратлівым  
Дзве паркі злева, справа — тры...  
Крыляюць порстка, так імкліва  
Імкнуць дадому,  
Імкнуць дадому,  
Імкнуць дадому — жураўлі!  
Адстаў ад клінаў крэўных птахаў,  
Крычыць — «Ку-у-рл-ы-ы-ы!», і той адчай,  
З-пад стомленых тужлівых узмахаў  
Хоча пачуць,  
Хоча пачуць,  
Хоча пачуць  
бязлісты гай...

*РАКАЎ, 30-31 сакавіка 2016 г.*

*У вянок памяці Ніла Гілевіча*

Міхась СКОБЛА

# НІЛ, ЯКІ ЖЫВІЎ ПУСТЫНЮ




Апошнім часам кнігі Ніла Гілевіча выходзілі пераважна ў недзяржаўных выдавецтвах мізэрнымі накладамі і ў гандлёвую сетку «Белкнігі» не траплялі.

Ды і якая там «сетка» — кнігарні хутка застануцца толькі ў абласных цэнтрах, у раённых кніжныя крамы амаль паўсюль ціхенька пазачыняліся, а астатнія перайшлі на больш рэнтабельны тавар. Але ж чытачы беларускай літаратуры там засталіся, і забывацца пра іх пісьменнікі не маюць права. Ніл Сымонавіч не забываўся. Ведаючы, што я кудысьці збіраюся з выступам, прасіў зайсці па надпісаныя кнігі і ўручыць тым, хто іх чакаў у Зэльве і Лунінцы, у Мастах і Гародні, у Слоніме і Вілейцы, у Лідзе і Полацку...

Людзі прымалі Гілевічавы кнігі (заўсёды — з трапнымі непаўторнымі аўтографамі) як узнагароды за сваю дзейнасць на ніве беларускай культуры. І было відно, як высока цаніліся імі тыя кнігі-ўзнагароды. Апошні «кніжны медаль» ад Ніла Гілевіча — зборнік «Эпіграмы» — я ўручыў старшыні Гарадзенскага аддзялення СБП Валянціну Дубатоўку 25 сакавіка 2016 года, калі адзначаліся 70-я ўгодкі абласной пісьменніцкай суполкі.

Назаўтра Валянцін патэлефанаваў мне і сказаў, што цяпер ведае, як адбівацца ад мясцовых графаманаў, якія нясуць і нясуць яму свае вершаваныя опусы. Адбівацца ён будзе Гілевічавымі радкамі:

Над вершам трэба мець уладу.
Таму хачу, каб быў мой верш —
Як хата, зрубленая ў лапу,
Дзе ні вянца не разарвеш!

Не ведаю, ці дапамог той чатырохрадковы рэцэпт гарадзенскім вершапісцам, ці будуць яны пісаць гэтак беспахібна, як калісьці рубілі хаты майстры-цесляры. У любым выпадку ведаць яго нікому не зашкодзіць.

Увогуле, Ніл Гілевіч — адзін з самых цытаваных айчынных паэтаў. У гэтым мне даводзілася шматкроць пераконвацца ў самых розных месцах і кампаніях. Безліч разоў ад людзей разнастайных прафесій (неабавязкова гуманітарыяў) чуў я афарыстычныя радкі з «Родных дзяцей», са «Сказа аб незвычайнай эпідэміі ў краіне Тутэміі», з паэмы «Сказ пра Лысую гару», якая доўгія гады лічылася ананімнай. Апошняя ў машынапісных копіях хадзіла па руках не толькі ў сталічных творчых асяродках, але была вядомая і ў нашай Дзярэчынскай сярэдняй школе — дзякуючы ўлюбёнаму ў беларускую паэзію настаўніку-русісту Пятру Мікалаевічу Марціноўскаму. Дзіўна — Гогаля ці Маякоўскага ў ягоным выкладзе не памятаю, а Гілевіча — так! І памятаю не толькі я...

Аднойчы тэлефонны званок з Дзярэчына заспеў мяне ў кватэры Ніла Сымонавіча. Даведаўшыся, з кім я сяджу і размаўляю, мой стрыечны брат Уладзімір Бартош папрасіў перадаць слухаўку паэту і з ягонай згоды прачытаў на памяць ці не ўсю лысагорскую паэму. Думаю, аўтару было прыемна — смяяўся ён так, быццам чуў тую паэму ўпершыню...

Нярэдка і мне за бяседным сталом ці ў радыёгутарках выпадала выкарыстоўваць дасціпныя вершапрыказкі Ніла Гілевіча, як і дасканалыя паэтычныя формулы Рыгора Барадуліна, з якім у Ніла Сымонавіча, колькі памятаю, адносіны былі далёка не сяброўскія. Не ведаю, як ставіліся да гэтага іншыя, але я ўспрымаў тую непрыхаваную варажнечу як балючую недарэчнасць. І мне вельмі хацелася памірыць іх — двух сапраўды народных паэтаў, якія атрымалі гэтае званне ўжо ў незалежнай Беларусі і шматкроць даказалі сваю глыбінную народнасць у найскладанейшы для краіны час. Прычым, з якой падваротні тая «чорная котка», што паміж імі прабегла, выскачыла, яны і самі прыгадаць не маглі. Ці то Рыгор Барадулін напісаў крыўдную эпіграму на Ніла Гілевіча, ці то Гілевіч на Барадуліна (абодва ж былі непераўзыдзенымі эпіграмістамі). Карацей кажучы, жыць у стане нейкага ўзаемнага супрацьстаяння двум народным было не да твару, што я ім па чарзе і даводзіў. Ды, відаць, дыпламат з мяне быў дрэнны — Ніл Сымонавіч і Рыгор Іванавіч так і не памірыліся.

Помню, як раўніва ўспрыняў Ніл Гілевіч маю прадмову да «кнігазбораўскага» тома Барадуліна. Маўляў, геніяльнасць паэта бывае відна з дыстан-



Ігар Гардзіёнак, Ніл Гілевіч і Міхась Скобла — мастак, аўтар кнігі і рэдактар кнігі «Эпіграмы». 2015 г.

цыі часу, а вы яго прыжыццёва ледзь не ў почат святых запісалі... Я не пярэчыў, усведамляючы, што неспадзявана для сябе падкінуў паленца ў вогнішча тае, не прыгаслай з гадамі, варажнечы. А праз пэўны час і Ніл Гілевіч звярнуўся да мяне з той самай просьбай — напісаць прадмову да яго новай кнігі, што я і зрабіў, не крывячы душой і думаючы, што хоць такім чынам я іх сімвалічна набліжу. Сімвалічна, бо Барадуліна на той час ужо не было ў жывых.

Цяпер яны памірацца *там* і без маёй дапамогі. Абавязкова. Бо што значаць нейкія жыццёвыя драбніцы *адтуль*, з вечнасці...

Нілу Гілевічу было наканавана стаць апошнім народным паэтам Беларусі. Яму самому гэтага хацелася. Ён нават змог адгаварыць яшчэ аднаго выдатнага паэта, свайго сябра, ад прэтэнзіі на гэтае званне, падмацаванай і талентам, і падрыхтаванай ужо ўсёй неабходнай дакументацыяй. Ды так адгаварыў, што яны па-ранейшаму засталіся сябрамі! Зрэшты, мне невядома, чыя тут большая заслуга — ці настойлівага адгаворшчыка, ці ўсё ж некрыўдлівага сябра. У любым выпадку, перамаглі дружба і чалавечая годнасць, а яшчэ адна «чорная котка» з падціснутым хвастом мусіла вярнуцца туды, адкуль вылезла.

Апошнім часам з-за хваробаў Ніл Гілевіч практычна не пакідаў сваёй кватэры ў знакамітым пісьменніцкім доме на Карла Маркса, 36, але самотным не быў. Да яго ўвесь час прыходзілі наведнікі, цэлыя дэлегацыі прыязджалі з іншых гарадоў. Мяне асабліва ўражвала, колькі яму прыносілі кніг. Аўтары і выдаўцы, стараючыся зрабіць прыемнае паэту-кніжніку, шчодра дарылі яму сваю прадукцыю, якая акуратна складвалася на канапе, — усё вышэй і вышэй, нагадваючы ўзвядзенне нейкай абарончай сцяны з кніг. Відаць, паэту за гэтай сцяной было ўтульна і спакойна, ён любіў пагаварыць пра кніжныя навінкі. Але чытаць амаль не мог, прасіў сястру.

Аднойчы і мне давялося пабыць у ролі чытальніка. Праўда, не кнігі, а лістоў Зоські Верас. Ніл Сымонавіч перадаваў іх для публікацыі і паскардзіўся, што вось хацеў перачытаць, ды не здолеў — зрок слабы і почырк складаны. А я да таго часу расчытаў ужо лістоў з васямсот. Думаю, прачытаю ліст-другі. Але Ніл Сымонавіч аказаўся слухачом надзіва пільным, і пакуль я ўсю перапіску не агучыў (лістоў з дваццаць), з хаты не адпусціў, а за цярплівае чытанне ўзнагародзіў гісторыяй пра тое, як ён прымаў Зоську Верас (ра́дную БНР!) у савецкі яшчэ Саюз пісьменнікаў.

Фармальна прыняць яе не маглі — не была грамадзянкай Беларусі (жыла ў лесе пад Вільняй). І тады («і та-а-а-ды» — падкрэслена расцягваў слова апавядальнік) нікому невядомую бабульку Людвіку Антонаўну Сівіцкую часова прапісаў у сваёй маладзечанскай хаце Генадзь КахаНоўскі. У выніку Зоська Верас атрымала пісьменніцкі білет і неабходную для пражыцця пенсію, а першы сакратар Саюза пісьменнікаў БССР Ніл Гілевіч — вымову ад ЦК КПБ за страту палітычнай пільнасці. І ўжо другога Гілевічавага пратэжэ — паэта і былога «эсбээмаўца» Кастуся Шавеля — і блізка да таго саюза не падпусцілі.

Захаваў Ніл Сымонавіч для гісторыі і лагерныя вершы Ларысы Геніюш. Ведаючы пра мае даследчыцкія зацікаўленні, без усякіх умоваў перадаў іх для публікацыі. Сам ён атрымаў тыя вершы з рук Васіля Быкава, а той у сваю чаргу ад самой аўтаркі ў Зэльве ў 1971 годзе. Больш за сорак гадоў пераховаваліся яны за нейкую сотню метраў ад установы, дзе часта мяняюцца гаспадары кабінетаў, але дзе нязменна вялікую нацыянальную паэтку лічаць злачынцаю, не падлеглай рэабілітацыі.

Як і кожнага творцу, Ніла Гілевіча клапаціла, як адгукнулася яго слова, ці ўзышло пасеянае, ці спажыта яно, ці прынесла карысць. І тут была яго болевая кропка. Ён неаднаразова згадваў, што на яго раман у вершах «Родныя дзеці» (першы і апошні пакуль у беларускай літаратуры) у друку так і не з'явілася ніводнай рэцэнзіі, як не з'явілася і ніводнага сур'ёзнага водгуку на Збор твораў у 23-х тамах (апрача публікацыі ў «Нашай веры»). Гэтае маўчанне крытыкаў не дадавала паэту спакою. І яго можна зразумець.

Не забудуся, як усцешылі Ніла Сымонавіча словы Ларысы Геніюш, адшуканыя мною ў адным з лістоў з Зэльвы: «Ніл Гілевіч — гэта жывіцель пустыні». Ён нават перапытаў у слухаўку: «Як-як яна мяне назвала? Жывіцелем пустыні? Але ж і ёмка, але ж і трапна». І пазней, ведаю, падабаліся яму параўнанні з вялікай і паўнаводнай ракой, якая жывіць зялёныя аазісы ў афрыканскіх пясках.

І гэтае параўнанне, у адрозненне ад многіх іншых, не кульгае. Калі азірнуцца на зробленае Гілевічам у далёка не спрыяльных умовах, то сапраўды — ён той Ніл, які жывіў пустыню. І ад нас ужо залежыць, ці будуць памнажацца ў гэтай пустыні аазісы беларушчыны, ці ўсё ізноў засыплюць сухія і абыякавыя пяскі.

*Здымкі з архіва аўтара.*

# У вянок памяці Ніла Гілевіча

Алесь Чобат

## Я ЗНАЮ…

Я знаю даўно, што калі паміраюць людзі
і неба прымае нябачныя душы іх,
то нічога не робіцца ў свеце, бо іншыя людзі
гэтаксама жывуць і бягуць па справах сваіх.

Гэтаксама смяюцца, снедаюць і абдымаюцца,
ідуць на закупы, на дачах паляць галлё.
У лазнях мыюцца і на службах маюцца.
Свет не рушыцца – кожнаму месца сваё.

Але кожны раз я чую, што нешта рушыцца
ў тое імгненне і нейкая рвецца ніць –
неба рушыцца, зямля рушыцца...
і толькі бяспамятным гэты боль не баліць.



Выступленне Ніла Гілевіча на свяце паэзіі ў Мікалаеўшчыне. 1978 г. Фота з фондаў БДАКФФД.

Аксана Данільчык

## * * *

мае беларускія словы
бітыя бітыя словы
ужо не стогнуць
а сцяўшы зубы кладуцца
дошкамі
па-над багнай

ступаю па іх
і прашу каб патрывалі
яшчэ яшчэ і яшчэ

і я некалі стану
мастком
каб пайшлі
праз мяне
мае беларускія словы

далей
у будучыню

Лідзія Камінская

## НІЛУ ГІЛЕВІЧУ

*На развітанне*

Слова свабоднае, слова жывое
Вамі — за Багушэвічам і Цёткаю —
Падхоплена і прамоўлена як самае дарагое.

Слова роднае, слова народнае
Вамі — услед за Купалам і Коласам —
Услаўлена прыгожа і годна.

Слова мудрае, слова вячыстае
Вамі — за Багдановічам і Гарэцкім —
Пранесена высока і чыста.

Слова шчымлівае, слова балючае
Вы нам пакінулі, як крыніцу гаючую, —
Словы ўдзячныя, словы світальныя
Прыміце ад нас, Ніл Сымонавіч, —
На развітанне.

*30 сакавіка 2016 г.*

*У вянок памяці Ніла Гілевіча*

Тамара Нуждзіна

# «Я марна не згінуў, бясследна не знік...»

*Ну, вось і ўсё! «На гэта звалі».*
*Што меў зрабіць — зрабіў як мог.*
*Ці ўсё па-боску, па прызванні?*
*Пра гэта знае толькі Бог.*

Увабралася ў сілу вясна. Не спыняецца бег часу, а боль не цішэе... Ад вялікай страты, ад роспачы, ад усведамлення віны. Як сваёй уласнай, так і нашай агульнай: бо не заўсёды чулі, адзываліся на голас яго душы, занятыя сваімі клопатнымі справамі.

Асабістыя праблемы, якія так выяўна абазначыліся, калі Ніл Сымонавіч Гілевіч цягнуў нялёгкі воз абавязкаў першага сакратара Праўлення Саюза пісьменнікаў, ён перажываў мужна і годна, не шукаючы падтрымкі ў Бога (яшчэ не выкупіў усе свае грахі), не прадаючы сумлення (а гэта ад д'ябла), не спяшаючыся да людзей з балючай споведдзю пра крыўды, боль ці здраду тых, каму бясконца давяраў. Сапраўды, як кажуць, свет не без добрых людзей, але ім самім у гэтым жыцці так няпроста: «*У іх над галовамі німбы // Уласных пакут. Ім не лепш!*». Таму і выспявае такое вось катэгарычнае, чыста Гілевічава, рашэнне:

*Не волен я горкай гадзінай*
*Цяжар свой на іх ускладаць.*
*Дык што ж застаецца, Радзіма?*
*Ты можаш параду мне даць?*

(«Каменні ляцяць на дарогу...»)

А заставалася адно: тварыць і спадзявацца, што дойдзе яго слова да беларускага жыхарства. Сам жа пісьменнік заўсёды адгукаўся на сугучнасць думак, настрояў, якія адкрываў у артыкулах, публіцыстыцы, выступленнях пісьменнікаў, навукоўцаў або журналістаў на старонках перыядычнага друку ці на хвалях эфіру. Зусім нечаканым стаўся для мяне вось гэты ліст народнага паэта, дасланы на рабочы адрас:

«Добры дзень, паважаная Тамара Сяргееўна!

Зусім выпадкова па беларускім радыё пачуў гутарку з Вамі аб сучаснай літаратуры, у якой (гутарцы) было згадана і імя аднаго старога філфакаўца. З таго часу, з 12 чэрвеня (беларус! тыповы!), жыву ідэяй паслаць Вам свае кніжачкі апошніх гадоў, але хацеў бы дзеля пэўнасці — на дакладны хатні адрас. Дык паведаміце, калі ласка (мой тэлефон — 2271219 або лістом).

Вось пакуль і ўсё. Буду чакаць.

З павагай Ніл Гілевіч.

14.6.06.

P.S. А можа, збіраецеся быць у Мінску? Аддаў бы з рук у рукі.

НГ».

Нават адзін такі кароткі ліст можа нямала сказаць пра Ніла Гілевіча — чалавека, творцу, настаўніка: па-беларуску сціплы, далікатны, удзячны, іранічны і бясконца самотны. Яму так не хапала непасрэдных кантактаў з жыццём! Пазбаўлены магчымасці сустракацца з шырокай чытацкай аўдыторыяй, удзельнічаць у розных літаратурных і грамадскіх мерапрыемствах (было афіцыйнае табу на выступленні ў дзяржаўных установах), ён жыве творчасцю, працуе да знямогі над літаратурнымі планамі, над выданнем кніг. І ўсё за кошт здароўя, бяссонных начэй і ўласных сродкаў. І ўсё дзеля аднаго: будзіць сваім неспадманным словам душу, свядомасць, памяць беларуса, варушыць «разумок» сучаснай моладзі, шукаць адказ на многія пытанні, якія, дзе б ні быў творца, заўсёды вярэдзілі яго душу. Пісьменнік і яго лірычны герой прымушаюць чытача, напрыклад, задумацца: чаму ў нас усё не так у духоўным жыцці ў параўнанні з іншымі народамі?

*Хаджу па чужыне, гляджу на людцоў,*
*На іхняе з Богам вітанне —*
*І зноў працінаюся болем, і зноў*
*Душу мне свідруе пытанне:*
*Як доўга яшчэ будзе ў нас у вачах*
*І ў кожным штрыху чалавечым —*
*Наш, пройдзены намі, пакутлівы шлях,*
*Наш сум па няспраўджаным нечым?*

(«Пытанне»)

Над пакутлівым, ахвярным шляхам продкаў і многіх сучаснікаў паэт думаў заўсёды. Ён пісаў гісторыю роднага краю, крывіцкай зямлі, гісторыю быцця народа цягам доўгіх стагоддзяў.

*Ты, Крывія, мой даліцвінскі лёс,*
*Ты, слынная Літва эпохі Вітаўта,*
*Ты, Беларусь, уся з крыві і слёз,*
*Уся калючым цернем апавітая, —*
*Хоць назвы розныя, зямля ж адна,*
*Адной слязою безліч раз палітая,*
*Адной крывёй прамоклая да дна.*

Повязь з сучаснасцю, мінуўшчынай і вечнас-

цю ў жыццёвым лёсе і мастацкім мысленні Ніла Гілевіча — з'ява пастаянная. Існуе ў розных праявах, формах і выяўленнях. Гэта і далеч, «дзе лес пракаветны», і далягляд з той «сівою смугой», і бясконцы сусвет, і суровае слова з нябёсаў, што трапіла стрэмкай балючай у сэрца яму. Ніхто і ніколі «не выме той стрэмкі». Гэты Боскі знак служэння непадкупнай ісціне быў дадзены яму да самага астатку дзён зямных. Відаць, таму і не было разліку ва ўсім, чым жыў паэт, аб чым мроіў, на што надзею меў. Вышэй за ўсё цаніў сумленне, гонар творцы, яго свабоду і права: «Паспрачаўся трохі з [братам Міколам. — Т.Н.] наконт стылістычных дробязей. Даўно не цярплю ўмяшання і дабавак у выглядзе дробязей! Пачні ўступаць у дробязях — кончыцца ўступкамі ў вялікім... Вядома, там, дзе адчуваеш за сабой праўду» [Т. 21, с. 29]. Запіс ад 31 красавіка 1978 года, зроблены Нілам Гілевічам з нагоды публікацыі часопісам «Маладосць» яго чытацкага дзённіка, прысвечанага асэнсаванню новых вершаў Пімена Панчанкі.

І ў творчасці, і ў жыцці пісьменнік быў здольны на сапраўдны ўчынак: зняць матэрыял, зусім не друкаваць, калі тупа рэзаўся рэдактарам твор, адмовіцца ад прэміі, ад звання беларускага акадэміка ў небеларускай акадэміі... Вядома, за ўсё трэба плаціць у нашым жыцці. За прынцыповасць — душэўным і фізічным болем. За шчырае слова ўвагі, павагі, за радасць з'яўлення таленавітых беларускіх кніг ён малітоўна прасіў для творцаў ласкі Усявышняга — «Паздароў яго, Божа», «Дапамажы яму, Божа».

Калі ж самому станавілася нясцерпна жыць і дыхаць, калі кашмары даймалі на яве і ў снах («Сон», «Кашмар», «Сон у бяссонніцу» і інш.), калі часта сніліся могліцы, клады, пагосты, калі ў снах бачыліся постаці пісьменнікаў, якія даўно адышлі ў вечнасць, калі гаркота біла цераз край душы, тады прасіў адхлання ў высокіх сіл нябесных:

*На сцяжынках роўных і крывенькіх,*
*На шляхах з імглы і цемнаты —*
*Колькі мне заходзіла пад векі*
*Да нясцерпу едкай гаркаты!*
.................................
*Думаў з часам прыцярпеўся, звыкся.*
*Не. Пад вейкамі ўсё больш гарчэй.*
*Неба роднае! Пара! Схіліся*
*І мне горкасць выцалуй з вачэй!*

(«Балада пра горкасць»)

Неба не спяшалася выканаць просьбу, не спяшалася даць магчымасць зазірнуць за небакрай. Хоць і адчуваў паэт, *«як сіверам клятым // Да сэрца крадзецца зіма»*, але ў 1992 годзе, калі пісаліся гэтыя радкі (верш «На ўзгорку»), яму не дадзена было права ведаць адказ на пытанне «А што там, за даляглядам?». Ён быў патрэбны тут. Патрэбна была яго прысутнасць, каб іншым «не ўпасці ў бязвер'е і зман».




Кніга Тамары Нуждзінай пра творчасць Ніла Гілевіча, якая выйшла напрыканцы 2015 года.

Цяпер ён там, куды не дайсці жывым. Не пазваніць. Не запытацца. Застаецца толькі думаць разам з ім, наталяцца яго сумленным словам, вучыцца жыць з ім і без яго.

...Гартаю старонкі сваіх запісаў, перачытваю пытанні, якія ўзнікалі ў час пражывання жыццёвага і творчага шляху Ніла Сымонавіча Гілевіча паводле яго мемуарна-дзённікавай прозы, паэтычных твораў, публіцыстыкі. Не ўсё паспела ўдакладніць, расшыфраваць з дапамогай аўтара. Засталося безліч пытанняў, здагадак, сумненняў. І адчуванне перасцярогі самой сабе: ніякіх фантазій, нацяжак, ніякіх адвольных трактовак таго, што не выверана жыццёвым фактам або логікай яго мастацкага мыслення. Творчасць народнага паэта Ніла Гілевіча — гэта высокае жыццё. Гэта апостальская дарога, гэта ўкрыжаванасць лёсу талентам і Боскім наканаваннем. Іначай і быць не магло: *«А мама мяне нарадзіла на сене ў калёсах, // Край бітай дарогі ў восеньскі вечар дажджлівы»*.

Той «даруначак боскі» стаў сапраўды народным паэтам. Не па званні, а па самой сутнасці. І сёння, калі душа паэта належыць нябёсам вечнасці, бязмежна кранаюць прарочыя словы Ніла Сымонавіча Гілевіча, звернутыя да нас у вершы «Добрыя людзі» (1993):

*Я — па-за вамі.*
*Не злуйцеся, любыя.*
*Гэта мінецца.*
*Я дзесьці — часова.*
*Потым вярнуся.*
*Жывы. Незагублены.*
*Потым... Як вернецца*
*Роднае слова.*

Ірына Жарнасек

# СУСТРЭЧЫ, РАЗМОВЫ, УСПАМІНЫ...

Мяне заўсёды па-добраму здзіўляла, уражвала і захапляла, як Ніл Сымонавіч вёў размову са сваімі чытачамі. На самых розных літаратурных сустрэчах, у вялізнай зале Дома літаратара на Фрунзе, 5, на кніжных кірмашах, проста на вуліцах розных гарадоў. Мне заўсёды было цікава слухаць яго, але адначасна я радавалася таму, як людзі слухалі яго, якія задавалі яму пытанні. Сярод іх часта былі і даволі няпростыя пытанні, для адказу на якія патрабаваліся не толькі нейкія канкрэтныя веды, але і мужнасць, выяўленне жыццёвай пазіцыі, сумленнасць.

Памятаю, як я так і не змагла дачакацца, калі паменее каля Паэта чарга ў полацкім скверы, на Скарынавым святце кнігі. Было трохі сумна, што ў той дзень не змагла перакінуцца з ім хоць бы некалькімі словамі, але адначасна было і радасна за гэтую доўгую людскую чаргу з кнігамі да любімага Паэта, выкладчыка, прафесара і проста сумленнага чалавека.

Затое іншым разам пашчасціла цэлы дзень пабыць з ім, паблукаць па вуліцах Полацка, наведаць нашы музеі, святыні... У той дзень у Полацку ладзіліся дзве сустрэчы з Нілам Сымонавічам



У Полацку каля Барысава каменя з Хрысцінаю Лялько, Ірынаю Жарнасек і Таццянаю Мухляда. 2005 г.

і супрацоўнікамі выдавецтва «Про Хрысто», а мне пашчасціла не толькі быць удзельніцай тых сустрэчаў, але і папрацаваць экскурсаводам для шаноўных гасцей і маіх добрых сяброў.

Добра памятаю словы Ніла Сымонавіча, якія ён сцішаным голасам прамовіў у Спаскай царкве святой Еўфрасінні Полацкай.

— Падумаць толькі: дзе мы знаходзімся!.. — сказаў ён.

Памятаю, як у пабудаваным напрыканцы XX стагоддзя касцёле святога Андрэя Баболі Ніл Сымонавіч уважліва слухаў расповед святара Францішка Кіселя. А калі той распавёў, як полацкія вернікі ў свой час вымушаныя былі купляць білеты ў кіно, каб трапіць на святую Імшу, якую з дазволу мясцовай улады цэлебраваў наш кардынал Казімір Свёнтак у былым кінатэатры, на вачах Ніла Сымонавіча заблішчэлі слёзы.

З удзячнасцю прыгадваюцца і сустрэчы ў Полацку — ва ўніверсітэце і ў гарадской бібліятэцы. Паўсюль абавязкова знаходзіліся ягоныя былыя студэнты, якія ўжо самі працавалі настаўнікамі, выкладчыкамі ўніверсітэта, работнікамі ўстаноў культуры. Ніколі не забуду, як на сустрэчы са студэнтамі Ніл Сымонавіч гаварыў пра маю кнігу «Будзь воля Твая» і раптам ягоны голас задрыжэў, бо ён згадаў пра расстрэл вязняў беразвецкай турмы каля вёскі Мікалаеўшчына. «Кроў трэба там сабраць...», — паўтарыў ён некалькі разоў словы адной гераіні. І далей наш шаноўны госць разважаў, як гэта важна для нас, беларусаў, сабраць кроў нявінна забітых суайчыннікаў, знішчаных нялюдскімі ўладамі, якія ў розныя часы панавалі на нашай зямлі.

Іх было некалькі, запамінальных сустрэчаў, размоваў з Паэтам — у розныя часы, у розных гарадах. Цяпер яны з далечыні мінулых гадоў напаўняюцца нейкім новым, асаблівым зместам. Гартаю ягоныя кнігі, зборнікі вершаў, перакладваю выразкі з газет, часопісаў. Пасля адной такой публікацыі, здаецца, у «Народнай Волі», у снежні 1997 года я напісала ліст Нілу Сымонавічу — захацелася мне тады

адгукнуцца на ягоны верш, у якім так выразна прачытваецца зварот да маіх землякоў, пакутнікаў-патрыётаў з Саюза беларускіх патрыётаў:

Я разумею: можа, сёння й грэшна
Казаць такое, знаючы ваш лёс. —
І ўсё ж кажу. Бо так бы і было:
Калі б тады, равеснік ваш з-пад Гайны,
Вучыўся я ў Глыбокім ці ў Паставах, —
Я быў бы з вамі! І на страх пачварам —
Саюз бы большым быў на аднаго!

Падзякавала яму за тыя вершы і з даўкім камяком у горле напісала, што можа й нyварта шкадаваць, што «саюз быў бы большым на аднаго», бо затое мы маем Паэта Ніла Гілевіча. Ніл Сымонавіч адказаў мне цёплым, удзячным лістом.

...У маёй хатняй бібліятэцы ёсць некалькі кніг Ніла Гілевіча з аўтографамі Паэта. Вельмі шкадую, што няма ягонага аўтографа на кнізе «Лысая гара» — такую назву носіць гэтая кніга ў мяне, адрозную ад аўтарскай. І не таму, што яе выдаўцы нахабна парушылі аўтарскае права, а з мэтаю простай эканоміі месца на вокладцы. Надрукаваная гэтая кніга была недзе напрыканцы сямідзясятых гадоў на маёй друкарскай машынцы «Масква». «Выдаўцом» папрацавала я сама, а саматужны пераплёт зрабіў (за тое, што я дазволіла яму пачытаць гэты твор) мой калега, былы супрацоўнік наваполацкай гарадской газеты «Химик» Аляксандр Папко. Ён жа і вокладку аформіў, выкарыстаўшы для яе вокладку штодзённіка.



Ніл Гілевіч падпісвае свае кнігі пасля творчай сустрэчы ў Полацкай гарадской бібліятэцы. 2005 г.

Цяпер думаю пра тое, што гэтая мая саматужная кніга — выразны доказ папулярнасці Ніла Гілевіча. Тады, калі я друкавала для сябе паэму «Сказ пра Лысую гару», я асабіста яшчэ не ведала яго, дый не вельмі важна мне было тады, хто яе напісаў. Важней было тое, што яна была. І таму мне захацелася мець яе ў сваёй бібліятэцы, каб, зразумелая рэч, пры нагодзе даць яшчэ камусьці пачытаць. Колькі разоў хацела пахваліцца Нілу Сымонавічу сваім рарытэтам і ўсё забывалася гэта зрабіць пры нашых не надта й шматлікіх, але такіх запамінальных сустрэчах, размовах. Напэўна, таму забывалася, што заўсёды хацелася пра штосьці пагаварыць...

Юлія Шэдзько

## НІЛУ ГІЛЕВІЧУ

Значэнне імя вымярае значэнне асобы
— гэта, прынамсі, можа быць слушна адносна таго,
хто сапраўды, як рака, нёс жывыя шырокія воды
жывога крышталю радка, каб насыціць пясок берагоў.

Законы ракі, як і ўсё, падуладны спрадвечным законам,
прырода не можа застыць, і не можа рака не цячы
з крынічных вытокаў і ўсцяж праз парогі да водаў
большых, чым можна ўявіць і ўвабраць у памкненнях душы.

І так, як рака безупынна імкнецца да мора,
імкнецца паэт у нябёсы, бо там яго вырай і край.
Ціха люляе на хвалях бязмежнай блакітнай прасторы
срэбраны човен з ветразем — за небакрай.



Лідзія Камінская

# Святыя ружы

У палісадніку маёй праваслаўнай бабулі Зосі ружаў не было. На маленькай палосцы зямлі пад нізкімі вокнамі хаты раслі ў большасці сінія «боцікі», пышныя вяргіні і ўрачыста-высокія мальвы, якія мы, «гарадскія дзяўчаты», акуратна зрывалі, каб зрабіць кветкавы «баль-знаёмства». Затое хатнія ружы ў вялікіх драўляных кадках красаваліся-цвілі амаль у кожным доме. Другая мая бабуля, Ганна, якая памерла маладою пасля вайны, пакінуўшы Божай апецы чатырох дзетак, была каталічкаю, і менавіта ў хаце сваёй каталіцкай радні, на Шумілшчыне, я ўбачыла іншую ружу — прымацаваную да распяцця з паніклым Езусам. Не ведаю, з чаго яна была зробленая, але памятаю, што я ўчапілася ў яе вачыма, не асмельваючыся сказаць сваёй мітусліва-гаманкой маці, што я нядаўна чытала пра такую (?) ружу каля распяцця Езуса... у апавяданні Канстанціна Паўстоўскага. (Маці магла б сказаць, што я занадта шмат чытаю...)

У рускага пісьменніка Паўстоўскага, дасканалага стыліста, рамантыка, ёсць цыкл апавяданняў, аб'яднаных назваю «Залатая ружа». Праўда, пад «залатою ружаю» ён меў на ўвазе пісьменніцкую творчасць, але, насуперак вядомаму ахматаўскаму *«когда б вы знали, из какого сора растут стихи...»*, лічыў, што яна, творчасць, збіраецца з залатога пылу, як бедны ювелір пастуова, часам гадамі, збірае яго для сваёй адмысловай, магчыма, адзінай, ружы. У апавяданні К. Паўстоўскага «Каштоўны пыл» (яго падзеі разгортваюцца ў каталіцкай Францыі) згадваецца пра старую рыбачку, у якой была залатая пачарнелая ружа, прымацаваная да распяцця. *«Усе ў пасёлку дзівіліся, што старая не прадае сваё багацце. Яна магла б атрымаць за яе вялікія грошы. Адна толькі маці Шамета сцвярджала, што прадаваць залатую ружу — грэх, бо яе падарыў старой „на шчасце" яе каханы, калі старая, тады яшчэ смяшлівая дзяўчына, працавала на сардзінавай фабрыцы ў Ад'ерне.*

---

**Лідзія Камінская** — філолаг, супрацоўніца выдавецтва «Про Хрысто». Нарадзілася ў пас. Камсамольскі-на-Волзе Куйбышаўскай вобласці. Вучылася ў Бешанковіцкай СШ № 2 на Віцебшчыне. Закончыла філалагічны факультэт (рускае аддзяленне) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978). Працавала ў Чырвонадарскай васьмігадовай школе (Чэрвеньскі р-н), у Літаратурным музеі Янкі Купалы, Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, у часопісе «Роднае слова». Жыве ў Мінску.

*— Такіх залатых ружаў мала на свеце, — гаварыла маці Шамета. — Але ўсе, у каго яны завяліся ў доме, абавязкова будуць шчаслівымі. І не толькі яны, але і кожны, хто дакранецца да гэтай ружы».*

Са старою так і здарылася — яна дачакалася свайго шчасця (да яе вярнуўся сын!), а вось іншы герой апавядання, бедны і непрыгожы Шамет, які шмат часу збіраў залаты пыл у ювелірных майстэрнях (ён быў смецяром), каб зрабіць з гэтага пылу ружу для сваёй каханай Сузанны, памёр, нічога не дачакаўшыся, затое яго напоўнены спакоем і горыччу твар пасля смерці раптам стаў прыгожым, бо, *«чаго не дае жыццё, прыносіць смерць»*...

Таму я глядзела на ружу пры распяцці ў хаце шумілінскіх сваякоў запытальна... Магчыма, ужо тады я пачынала здагадвацца, што дасканалая прыгажосць ружы, у любым выглядзе, звязаная з абавязковаю таямнічаю ахвяраю, не заўсёды зразумелаю людзям... Працытую радкі з казкі О. Уайльда «Салавей і ружа».

*« — Адну толькі чырвоную ружу — вось усё, чаго я прашу, — усклікнуў Салавей. — Адну-адзіную чырвоную ружу! Ці ведаеш ты спосаб атрымаць яе?*

*— Ведаю, — адказаў Ружовы Куст, — але ён такі страшны, што ў мяне не хапае духу адкрыць яго табе.*

*— Адкрый мне яго, — папрасіў Салавей, — я не баюся.*

*— Калі ты хочаш атрымаць чырвоную ружу, — прамовіў Ружовы Куст, — ты павінен сам стварыць яе з гукаў песні пры святле месяца, і ты павінен пачырваніць яе крывёю свайго сэрца. Ты павінен спяваць мне, прыцісНуўшыся грудзьмі да майго шыпа. Усю ноч ты павінен мне спяваць, і мой шып будзе праціНаць тваё сэрца, і твая жывая кроў перальецца ў мае жылы і зробіцца маёю крывёю...»*

Прызнацца, калі я прачытала гэтую казку ў першы раз, мне было вельмі шкада Салаўя (як было шкада і вясёлую Страказу з байкі Крылова), але, падарослеўшы, я пачала разумець, што Ахвяра роўная Любові, а хіба можна шкадаваць таго, хто яе спазнаў? Таму — *«печаль моя светла»*... У гэтай прасторы «светлой печали», ужо, мабыць, назаўсёды, для мяне самым светлым стаў вобраз Маленькага прынца, створаны светлай фантазіяй Экзюперы. Яму не патрэбна было мноства ружаў, яму патрэбна была адна ружа, яго ружа — Абранніца. Зразумела, што католік Экзюперы такім чынам падкрэсліваў значнасць аднаго з самых важных сімвалаў Касцёла, звязанага з вобразам Маці Божай, сярод мноства імёнаў якой — *Ружа містычная, Ружа духоўная*. Клапоцячыся пра сваю адзіную ружу, Маленькі прынц педантычна змагаўся з дурным насеннем баабабаў — не з дрэвамі, а ўжо з самім насеннем, бо на яго планеце, як і на кожнай іншай, раслі карысныя і шкодныя травы, а значыць было насенне добрага і злога. *«Але ж насенне нябачнае,* — гаворыць Экзюперы. — *Яно спіць глыбока пад зямлёю, пакуль адна з семачак не надумае прачнуцца. Тады яна пускае парастак; ён распраўляецца і цягнецца да сонца, спярша такі мілы і бяскрыўдны. Калі гэта будучая радыска ці ружовы куст, няхай сабе расце на здароўе. Але калі гэта якаясьці дурная трава, трэба вырваць яе з коранем, як толькі распазнаеш яе. <...> А калі своечасова не распазнаць баабаб, потым ад яго ўжо не пазбавішся. Ён завалодае ўсёй планетаю. Ён можа праціНаць яе наскрозь сваімі каранямі. І калі планета вельмі маленькая, а баабабаў шмат, яны разарвуць яе на кавалкі... Дзеці! Беражыцеся баабабаў».*

А яшчэ, дзеці і дарослыя, някепска было б чысціць свае вулканы, як гэта рабіў Маленькі прынц. *«Калі вулканы акуратна чысціш, яны гараць роўна і ціха, без усялякіх вывяржэнняў»*, — запэўнівае Экзюперы.

Убачыўшы на зямлі кветкі, падобныя да яго ружы, Маленькі прынц сказаў ім: *«Вы прыгожыя, але пустыя. Дзеля вас не захочацца памерці...»* І мудры Ліс патлумачыў Маленькаму прынцу, не гаворачы слова «любоў», што яго ружа дарагая яму таму, што ён аддаваў ёй усю сваю душу, — *«тое, чаго не ўбачыш вачыма»*. Самае галоўнае... І што *«відушчае — толькі сэрца»*.

*«Зірніце на неба. І запытайцеся ў сябе: Ці жывая тая ружа, ці яе ўжо няма? <...> І вы ўбачыце: усё стане іншым»*, — сцвярджае Экзюперы.

У «Маленькім прынцы» не сказана, якога колеру была яго ружа. Сказана толькі, што яна клапатліва падбірала сабе фарбы і пялёсткі, напаўняючы сваім водарам усю планету. Між тым, у хрысціянскіх паданнях пра ружы патлумачаныя і іх колеры. Паводле аднаго з паданняў, белыя ружы абавязаныя сваім паходжаннем Панне Марыі, бо выраслі на кусце, дзе Яна прасушвала пялюшкі малога Езуса. Белыя ружы яшчэ называюцца *ружамі Магдалены*, бо яны страцілі колер з-за праліТых ёю слёз раскаяння.

У адной з легендаў пра крыж Збаўцы гаворыцца пра чырвоную ружу, якая вырасла з кропляў крыві распятага Хрыста, што ўпалі на мох каля падножжа Яго крыжа. Кроў гэтая, гаворыцца ў легендзе, бруілася па крыжы, і анёлы збіралі яе ў залаты посуд, каб зберагчы ад ганьбы, але некалькі кропляў усё ж трапілі на мох...

Паводле падання, тры вянкі з ружаў рознага колеру для Найсвяцейшай Панны зрабіў арханёл Габрыэль. Вянок з бе-

лых ружаў абазначае Яе радасць, з чырвоных — Яе пакуты, а з жоўтых (залатых) — Яе славу, і таму на многіх старажытных іконах Божая Маці з Дзіцем абкружаная трыма вянкамі з ружаў.

Між тым, лічыцца спрэчным пытанне пра тое, ці ведалі старажытныя габрэі, што такое ружа. Некаторыя вучоныя гавораць, што занатаванае ў Бібліі габрэйскае слова «шошамъ», перакладзенае Лютарам як «ружа», абазначае не ружу, а чырвоную лілею. Пра гэта я прачытала ў кнізе Н. Залатніцкага «Кветкі ў легендах і паданнях» (1994) — цікавым рэпрынтным выданні на рускай мове. Зазірнуўшы ў «Біблейскую энцыклапедыю» (1995), у раздзел «Раслінны свет Палестыны», я не ўбачыла нічога, што нагадвае ружу (як, напрыклад, наша шыпшына) — схілы галілейскіх гор стракацяць крокусамі, макамі, нарцысамі, хрызантэмамі, анемонамі. У гэтым жа раздзеле сказана, што ў Старым Запавеце лілеяй маглі называць таксама дзікарослы сіні гіяцынт. (Затое ў Палестыне расце мой любімы гаркаваты палын і «наш» сіні лён.) Аднак, паводле Талмуда, чырвоная ружа вырасла з бязвінна пралітай крыві Абэля, і таму яна была ўпрыгожаннем для габрэйскай маладой у дзень яе вяселля. Хутчэй за ўсё, старажытныя габрэі «пазнаёміліся» з ружаю пасля вяртання з егіпецкай няволі, бо да VII ст. да Н.Х. няма адлюстравання ружы на папірусах і ў егіпецкіх помніках культуры.

Самыя першыя згадкі пра ружы занатаваныя ў старажытных паданнях індусаў. Чароўная дасканалая кветка ўзяла ў палон увесь Усход. Найбольш апісваў ружу знакаміты персідскі паэт Гафіз, які нават быў пахаваны ў адным з самых вялікіх у свеце садзе ружаў у мястэчку Кесер. Ад персаў любоў да ружаў перайшла да турак, а дакладней, да ўсіх магаметанаў. Паводле Карана, белая ружа вырасла з кропляў поту Магамета, калі ён узыходзіў на неба, таму ніводны магаметанін не дазволіць сабе наступіць на ружу.

Грэкі лічылі ружу падарункам багоў, і менавіта слынная грэцкая паэтка Сафо дала ружы назву Каралевы кветак. Гэта быў сімвал прыгажосці і любові.

З Грэцыі ружа была перанесеная каланістамі ў Рым, дзе яна набыла іншае значэнне, стаўшы сімвалам высокай маралі і ўзнагародаю за выдатныя заслугі, знакам мужнасці і храбрасці вяяроў. У рымлянаў першай Рэспубліке ружа стала сакральнаю, і кожны год у Рыме, не раней за 19 красавіка і не пазней за 19 чэрвеня, у памяць аб памерлых наладжваліся ўрачыстасці, якія мелі назву ружанцовых дзён, — «*Dies rosationis*».

Падчас падзення Рыма, таленавіта апісанага Генрыкам Сянкевічам у рамане «*Quo vadis*» (1896), калі на баляваннях Нерона на багатых распуснікаў сыпаліся мільярды свежых пялёсткаў ружы, прыгожая кветка стала для хрысціянаў знакам людской заганнасці і прадметам раскошы, на які траціліся шалёныя грошы. Тады патрыцыі ўпрыгожвалі ружамі статую Венеры-Пандэмас — багіні плоцевай любові. У гэты ж час белая ружа набыла яшчэ адно значэнне — яна стала сімвалам маўчання, спарадзіўшы вядомае лацінскае выслоўе «*sub rosa dictum*», — «*сказанае пад ружаю*», г.зн. пад сакрэтам (штучная белая ружа падвешвалася да столі падчас рымскіх баляванняў).

Прайшло некалькі стагоддзяў пасля ўпадку Рыма, і толькі тады святыя айцы абвясцілі ружу райскаю кветкаю і прысвяцілі яе Божай Маці. З гэтага часу з ружаю пачалі звязваць мноства паданняў і легендаў. Калі ж вярнуцца да рэальнай гісторыі, варта згадаць, што з XI ст. папа Леў IX устанавіў звычай Ружавай нядзелі («*Dominica in rosa*») — урачыстага дня, калі Папа ў саборы св. Пятра ў прысутнасці поўнага сходу кардыналаў асвячаў залатую ружу, упрыгожаную каштоўнымі камянямі, каб узнагародзіць ёю тую асобу, якая найбольш годна праявіла сваю дзейнасць за прамінулы год. Выраб залатой ружы давяраўся мастаку з шаноўнага роду. З гістарычных асобаў такую ружу атрымалі: Людовік Малады — ад папы Аляксандра III у 1160 годзе; Іаана Сіцылійская — ад папы Урбана V; Фрыдрых Саксонскі, германскі імператар Генрых III; а ў больш блізкія да нас часы — мексіканская імператрыца Шарлота, іспанская каралева Ізабэла (больш падрабязна пра гэта можна прачытаць у кнізе Н. Залатніцкага «Кветкі ў легендах і паданнях»). Наўрад ці гэтая традыцыя дайшла да нашых дзён, бо вядомыя нам Папы Рымскія, жыццё якіх супала з нашым па часе, вылучаліся вялікай аскезаю. Мая сяброўка, мастацтвазнаўца Тамара Габрусь, расказвала мне, што ў 2004 годзе, падчас сваёй паездкі ў Чэнстахову, каля слыннага абраза Маці Божай яна бачыла агромністую (каля паўметра) залатую ружу, падараваную папам Янам Паўлам II. Гэта найвышэйшая адзнака, якою Ватыкан уганароўвае санктуарыі ва ўсім свеце. Святы Айцец Ян Павел II прывёз залатую ружу на Ясную Гару падчас сваёй першай пілігрымкі на радзіму ў1979 г. У 2006 г. папа Бэнэдыкт XVI ахвяраваў санктуарыю другую ружу. Цяпер абедзве папскія ружы ўпрыгожваюць алтар з цудадзейным абразом Маці Божай. Цудоўна, што традыцыя ўганаравання залатою ружаю прадоўжаная менавіта такім чынам.

Гаворачы пра ружу, нельга абмінуць увагаю і ружанец. Фран-



цузы называлі яго *le rosaire* — ад назвы ружаў, бо першыя шарыкі для ружанца рабілі з цёртых пялёсткаў ружаў, змацаваных гуміарабікам. Ружанец быў уведзены ў каталіцкае малітоўнае жыццё заснавальнікам дамініканскага ордэну Дамінікам дэ Гузманам, але яго «ідэя», выгляд і форма пераняты ад усходніх народаў, у якіх ружанцам карысталіся ламайскія манахі — ад іх гэтая традыцыя была пазычаная туркамі, хоць яны рабілі шарыкі з зямлі, узятай з Меккі.

На землях Расійскай імперыі ружа як упрыгожванне садоў з'явілася толькі пры Пятры I і асабліва распаўсюдзілася пры Кацярыне II. Чайныя ружы былі завезеныя з Еўропы, ружовыя — у 1860 г. з Ост-Індыі, а жоўтыя (залатыя!) — у 1824 г. з Кітая.

Беларускія пісьменнікі не апявалі ружаў, іх улюбёныя кветкі — васількі, а ружамі ў нас часта называюць шыпшыну, якая, здаецца, усюды расце сама па сабе (*«О Беларусь, мая шыпшына!»*).

Янка Купала, паводле ўспамінаў яго сучаснікаў, вельмі любіў менавіта ружы. Якуб Колас, як вядома, каля свайго дома ў Мінску вырошчваў жыта, а Іван Дамінікавіч — ружы (ён жа быў католікам!).

...Маючы звычку выпадкова гартаць кніжкі са сваёй невялікай хатняй бібліятэкі, я знайшла ў зборніку лірыкі «Пара любові і жалю» (1983 г.) Яўгеніі Янішчыц (дарэчы, з яе аўтографам!) верш «Ружы Купалы»:

*Святло вачэй. Журбы пракос.*
*Сарочкі кужаль.*
*Ўпляліся ў Ваш балесны лёс*
*Шыпы і ружы.*

*У хадзе радка, як хадака,*
*Праз град і слоту,*
*О, як выполвала рука*
*Драсён прыгнёту!*

*Да зор не спалася радкам*
*І песні мужнай.*
*І не да сну было шпікам —*
*Палалі ружы.*

*Адменнай ніткай вышыт час.*
*Ды ў Беларусі*
*Не ў цень сышлі —*
*звіняць для Вас*
*Прызнання гуслі.*

*Гучыць паэзіі арган*
*Праз боль і сцюжы.*
*...Кладу на Вечнасці Курган*
*Святыя ружы.*

Цікава, што менавіта Яўгенія Янішчыц заўважыла (падчас ўдзелу ў сесіях ААН), што ў статуі Свабоды, якую французскі скульптар Фрэдэрык Агюст Бартольдзі ляпіў... са сваёй маці, — ружанец замест ружаў (*«Але, мадам Бартольдзі, // Як мне паверыць Вам?!»*)...

Назва беларускага мястэчка Ружаны, відавочна, звязаная з ружанцам і ружамі. У «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (т. 6, 2001 г.) напісана, што з 1552 г. гэты населены пункт меў назву *Ражаная*, і пры гэтым жа артыкуле змешчана выява герба Ружанаў (1637 г.), на якім унутры авальнага вянка з чырвоных ружаў намаляваны св. Казімір з крыжам у правай руцэ і белай лілеяй у левай. Ну а паколькі згаданае імя святога Казіміра, не магу не назваць імя яшчэ аднаго чалавека, сапраўднага святара, пакутніка сталінскага Гулагу — першага кардынала Каталіцкага Касцёла на Беларусі Казіміра Свёнтка. Будучы прыкладам Марыйнай пабожнасці, ён вельмі любіў менавіта ружы — як знак Святой Марыі, увасабленне Яе духоўнай дасканаласці. Ён таксама вырошчваў іх у сваім агародчыку ў Пінску, а галоўнае — у садзе сваёй душы...

**Літаратура**


1. Антуан де Сент-Экзюпери. Планета людей. — Минск, 1976.
2. Н. Ф. Золотницкий. Цветы в легендах и преданиях. — Минск, 1994.
3. О. Уайльд. Избранные произведения в двух томах. Т. 1. — Москва, 1961.
4. К. Паустовский. Избранное. — Минск, 1990.
5. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. — Мінск, 2001.

## Георг Освальд Котт

# ГЁТЭ НАВЕДВАЕ ЗАМАК ЗАЛЬЦДАЛУМ

## Браўншвайг, 23 жніўня 1784 года

Вось ужо восем дзён, як Гётэ знаходзіцца ў Браўншвайгу. У якасці міністра і пратакаліста ён суправаджае свайго сябра Карла Аўгуста, герцага Сакс'н-Веймарскага і Эйзенахскага, у тайнай місіі. Гэтае заданне прывязвае Гётэ да браўншвайгскага прыдворнага цырыманіялу; яно амаль не пакідае яму часу, каб агледзець горад і наваколле. «Гэтыя жахлівыя шэсць гадзінаў, якія я кожны дзень мушу праводзіць за прыдворным сталом», — піша ён фраў фон Штайн.

Але сёння, у гэты бясхмарны летні дзень, у яго нарэшце застаюцца вольныя гадзіны: няма святочнага банкету, няма сустрэчы манархаў ці якой іншай абавязковай праграмы. Уладары яшчэ стомленыя пасля балю-маскараду, што адбыўся ў нядзелю. Аднак жа малады Гётэ выспаўся, у ім абудзілася прага дзейнасці. Нішто не можа ўтрымаць трыццаціпяцігадовага ў герцагскім замку, тым больш што будынак на вуліцы Больвег, які таксама завецца Шэрым Дваром, са сваім цэнтральным корпусам і бакавымі крыламі робіць незразумелае, даволі змрочнае ўражанне, і, апрача таго, яшчэ патыхае нечым затхлым.

Паэт устае рана. У той час як ягоны слуга Зайдэль прычэсвае яго, у пакой уваходзіць мастак Георг Мельхіёр Краўс. Раней, чым яго чакалі, прыбыў ён у



Партал гадзіннікавага павільёна з відам на Зялёны двор у замку Зальцдалум. Мастак Макс Котт.

Браўншвайг назад па дарозе з Гослара. Ён паказвае Гётэ малюнак: гранітны ўцёс у гарах Гарца. Паэт у захапленні. Карціна абудзіла ўспаміны пра даліну ракі Окер, уцёс Рострапэ і архаічны хаос уцёсаў на гары ведзьмаў. Гётэ зараз жа загадвае сядлаць двух коней, бо адчувае неадольнае жаданне ўбачыць гару Брокен — хоць бы і здалёк.

Абодва мужчыны вярхом на конях выязджаюць з горада. Каля брамы герцага Аўгуста вартавыя аддаюць ім чэсць. Краўс стрымлівае свайго буланага каня і кажа: «Адсюль усяго пяць хвілінаў язды да могілак святога Магні, дзе пахаваны пісьменнік Лесінг. Наведаем яго магілу?». Гётэ адно імгненне вагаецца, пасля прышпорвае свайго жарабца і скача да замка Рычманд. З гары Цукерберг ужо відаць Гарц. Гэтая панарама ўдалечыні вабіць мужчынаў, яны імкнуцца бліжэй да гораў і галопам імчацца на поўдзень. Каля Кляйн Штокхайма пачынаецца Гаспадарскі шлях – алея, якая вядзе проста ў Вольфэнбютэль. Яна служыць шляхце для выезду і хвальбы. Дарогу простаму народу перагароджвае шлагбаўм. Каля яго стаяць узброеныя гусары. Яны бачаць на аброці коней герцагскі герб і адкрываюць вершнікам дарогу. Алея злёгку падымаецца ўгару да Лехэльн Хольтца. Гётэ і Краўс скачуць навыперадкі, пакуль ад коней не пачынае ісці пара. У самай высокай кропцы дарогі, дзе Гаспадарскі шлях спускаецца да Вольфэнбютэля, яны спыняюцца, каб даць коням перадыхнуць.

Недалёка ад іх месца адпачынку яны бачаць Штэрнхаўс, зорны дом, —пабудаваны строга геаметрычна павільён. Знадворная лесвіца з шаснаццаццю прыступкамі вядзе ў васьмібаковую люстраную залу, упрыгожаную залатымі фігуркамі анёлаў і ляпнымі аздобамі. Шляхта ў час іх прывольнай прагулкі можа тут адпачыць; а калі яны падарожнічаюць парачкамі, то ў чатырох

---

**Георг Освальд Котт** — пісьменнік, паэт. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў Зальцгітэры. Закончыўшы рамесніцкае навучанне, вывучаў дыеталогію і германістыку; працаваў выкладчыкам у прафесійнай школе і ва ўніверсітэце ў Гановеры. Аўтар радыёп'есаў, апавяданняў, эсэ і вершаў, некаторыя з якіх пакладзеныя на музыку і перакладзеныя на розныя мовы. Аўтар 25-ці кнігаў, сярод якіх апошнія — выданні вершаў: «След ад воза» (Берген/Галандыя, 2001), «Палёт сарокі» (Хаўцэнберг, 2006), «Марыенборн» (Хаўцэнберг, 2014), «Вершы за ўсмешку» (Лейпцыг, 2014). Узнагароджаны прэміяй «Новая кніга» ў Ніжняй Саксоніі і Брэмене (1998), Крыжом за заслугі Ніжнесаксонскага ордэна (2011) і інш. Сябра Саюза нямецкіх пісьменнікаў і ПЭН-клуба. Жыве ў Германіі, у Браўншвайгу.

мэбляваных пакоях у пастэльных колерах знойдзецца магчымасць для ўсялякіх забаваў.

Тут якраз пад'язджае ландо і спыняецца каля вялікай лесвіцы. Вазніца ў блакітна-жоўтым сукне кіруе карэтаю, запрэжанаю чацвёркай коней. Два лёкаі ў ліўрэях саскокваюць з задняй падножкі. Яны адчыняюць дзверцы карэты і дапамагаюць выйсці нейкай разадзетай даме ў крыналіне. Гэта Генрыета фон Хартфэльд, каханка герцага Браўншвайгскага. Гётэ мімаволі нахіляецца за кустом: калі б Хартфэльд убачыла яго, яна яго не адпусціла б, і ён мусіў бы гадзінамі слухаць апошнія прыдворныя плёткі.

Гётэ кажа Краўсу: «Я сярдзіты на гэтую даму, яна ўзяла верх над разумнай Бранконі. І што ў гэтай Хартфэльд такога, што прываблівае герцага?». Мужчыны выпраўляюцца ў дарогу — скачуць напрасткі на ўсход да замка Зальцдалум. Мясцовасць узвышаная, вока дастае ажно да грады ўзгоркаў Асэ. Толькі той, хто набліжаецца да замка з захаду, з Атцумер Хольтца, можа адзіным позіркам ахапіць парк і палац ва ўсёй раскошы. Сёння ў сонечным святле зззяе золата флюгераў і разлятаецца беласнежнымі пырскамі вада з фантанаў. Гэты французскі парк з ягонымі алеямі, жывымі агароджамі з самшыту, з Парнасам, з ягонымі гротамі і фігурамі з алебастра — проста чароўны сад. Яшчэ больш раскошным адкрываецца воку замак. Аранжарэя і галерэя размяшчаюцца па баках галоўнага палаца ў стылі барока. Будынкі стаяць ступенямі. Блішчыць пакрытая палівай чарапіца на дахах. Эркеры, франтоны і карнізы – сапраўднае багацце колераў: зялёны, жоўты, пурпуровы і зноў, і зноў залаты. Здзіўлены і захоплены Краўс усклікае: «Вэльфы, чорт бы іх пабраў, бяруць прыклад з Караля-Сонца!». Гётэ ўсміхаецца і адказвае: «Гэта падман, сцены зроблены з дрэва, а фасады — толькі тэатральна-дэкаратыўнае мастацтва».

Каля галоўных брамаў стаяць



Скульптурная група ў стылі барока. Як мяркуецца, першапачаткова яна стаяла ў парку замка Зальцдалум, а цяпер знаходзіцца ў дварцовым парку Вэхэльдз.

адна насупраць адной дзве вартавыя будкі. Калі вартавыя салдаты бачаць вершнікаў, кожны з іх бярэ свой карабін «на каравул». У першым унутраным двары насустрач вершнікам спяшаюцца слугі, якія пытаюць, чаго жадаюць госці. Гётэ перадае ім коней, у яго ў думках перш за ўсё адно: ён хоча ўбачыць легендарную калекцыю карцін. Заходзячы ў Зялёны двор, ён толькі мімаходзь глядзіць на гадзіннікавы павільён. Цяпер, зблізку, палац выглядае заняпалым: чуеца шоргат, цэлыя кавалкі тынку ападаюць са сценаў. Але ў вялікай галерэі ўсё яшчэ заўважная былая раскоша замка. Вялізная зала з яе бакавымі кабінетамі — сапраўдная скарбніца сусветна вядомых карцін. На сценах вісяць палотны Рубенса, Тыцыяна і Рафаэля, Рэмбрандта, Дзюрэра, Кранаха і іншых мастакоў.

Краўс у захапленні замірае перад карцінаю з сукаватымі дрэвамі. Гэта «Дубы ля Кверума» пэндзля Ёгана Фрыдрыха Вайча «Пашы»[1]. Гётэ прагне ўбачыць пэўную карціну — «Партрэт шаснаццацігадовай дзяўчыны» галандца Цэзара ван Эвердзінгена. Пасля нядоўгіх пошукаў ён знаходзіць яе. На карціне — маладая жанчына з высокім ілбом, дзіцячым позіркам і цнатлівым выглядам. Яна нагадвае яму Ганну Амалію, герцагіню Вэймарскую. Зачараваныя карцінамі, мужчыны забываюць пра месца і час. Толькі калі ключнік бразгае ключамі, яны думаюць пра ад'езд. Коні напоеныя, мяшкі з кормам знятыя. Краўс і Гётэ шчодра плацяць слугам і скачуць прэч. Перад Машэродэ яны яшчэ раз азіраюцца. Парк і палац, залітыя вечаровым сонечным святлом, здаюцца казкаю з «Тысячы і адной ночы»...

**Заўвага**

Па загадзе герцага Антона Ульрыха Браўншвайгскага і Люнэбургскага ў 1688 годзе па планах Ёгана Бальтазара Лаўтэрбаха і Германа Корба пачалося будаўніцтва замка Зальцдалум. Палац быў пабудаваны з дрэва ў стылі фахверк, але дзякуючы роспісу будынкі выглядалі як каменныя. Раскошны загарадны замак усяго толькі на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў быў цэнтрам прыдворнага жыцця. У 1733 годзе тут адбылося вяселле Фрыдрыха Вялікага з браўншвайгскай прынцэсай Элізабэтай Крысцінай. Ужо ў 1790 годзе замак прыйшоў у заняпад і ў 1813 годзе яго знеслі. Вялікія часткі каштоўнай Зальцдалумскай калекцыі карцін цяпер знаходзяцца ў музеі герцага Антона Ульрыха ў Браўншвайгу.

*Пераклад з нямецкай мовы Алены Сямёнавай-Герцаг.*

[1] Атрымаў мянушку «Паша» з-за захаплення ўсходнімі (турэцкімі) касцюмамі.

**Літаратура:**

1. Karl Brandes: Das ehemalige fürstliche Lustschloß Salzdahlum; Druck und Verlag von Julius Zwißler. — Wolfenbüttel, 1880.
2. Friedrich Dietert (Hrsg.): Goethe im Harz; Deutscher Kultur- und Heimatverlag. — Wernigerode/Chorin, 1920.
3. Herzog Anton Ulrich-Museum Braunschweig: Die holländischen Gemälde, Kritisches Verzeichnis mit 485 Abbildungen, bearbeitet von Rüdiger Klessmann. — Braunschweig, 1983.



# Васіль Жуковіч

## *Пад зоркаю Хрыста*

**Васіль ЖУКОВІЧ** — паэт, навеліст, перакладчык.
Нарадзіўся 21 верасня 1939 года на хутары Забалацце (Камянеччына).
Скончыў Брэсцкі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. С. Пушкіна.
Выдаў 30 кніг паэзіі, прозы, а таксама вершаў і казак для дзяцей, перакладаў.
Сярод іх – аповесць «Як адна вясна...» (1980), зборнікі вершаў «Паклон» (1974), «У храме хараства і смутку» (2003), «Не завіце радзіму малой» (2009), «Пра што гаманілі рамонкі» (2012), «Хто хацеў бы пакатацца?» (2014), асобныя выданні перакладаў выбраных твораў Алішэра Наваі, украінскіх класікаў і інш.
Жыве ў Мінску.

### Маміна слова

Мая мама верыла ў Бога.
Не скажу, каб мяне прымушала маліцца.
Толькі ўзяў я з матуліных вуснаў,
Нібы гром, энергічнае,
        бы маланка, імклівае
Слова г р э х.

Гэтак проста яна асуджала,
Ушчувала, бывала, яна:
Грэх
        з гора чужога смяяцца!
Грэх
        не ведаць ніякае працы!
Грэх
        птушыныя гнёзды бурыць!

З гэткім кодэксам рос я, вырас,
З ім падняўся ў свой першы вырай,
Не расстаўся й да гэтай пары.

Сыне мой, ты сыночкаў гадуеш,
Сэрца ім цеплыні не шкадуеш,
Ды запамятай, што пры нагодзе
Аніколі, нідзе не зашкодзіць
Словы мамы маёй паўтарыць:
Грэх
        з гора чужога смяяцца!
Грэх
        не ведаць ніякае працы!
Грэх
        птушыныя гнёзды бурыць!

## Любоў

Любоў бязмежная, як і душа.
Маю душу ўсё існае хвалюе.
І мастака, і жабрака люблю я,
І зорку, і пчалу, і мураша.

Любоў не патрабуе ні граша —
Яна сабой ніколі не гандлюе.
Любові не зракуся, не згублю я,
Калі і шлях свой буду завяршаць.

Ад Маці, Неба і Зямлі любоў,
Яна — сястра, напэўна, прыгажосці,
Супрацьстаіць нянавісці і злосці,

Распнутая, уваскрасае зноў...
«Любоў — міраж», — магчыма, скажа хтосьці.
Яна ж трымае свет спакон вякоў.

## Прырода

Люблю цябе і слухаю, прырода,
Такая вабная парой любой!
Зачараваны змалку я табой,
Тваёй жывой красой, тваёй лагодай.

Я да цябе прыходжу то з журбой,
То з добраю душэўнаю пагодай,
З табой сустрэчы — сэрцу асалода,
З табой разлуку назаву бядой.

Ты ўся — ад жоўтай зоркі дзьмухаўца
Да сонца і да просіні нябёснай —
Вялікі цуд вялікага Тварца.

Няхай мільгаюць восені і вёсны,
Мяне натхняе гэты свет дзівосны,
Няма якому краю і канца.

## Малітва за родную мову

Ойча наш міласэрны нябёсны,
О, пачуй просьбы горкае словы:
Адвядзі, Божа, глум невыносны
Ты ад нашай прачыстае мовы.
Ўсім людзям з жывою душою,
Як паветра, вада, зямля плодная,
Трэба слова, але не чужое,
А навекі вякоў слова роднае.
Адвядзі ад яго занядбанне,
Ад знявагі яго захіні,
Ды благое яго існаванне
Паўнакроўным жыццём замяні.
Ойча наш цудадзейны нябёсны,
На людскія учынкі зірні:
Нам зямлю палівалі агнём і крывёю,
І Чарнобыль пакінуў свой след
смертаносны,
Нам бракуе аховы Тваёй.
Шматвяковых пакутаў і болю
Нам даволі, даволі, даволі!
Спаконвечнае наша памкненне да волі —
Костка ў горле натоўпам варожым.
Наша мова ім так замінае!
Заступіся за нас, моцны Божа, —
Слова продкаў хай гора не знае!
Не пусці яго, Божа, на звод,
Памажы, памудрэў каб народ,
Каб святыні свае ён бярог...
О, магутны, о праведны Бог!
Нас бяспамяцтвам Ты не карай,
Сябе самі бязбожна караем,
Цябе молім: краіне Ты стацца не дай
Зноў Паўночна-Заходнім краем!

## Багоўка пасля зімы

Багоўку ўбачыў на праталінцы,
Падняў, паклаў на даланю.
Яна ледзь-ледзь заварушылася
Каля гаючага агню.

— Жывая! Вось твая праталінка...
Яшчэ мо ўбачымся з табой.
Ты сонцу радуйся, баговачка.
Віншую, мілая, з вясной!

## Пад зоркаю Хрыста

Хай у жыцці пануюць вечна
Любоў і мір, і пекната;
Палюбім бліжняга сардэчна —
Мы ўсе пад зоркаю Хрыста!

Не быць сумленню ў паняверцы.
Нянавісць, прэч, і пустата!
Напоўнім верай нашы сэрцы —
Мы ўсе пад зоркаю Хрыста!

Збліжае нас духоўным хлебам
Да храмаў верная вярста.
У нас адны зямля і неба —
Мы ўсе пад зоркаю Хрыста!

Не перастаньма верыць, людзі:
Зло пераможа дабрата.
Няхай у нашых душах будзе
Заўсёды зорачка Хрыста!



# Сяргей Панізьнік

## *Спыняю час...*

**Сяргей ПАНІЗЬНІК** — паэт, перакладчык, публіцыст. Нарадзіўся 10 траўня 1942 г. у вёсцы Бабышкі Мёрскага раёна Віцебскай вобласці. Друкуецца з 1959 г. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1967 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Кастры купалля» (1967), «Палявая пошта» (1972), «Крона надзеі» (1975), «Чало і чалавек» (1979), «Слова на дабрыдзень» (1982) і інш. Апублікаваў кнігі дакументальнай прозы «Пасля вогненных вёсак...» (1980), «Браніслава» (1985), «Освейская трагедия: Книга народной памяти» (1992). Піша таксама для дзяцей. Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны (1991). У 2000 г. узнагароджаны Літаратурнай прэміяй імя Уладзіміра Калесніка за публіцыстычную творчасць, ідэю стварэння і падрыхтоўкі выдавецкай серыі «Бацькаўшчына».

### У родным мястэчку

Мая з крыжамі фотка:
вунь за званіцай справа
прычыненая фортка,
расчыненая брама.
З абдымкамі падзея.
З малітваю сустрэчы.
— Выпускнікі! І дзе я?
— Пры дружбе нестарэчай!
Спыняю час: на здымку
расквечаны пагляды.
Я не знікаю ў дымку, —
пераступаю ляды...
...Бажніца, помні зімку!
А я запомню — святы!

### Да арэшанькі

Мой продак – не мядзведзіна,
а моцны, як арэх.
І да яго ў адведзіны
хадзіць баяўся грэх.
Я чуў, як бабка ў кужалі
на мужыкоў дуньдзіць:
— Вы ўсемярых нядужыя
і петуха скруціць.
Сарваць арэх з ляшчыніны
мяне сусед прасіў.
І вось нарэшце шчыльненькі
арэшак надкусіў.

Каго клясьці? Арэшыну
ці бабкі нагавор?
Здаецца, дзед не грэшны быў, —
заместа зуба — створ.
Хто слабенькі, хто грэшненькі —
не зразумець нутром.
А я, скажы, арэшанька,
з тваім жыву ядром?

### Плынь памяці

Лета ў Лету пераліць
спрабавалі грэкі...
Хтосьці з нас мог паруліць,
ды канцы з канцамі звіць
не маглі няўмекі.
Калыму і Варкуту
хто запоўніў? На бяду
люд закрыў павекі?
Мы ці помнім здзекі?
Пакаяння — не, няма.
А забыўлівасць — турма,
дзе трасуцца штрэкі,
паглынаюць рэкі...
Апускаецца карма
  Памяці...
  Н а в е к і ?

### Казка пра Падкову

— Вы Падковай
выпадкова?
— Не! Зірні!
Хто ахвочы, —
носіць вочы на кані.
І я помню
не супоню, —
шорах шор.
Меч нязлючы —
мой калючы
ухажор.
Так, Падкова
не ахова
ад гайні...

— Ну а цокат?
  — Цокат — клопат.
  — Гэта чуеце мой допыт:
  — «Пад канём вы?
  — На кані?».
Верш, ты вершніка з «Пагоняй»
і мой вопыт — барані,
каб застацца нам, дамчацца
да стрыножанай радні.

### Дзве дзяржавы

*Наталцы Пазняк*
*з паэтычнага Кіева прысвячаецца.*

Дзве дзяржавы не ў прырэччы:
мы ўзнялі да Неба плечы!
Дзве дзяржавы хвалім мы,
бо ў іх самі — хвалямі.
А над хвалямі — званіцы.
Дзве дзяржавы — дзве сястрыцы.
І навошта нам граніцы?
Мы сябруем — далямі!

### У злюбе

Нябёсаў гнуткая тканіна
намолена
для ўсіх-усіх.
Краёў не мае і раўніна:
там сонца зіх,
тут ветра звіх...
Прызнай, раўнівая Краіна:
Нявеста — ты,
я твой жаніх.
Злюб не прыціх.
І кожны міг
журчыць журботная даліна:
— Ты — акіян,
я ручаіна.
Ты — вечнасць.
Я — твая хвіліна
сярод хваінак несухіх.

Ювеналій Харкевіч

# Дыярыуш іспанскага падарожжа з Вільні ў горад Валенсію на генеральны капітул ордэну <...> бэрнардынаў у 1768 г.

**16 дзень красавіка.** Раніцай мы выехалі грамадой з Балонэ[1] і доўга перабіраліся праз Пірэнейскія горы ў Іспанію. Хаця дарога была шырокая і ўезджаная, я і іншыя ішлі пешшу, бо з-за вялікай вышыні страшна было глядзець уніз. Тут, паміж гор, на высокай гары пры самай французскай мяжы, стаіць [вялікая] — як ахапіць вокам — французская фартэцыя з моцным узбраеннем, а сярод гор унізе пад ёю — вялікая каменная мытня, дзе мы прад'явілі пашпарты, узятыя ў Перпіньяне. Праехаўшы тую мытню і пакінуўшы ўбаку фартэцыю, мы апынуліся каля вялікага слупа з цясанага каменя, на якім з аднаго боку быў французскі герб «Лілеі», а з другога — іспанскі; за гэтым слупом пачалося ўжо Іспанскае Каралеўства. Калі спусціцца з гор, аказваешся ў блізкім іспанскім мястэчку, званым Хункерас[2], па прамой праз горы адлеглым ад Балонэ на добрыя 3 лье. Тут мы паабедалі і падвергліся дагляду, але ў мяне не было нічога, апрача меха з валасянiцамі. <...>

Тут, у Іспаніі, як у Францыі — ліўры ці франкі або ў нас — тынфы, грашыма служаць песеты, якіх даюць 10 за # 1 галандскі. Тыя песеты маюць у сабе 50 з лішкам на нашыя грошы. Ёсць тут таксама чырвоныя паўзалатыя, малыя, як шэлег, называныя шкуды, за два якіх даюць адзін галандскі чырвоны залаты.

З Хункераса выехалі па абедзе і на ноч прыбылі ў вялікае мястэчка, званае Фігерэс, дзе каля 10 дэлегатаў начавалі разам з намі ў кляштары нашых айцоў абсэрвантаў, якія нас ласкава прынялі і ўсім далі па асобнай келлі, часова перавёўшы сваіх манахаў у іншае месца.

Тут, у Іспаніі, нашы і іншыя айцы адрозніваюцца ад французскіх, як неба ад зямлі. Тут ужо назіраюцца манаская сціпласць і любоў, рэгулярныя набажэнствы ў касцёле, прытрымліванне статуту. Іспанскія габіты скроены такім манерам, як у італьянскіх абсэрвантаў, але светла-шэрага колеру, бліжэй да светла-блакітнага; носяць плеценыя з пянькі сандалі. <...>

**17 дзень красавіка.** Другая нядзеля па Вялікадні. Раніцой а 3-й гадзіне адправілі мы ў Фігерэсе св. Імшу, а 4-й гадзіне выехалі і праз 7 іспанскіх міляў прыбылі ў горад Жырона. <...> Абедалі мы ў Жыроне ў нашых айцоў абсэрвантаў.

Жырона — горад, размешчаны ў перадгор'і, на рэках Аньяр і Тэр. Яе фартэцыі размяшчаюцца побач, на гарах. Кажуць, што тут ёсць свой біскуп.

З Жыроны мы выехалі па абедзе, а начавалі за 4 лье ў аўстэрыі, званай Маджарына.

**18 дзень красавіка.** Рана выехаўшы з Маджарыны, праехалі 6 лье і перадыхнулі ў нейкай аўстэрыі каля моцнага і высокага каменнага моста. Непадалёку, убок ад маста, віднеўся кляштар айцоў капуцынаў[3]. Тут мы не абедалі, але айцец правінцыял Калабрыі меў з сабой італьянскі сальцісон, якога мы з'елі па кавалку і запілі бутэлькай віна, развёўшы яго вадой.

Перадыхнуўшы, рушылі далей і праз 4 або 5 лье спыніліся на начлег у аўстэрыі, званай Рэкулу.

**19 дзень красавіка.** З Рэкулу выехалі а 4-й гадзіне раніцы і праз 4 лье а палове на дзясятую прыбылі ў Барселону.

Дарога да Барселоны, пачынаючы ад іспанскай мяжы, была месцамі скалістая, месцамі камяністая. Будынкі па вёсках каменныя, вокнаў не маюць, толькі замыкаюцца аканіцамі з-за вялікай спякоты, якая пануе ў тым высакагорным краі. Многа ляжыць аблогам неапрацаванай зямлі, бо іспанцы гультаяватыя да гэтага. Нідзе не маюць сена і лугоў, бо паўсюль скалістая мясцовасць. Коней кормяць саломай, парубанай на сечку, змешваюць яе з сабранымі з дрэва бабамі, якія даўжэйшыя за нашу фасолю, але саладзейшыя. Дрэва[4], на якім растуць, накшталт дуба, толькі меншае і разложыстае, як яблыня. Аўстэрыі паўсюль малыя і бедныя, рэдка дзе можна здабыць пасцелю — спяць на сенніках, таму тут лёгка можна падхапіць каросту, бо з-за вялікай спякоты нямала іспанцаў пакрытыя каростай. У Барселонскім Каралеўстве яшчэ магчыма здабыць ежу ў аўстэрыях, бо тут часта праязджаюць французскія купцы. Але далей, напрыклад, у Каралеўстве Валенсіі, нічога нельга здабыць: трэба ў адным месцы — віно, у другім — хлеб, у трэцім — мяса або рыбу купляць і гатаваць самому; да таго ж у аўстэрыі трэба плаціць за стол, за якім ясі. <...>

Калі мы заехалі ў гарадскую браму Барселоны, нам загадалі спыніцца і зрабілі дагляд рэчаў, а паколькі я нічога не меў, то да мяне паставіліся менш сурова. Аднак куфар калабрыйскага правінцыяла праверылі цалкам. Айцец кусташ Марсэля, як француз, маючы магчымасць гаварыць з віцэ-каралём, сабраўшы ва ўсіх нас пашпарты, пайшоў разам з іспанцамі ў палац, а мы тым часам паехалі ў кляштар нашых айцоў абсэрвантаў. Тут мы і абедалі, і начавалі.

**20 дзень красавіка.** Бавіў час у Барселоне.

Барселона — іначай называецца *Barcinone* — сталічны горад Каралеўства Каталоніі, размешчаны на Міжземным моры, вялікі, вельмі прыгожы, вясёлы,

людны, гандлярскі, мае розныя мануфактуры, асабліва па вырабе ядвабу і металу. Стрэльбы, брытвы і іншыя цырульніцкія інструменты тут найлепшыя ў Еўропе, бо тут самае якаснае жалеза. Таксама ў крамах дастаткова дарагіх камянёў на продаж з Азіі, Амерыкі. Вуліцы горада брукаваныя гладкім каменем. Увесь горад аточаны мураванымі, засыпанымі ўнутры валамі, над якімі ўзвышаюцца прыгожыя вежы. Вялікага прадмесця не мае, ёсць толькі нешматлікія будынкі. Гарадскія муры знаходзяцца на аддаленні ад валоў. Касцёлы і кляштары цудоўныя. Нашы абсэрванты маюць тут два кляштары: адзін вялікі на самым узмор'і (тут бераг умацаваны высокай сцяной з цясанага каменя і мае насып з боку горада, на якім размяшчаюцца жаўнерская стража і вялікія гарматы, скіраваныя на мора), другі кляштар — углыб горада. Той, што знаходзіцца каля порта[5], па працягласці бадай пераўзыходзіць усе нашы палацы ў Польшчы, бо паздзелены на 3 квадратныя ўнутраныя галерэі, у кожнай з якіх на газонах, разбітых на квадраты, мілыя і чыстыя садочкі, сярод якіх б'юць пекныя фантаны. Колькі разоў лімонныя, апельсінавыя дрэвы служылі для тых, хто бачыў іх упершыню, увасабленнем зямнога раю! Сам кляштар, хоць збудаваны на два паверхі, аднак унізе і ўверсе мае працяглыя — для шпацыраў брацііі ўлетку падчас гарачыні — унутраныя галерэі, якія абапіраюцца на цясаныя каменнныя калоны. І хаця тады быў яшчэ красавік, я дзівіўся, што лімоны і апельсіны на дрэвах настолькі выспелыя, што падаюць самі, лісце іх пахучае і шырокае. <...> Другі кляштар абсэрвантаў знаходзіцца глыбей у горадзе, ён меншы, і тут маецца вучэльня. У першым — таксама нашы манахі, акрамя ордэнскіх школаў, вучаць малых дзяцей чытанню і пісьму, і лаціне, бачыў я тут мноства такіх дзяцей, што прыходзяць з горада. У першым, вялікім кляштары, за галерэяй знаходзіцца асобны эрэміторый[6], прыгожа збудаваны ў садзе, дзе знаходзіцца келля нашага айца св. Францішка, у якой ён жыў, калі прыходзіў сюды, у Іспанію, прапаведаваць Евангелле. Цяпер гэтая келля ператворана ў капліцу, у якой Бог мне дазволіў пабываць і памаліцца. У першым кляштары заўсёды жыве паўтары сотні манахаў. Таксама меў шчасце пабываць у катэдры[7], якая надзвычай прыгожая, каменная, вялікая і старажытная, толькі цёмная <...> (старажытныя касцёлы паўсюль цёмныя — з-за велічыні; нават і ў светлых вокны фіранкамі з матэрыі засланяюць — і з-за спякоты, і дзеля большай сузіральнасці). У катэдры пад вялікім алтаром знаходзіцца саркафаг св. Эўлаліі[8] (дзевы і мучаніцы, замучанай у часы імператара Дыяклетыяна; цела святой знаходзіцца ў мармуровай труне), да якога трэба спусціцца па прыступках у склеп. Тут гарыць мноства лямпаў на аліве. У езуіцкім касцёле[9] прыгожы, з мармуру і каменя фасад, але на той час касцёл быў апячатаны і пры ім стаяла варта, бо езуітаў пераследавалі, і таму я не змог пабываць у ім. <...>

У дні перад ад'ездам мы мелі вялікі клопат з атрыманнем пашпарта ад віцэ-караля, які заключаўся ў тым, што выйшаў строгі каралеўскі загад, каб ніхто з выгнаных езуітаў не з'яўляўся ў нашым габіце (гэта здалося мне благой палітыкай, бо тыя манахі загінулі на моры нявіннымі ахвярамі). Таксама падвяргалі нас больш строгаму агляду, каб не дазволіць айцу Бонавэнтуру — генеральнаму дэфінітару, неапалітанскаму абсэрванту — ступіць на іспанскі бераг, бо і кароль, і генерал ордэну забаранілі яму з'яўляцца. Аднак наш айцец з таго кляштара стараўся хутчэй зрабіць нам пашпарты, якія, прынёсшы, аддаў нам. <...>

**21 дзень красавіка.** Па абедзе выехалі з Барселоны, а начавалі за 4 лье ў гарадку, званым Мартарэль. Вячэра была добрая, яшчэ па-французску, і плата такая ж.

**22 дзень красавіка.** Выехаўшы раніцай з Мартарэля, праехалі блізу 5 лье, абедалі ў вялікім мястэчку, званым Віла Франка, у нашых айцоў абсэрвантаў, дзе прынялі нас добра. У тым мястэчку стаіць каралеўская драганерыя.

Начавалі ў аўстэрыі, званай Фіжэрэтта, штосьці каля 6-7 лье ад мора.

**23 дзень красавіка.** Выехаўшы раніцай з Фіжэрэтта, ехалі ўздоўж мора і прыбылі ў горад Таррагона, у якім хаця і нядоўга прабылі, аднак, вяртаючыся з капітула, цэлы дзень прабавіў я час у нашых айцоў абсэрвантаў і агледзеў горад і валы, па якіх прайшоўся.

Таррагона — горад, размешчаны на самым беразе мора. У даўніну быў прызначаны рымлянамі сталіцай *Hispaniae Tarragonensis*[10], быў моцны і амаль непрыступны, але цяпер вельмі зруйнаваны. Ад старажытнасці засталіся толькі руіны. Аднак прыемны, бо, размяшчаючыся на гары, адкрывае прыгожы выгляд на мора. Мае невялікі порт і цудоўныя касцёлы. Горад найбольш вядомы тым, што тут, паводле гісторыкаў, імператар Аўгуст выдаў эдыкт на перапіс насельніцтва ўсяго свету, як пра тое піша св. Лука (Лк 2, 1–3). Тут, у порце, размяшчаюцца гарматы і каралеўскі гарнізон. Вядомы горад і тым, што тут маўры[11] паслалі на неба мноства мучанікаў, пра што часта чытаем у Мартыралогу *Tarraconae in Hispania* або *in Hispania Tarragonensi*. <...> У тым горадзе ёсць свой біскуп ці арцыбіскуп.

Праехаўшы Таррагону, паабедалі пракладна за 5 лье ад начлегу, у гарадку Віла Сэка, пасля чаго слухалі ў мясцовай фары Імшу з нагоды свята Юр'я, паколькі тут гэта ўрачыстае свята. За абед на дваіх заплацілі на нашыя 2 злотых і 9 грошаў, але елі адну марскую рыбку, якую самі ж і падсмажылі на крытцы.

З Віла Сэка выехалі па абедзе і амаль увесь час ехалі праз скалы і дзікую, неабжытую мясцовасць, праз кусты размарыну, якія густа раслі па скалах. З правага боку былі высокія горы, а з левага — блізкае мора, так што ахапляла нейкая жудасць. На ноч прыбылі ў аўстэрыю, што стаяла ля самага мора і называлася Шпіталет.

**24 дзень красавіка.** Трэцяя нядзеля па Вялікадні. Паколькі побач з аўстэрыяй Шпіталет над самым морам знаходзіцца замак з высокімі — для абароны ад маўраў — сценамі, а ў ім ёсць капліца і жыве свецкі ксёндз, жаўнерскі капелан, то з яго дазволу раніцай а 3-й гадзіне айцец кусташ з Марсэля адправіў св. Імшу, а мы ўсе з фурманамі прысутнічалі на ёй і адразу пасля св. Імшы выехалі

са Шпіталета. Ехалі мы таксама праз дзікія скалістыя мясціны над морам і паміж гор, дзе не было ніводнага абжытага месца, але на паўдарозе паказаўся вялікі замак і фартэцыя на высокай гары, аб якую мора разбівае свае хвалі. На той фартэцыі відно шмат гарматаў, скіраваных на мора на выпадак нашэсця сарацынаў, якія рыскаюць па моры. Гэта тая фартэцыя, якую мы згадвалі ўчора, апісваючы Таррагону. Паміж гор, уніз ад той крэпасці, стаіць аўстэрыя для жаўнераў і падарожных. Праз тыя скалістыя горы доўга і з цяжкасцю ішлі мы пешшу, і невыносна дакучала нам спякота. Затым прыбылі мы пад абед у мястэчка Перэльё, адлеглае ад начлегу на 6 лье, і тут, у фары, з айцом правінцыялам Калабрыі адправілі св. Імшу. <...>

З Перэльё выехалі па абедзе і праз 4 лье прыбылі на начлег у горад Тартоса, недалёка ад якога спаткалі біскупа з хлопчыкам, што ішлі да вілы[12]; біскуп благаславіў усіх, хто пакланіўся яму з вазоў. Я бачыў, што тут іншыя стан рэчаў і пакора, чым у нашых біскупаў. Прыбыўшы ў горад і пакінуўшы фурманаў у аўстэрыі, пайшлі мы пешшу праз мост на рацэ ў кляштар нашых айцоў абсэрвантаў, які мясціўся недалёка ад горада. На мосце нас дагнаў айцец правінцыял Каталоніі, які вяртаўся з горада ў кляштар, і ўжо разам мы прыбылі ў кляштар, дзе ён прыняў нас добра, як бы мы былі ў сваім кляштары. Вячэралі ў рэфектарыі, ён частаваў нас добрым вiном. Кляштар тут вялікі і прыгожы, аднак у той час яшчэ завяршалася ўзвядзенне муроў. <...> Гэты горад мае свайго біскупа і акадэмію.

**25 дзень красавіка.** З Тартосы мы выехалі раніцай і праз 4 лье прыбылі на абед у гарадок Вайдэкона[13]. І тут у аўстэрыі нічога не знайшлі паесці, толькі, дастаўшы з меха, з'елі па кавалку свайго сыра і сальцісона, дакупіўшы віна; аднак заплацілі паўпесеты за стол. У аўстэрыі бедна і неахайна, і аж да самой Валенсіі ўсе аўстэрыі тут такія. <...>

**26 дзень красавіка.** <...> Праехалі два гарадкі, назвы аднаго дапытацца не мог, а другі завецца Алькала. Вяртаючыся, начавалі ў тым гарадку ў нашых айцоў дыскалцэатаў, у якіх тут *hospitium*[14]. Паколькі дэлегатаў было многа, айцец прэзідэнт[15] завёў нас праз вуліцу да сындыка[16], дом якога знадворку выглядаў убога, але ўнутры меў вельмі чыстыя памяшканні з даволі прыгожымі пакоямі; у яго нам з айцом, турынскім кусташам, на ядвабных ложках добра спалася, бо тут ядваб распаўсюджаны, хапае яго і ў Алькале. Вельмі прыгожая фара, якую я наведаў на зваротным шляху. Пасярэдзіне — вялікі купал, які высіцца над дахам, а па краях — капліцы з купаламі, і ўсе гэтыя купалы знаходзяцца пад дахам, адны ліхтары ўзвышаюцца над ім.

Ад'ехаўшы ў той дзень на 7 лье ад начлегу, на абед прыбылі мы ў аўстэрыю Ласаньета, дзе ўжо здабылі яйкі і рыбу, з якіх складаўся наш абед у мясны дзень. Заплацілі мы на нашыя 27 грошаў.

Выехаўшы па абедзе з Ласаньеты, праехалі 4 лье і прыбылі ў гарадок Кастэльён[17] — вялікі, размешчаны на ўзмор'і. Тут знаходзіцца вельмі прыгожы, вялікі і маляўнічы кляштар нашых айцоў абсэрвантаў. Тут, у гэтым кляштары, месцяцца таксама філасофскія штудыі. У гэтым кляштары мы начавалі, а вяртаючыся — абедалі. Прынялі нас пачціва і міла. У той час знаходзіўся там айцец Карлас — лектар, які жыў у Ерузалеме з нашым айцом Бурніцкім[18] і якому праз мяне перадаў іспанскую хустачку.

**27 дзень красавіка.** Выехаўшы раніцай з Кастэльёна, праз лье прыбылі мы ў вялікі гарадок Вілья Рэаліс[19], дзе жывуць нашы айцы рэкалекты, а ў касцёле ляжыць цела св. Пасхаліса[20]. Мы хацелі застацца тут на абед, але не дазволілі фурманы, адно што, высеўшы з воза, схадзілі ў касцёл і, прачытаўшы колькі пацераў перад алтаром св. Пасхаліса, вярнуліся на вазы, каб ехаць далей. Аднак калі я ўжо вяртаўся з капітулы, дазволіў мне міласэрны Бог пабачыць саркафаг св. Пасхаліса, бо тут, у кляштары, мы правялі амаль дзень. Той касцёл св. Пасхаліса мае форму крыжа, тут, у капліцы з левага боку ад уваходу ў касцёл, ляжыць на ўзвышэнні, над алтаром, г.зн. над мэнсай, дзе адпраўляецца св. Імша, цела слугі Божага; калі ўздымуць ззаду выяву на шрубах, якая засланяе цела, за шклом людзі бачаць труну св. Пасхаліса, што мае шкляныя шліфаваныя бакі. Паколькі знізу разгледзець яе складана, адамкнуў нам ксёндз дзверы побач з алтаром, з кута эпісталы[21], увайшоўшы ў якія, апынуўся я ў іншым пакоіку накшталт сакрыстыі; у тым пакоіку з левага боку ідуць прыступкі за алтар і там знаходзіцца капліца з якаснага мармуру, аздобленая мастацкай разьбой, цалкам пазалочаная, а таксама алтар зверху, ззаду алтара, які бачны з касцёла. Вось у такой капліцы каля самой мэнсы ляжыць цела святога. Аднак яно не было бачна, пакуль айцец, сышоўшы ўніз, не крутануў механізм і не апусціў заслону (усе гэтыя прылады знаходзяцца пад замкамі), тады зблізу ўбачылі мы за шклом цела св. Пасхаліса. Тое святое цела несатлелае, бачныя найменшыя суставы пальцаў і прысохлая да косці скура, як вэнджаная. Відаць, што гэты святы быў невысокага росту. На святым целе — габіт са светла-блакітнай матэрыі. Памаліўшыся перад святымі рэліквіямі, мы паехалі. Кажа брацыя, што і цяпер часам чуваць ціхі шолах у труне (як апісана тое ў жыцці святога). Таксама і генерал ордэну Пасхаліса а. Варысьё, едучы на капітул перад тым як стаў генералам, адпраўляючы тут святую Імшу, чуў трымценне ў тым святым целе і яго жылах, пра што распавядала тутэйшая брацыя.

Вілья Рэаліс ляжыць на прыгожай раўніне, вакол сады; кіпарысавыя, таксама як і пальмавыя дрэвы, якіх тут шмат, стваралі для мяне мілы відарыс.

Выехаўшы з Вілья Рэаліс, праехаўшы дужа многа прыгожых вёсак і мястэчак, прыбылі мы ў горад Марв'едра [22].<...>

Марвьедра па-іспанску, на лаціне *Muri veteres*, даўней, з часоў рымлянаў, называўся *Saguntium,* або *Saguntina civitas*. Горад разлеглы, знаходзіцца пад гарой. Калісьці рымляне ваявалі тут з карфагенянамі і Ганібалам[23]. На доўгай гары, бачнай на некалькі міляў, віднеюцца вялікія муры, збудаваныя рымлянамі і карфагенянамі, працяглыя, нібыта вакол якога горада, але цяпер там адны руіны і ніхто не жыве, а новы горад заснаваны ў перадгор'і. Відаць,

таму і называюць яго *Muri veteres*. У касцёле трынітарыяў, дзе раней была бажніца Дыяны, маецца яе жывапісная выява і надпіс, прысвечаны ёй у старажытнасці. Кляштар нашых абсэрвантаў прыгожы і зручны. Вяртаючыся, мы начавалі ў гэтым кляштары.

Пакідаючы па абедзе Марв'едра (паколькі часу да капітулы заставалася многа, нават задужа, а Валенсія была толькі за 4 мілі), параіліся мы з брацціяй, у якім кляштары пачакаць, і паведамілі нам, што за паўтара лье ёсць кляштар Валліс Езу, ад якога да Валенсіі застаецца яшчэ 3 лье. Пастанавілі мы там спыніцца. <...> Едучы да таго месца, бачылі з правага боку ад дарогі, каля гор, кляштар у садах. Ссеўшы тады з вазоў, пайшлі мы пешшу — я са спадарожнікам, правінцыял Калабрыі з спадарожнікам і кусташ з Марсэля. Убачыўшы, што мы ідзем, выйшлі з кляштара нам насустрач 3 браты і прынялі нас з радасцю: кожнаму з нас далі па асобнай келлі, тут мы і начавалі.

**28 дзень красавіка**. Ад гэтага дня аж да 9 мая прабавілі мы час у тым кляштары Валліс Езу.

Валліс Езу — кляштары нашых айцоў абсэрвантаў Валенсійскай правінцыі, дом рэкалектаў. Тут жыве каля 15 чалавек, сярод якіх 3 браты, якія гатуюць есці, апрацоўваюць сады, прыносяць міласціну, нават самі вазамі ездзяць на мулах, возяць грузы, падобна як у нас свецкія наймiты, і не саромеюцца гэтага.

Па правым баку ад уезду з Марв'едра ў той кляштар высяцца горы, і таму ўлетку трывае невыносная спякота, бо цяпло адбіваецца ад гор. З левага боку ў колькіх стаях мора і мястэчка яго вялебнасці ягамосці арцыбіскупа Валенсійскага. Сам жа кляштар размешчаны асобна, далёка ад горада. <...> З высокай галерэі таго кляштара ўбачылі мы Валенсію, ад аднаго погляду на якую ўнутраная прырода, прыгнечаная столькімі цяжкасцямі ў час прыкрага падарожжа, напоўнілася адчуваннем ведання, расплываючыся, як воск ад агню, радасцю ад таго, што найвышэйшы Бог, які абяцаў узняць служкаў сваіх на руках анёлаў, каб аб камень ног сваіх не паранілі, дзякуючы паслушэнству, якое абяцалі яму дастойнікі пры прафесіі[24], шчасліва давёў да вызначанай мэты і захаваў жывымі. Вакол таго кляштара маюцца таксама разлеглыя аліўкавыя сады. З-за вялікай колькасці манахаў у такіх кляштарах рэкалектаў у Валенсійскай правінцыі абсэрвантаў каля 9. Апрача нас, сюды не скіраваўся ніводны дэлегат — яны, відаць, збаяліся спёкі, таму мы ўпяцёх мелі ўсялякія выгоды. Некаторыя, аднак, прыплывалі морам, прыбывалі да св. Пасхаліса *cum voto*[25]. Тутэйшыя манахі ні за якую Імшу ахвяравання не бяруць, але ўсе Імшы адпраўляюць у імя паміраючага на крыжы Хрыстовым, і сюды не плыве ніякі грош, апрача неабходных законнікам ежы і піцця, неабходнага хлеба, мяса, віна і etc.

Непадалёку, за чвэрць нашай мілі, віднеецца кляштар айцоў картузаў, увесь акружаны кіпарысамі і пальмамі; ён даволі прыгожы.

**Май**

**9 дзень мая.** У гэты дзень, маючы намер наведаць у тутэйшай ваколіцы яшчэ некаторыя кляштары, падзякаваўшы айцу гвардыяну за ласку, а 5-й гадзіне раніцы мы з айцом кусташам Марсэля, французам, адправіліся пешшу ў кляштар абсэрвантаў у імя св. Дыдака[26], размешчаны па правы бок ад Валенсіі, ішоўшы туды спешна тры з чвэрцю гадзіны. Іспанцы, якія ішлі па гэтай дарозе з асламі, прапаноўвалі нам сваіх віслікаў, каб мы селі на іх і ехалі, але мы, падзякаваўшы ім за ласку, прадоўжылі свой шлях. У той кляштар прыбылі перад абедам, увесь шлях прайшоўшы садамі. Праз гарачыню я ледзь змог дайсці да кляштара. У гэтым кляштары сустрэлі мы мноства італьянскіх і карсіканскіх дэлегатаў. Там мы прабылі ўвесь дзень і заначавалі. Кляштар св. Дыдака надзвычай прыгожы, месціцца на раўніне каля вёскі, уся мясцовасць вакол яго на 2-3 нашыя мілі пакрыта аліўкавымі садамі і вінаграднікамі. <...>

**10 дзень мая.** Раніцай з кляштара св. Дыдака пайшлі мы пешшу ў Валенсію і ішлі 2 з чвэрцю гадзіны. Па дарозе аглядалі мы між садоў кляштар і прыгожы касцёл еранімітаў[27]. Таксама іспанцы ўвесь час нас разглядвалі, бо мы былі апранутыя ў іншыя строі. Так з Божай дапамогай прыйшлі мы ў Валенсію, а паколькі генерал ордэну загадаў, каб ніводзін дэлегат не ўваходзіў у Валенсію аж да ночы напярэдадні свята Унебаўшэсця Пана, якое прыпадала на заўтра, то мы скіраваліся ў кляштар дыскалцэатаў у імя св. Яна Хрысціцеля, што ляжаў за гарадскімі валамі, дзе сустрэлі каля ста дэлегатаў. Тут мы прабавілі цэлы дзень, будучы прынятыя з вялікай манаскай любоўю. Дыскалцэаты маюць тут вялікі кляштар (аднак у іх паўсюль малыя келлі), цудоўную бібліятэку, у якой пасля абеду ўсіх дэлегатаў частавалі добрым віном <...>.

**11 дзень мая**. За 2–3 мілі ад Валенсіі ёсць мноства кляштараў нашых абсэрвантаў, такіх як Валліс Езу, Каронэ Езу, Санкці Дыдацы і г.д.

Катэдра ў Валенсіі старажытная, з цясанага каменю, ёсць на што паглядзець; на яе версе можна вольна хадзіць і ўглядацца ў марскую далеч[28]. Алтар у гэтым касцёле вялікі, з літага металу, пакрыты золатам. Там жа, у скарбніцы, паказалі нам мноства незвычайных рэліквій святых. 1. Келіх з агату, якім карыстаўся Пан Езус на Апошняй Вячэры, зроблены ў выглядзе чашы, па форме падобны да паловы гусінага яйка, разрэзанага ўпоперак, з якога — паводле традыцыі, трымаючы яго на далоні, — пілі Езус Хрыстус і апосталы. І цяпер яшчэ відаць, што да яго дастасаваная падстаўка з таго ж каменя — накшталт нашых келіхаў, а каб падстаўка надзейна злучалася праз ножку з келіхам, яе філігранна прымацавалі залатымі паскамі. 2. Асобныя калючкі з цярновага вянка, якім быў укараналі наш Пан. Яны белыя і цвёрдыя, як костка, на канцах чырванаватыя ад Найсвяцейшай Крыві. 3. Няшытая кашулька Немаўляці Есуса, зробленая рукамі Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Таксама валасы Найсвяцейшай Дзевы Марыі, якія выглядалі бялявымі. Два Юдавы срэбранікі, на якіх з аднаго боку твар, а з другога — цюльпан. 4. Палец св. Лукі і маляваны яго рукой у чвэрць ліста абраз Найсвяцейшай Дзевы

Марыі, таксама мноства рэліквій іншых апосталаў. 5. Цельца аднаго з немаўлятак, замучаных Ірадам. 6. У той жа катэдры бачыў я багатую манстранцыю (званую тут *Custodia Corporis Christi*), такую вялікую і высокую, што калі я стаў на ўзвышэнні, то яна ў адчыненай шафе была роўная з макаўкай маёй галавы; падчас [свята] Божага Цела яе — на вялікай срэбранай падстаўцы і на срэбраных насілках — нясуць на сваіх плячах восем дыяканаў. У сярэдзіне манстранцыі — *ostensorium*[29] з чыстага золата, пад якім — пакрытая дыяментамі залатая фігурка св. Міхала. На той самай манстранцыі вісіць дыямент памерам з малы італьянскі арэх. Тую манстранцыю пакрывае мноства іншых каштоўных камянёў.

Быў у касцёле і кляштары айцоў дамініканаў[30] і наведаў келлю, дзе жыў св. Вінцэнт Ферэр[31]. Цяпер з яе зрабілі капліцу ў ніжнім калідоры. Выява гэтага святога намалявана на дошцы, на якой ён спаў. Святы нарадзіўся ў гэтым горадзе. У гэтым жа касцёле ляжыць цела св. Людовіка Бертрана[32] — у капліцы, прыбудаванай злева да касцёла, зробленай на такі ж манер і таксама аздобленай, як апісаная мной [капліца] св. Пасхаліса ў Вілья Рэаліс. Цела святога цэлае і нават скура прысохла да цела — за люстраным шклом добра відно. Габіт на святым аксамітны, чорны. У рэфектарыі айцоў дамініканаў бачыў я месца, дзе шаноўны Мікалай Фактар[33] з нашага ордэну абсэрвантаў (працэс беатыфікацыі якога распачаты ў Рыме), абедаючы з айцамі дамініканцамі, бачыў, як святыя айцы Дамінік і Францішак сядзелі між браціі пры стале. Той цуд на падставе сабраных фактаў святая інквізіцыя прызнала сапраўдным. На месцы, дзе сядзеў шаноўны Мікалай Фактар, і дагэтуль маецца мармуровая табліца з апісаннем цуду.

Быў у касцёле Марыі Пустэльніцы — там, у такой самай капліцы, як св. Людовіка Бертрана, за шклом знаходзіцца цудоўная статуя Дзевы Марыі.

Таксама ў іншым касцёле агледаў у прыцемку за алтаром цудоўную статую ўкрыжаванага Хрыста.

Назіраў тут значна адрозную ад нашай працэсію, калі найвялебнейшы новаабраны генерал з усёй капітулай скіраваўся ў катэдру і там адправіў спяваную Імшу. Спачатку клерыкі ў далматыках [і] лаікі ў альбах, абапіраючыся на пазалочаныя кіі, неслі на плячах статуі розных святых Панскіх, такіх як св. Пасхаліс, св. Францішак, Людовік, Альжбета, Юзаф, Найсвяцейшая Дзева Марыя. Паміж імі па адной касцёльнай харугве неслі вяльможы, слугі якіх трымалі канцы ад харугвы. Таксама ў шэрагах перад імі годныя людзі неслі свечкі. Пасля ўсіх ішлі парамі манахі. За імі — генерал у капе, з срэбраным крыжам у руцэ, пад балдахінам. За генералам ішлі служачыя магістрата ў чырвоных тогах і парыках, папарна несучы залатыя буздыганы[34] на плячах. На вуліцах горада было мноства ракетаў і феерверкаў, выпушчаных гарнізонам. <...>

Наогул, калі гаварыць пра Іспанію, яе народ — чорны і непрыгожы, неахайны, як нашы жыды. Замест абутку носяць сандалі, плеценыя з лыка, травы, трыснягу, саломы. Нагавіцы адны носяць шырокія, накшталт жаночай спадніцы, ці ў зморшчкі з якой-небудзь матэрыі, а хтосьці — роўна пашытыя, палатняныя; ногі і лыткі ў іх голыя, абпаленыя на сонцы. На іх палатняная або дымкавая катанка, кароткая, як венгерская, якую ніжэй падвязваюць пасам. Як жанчыны, так і мужчыны носяць на галаве тканыя з шоўку каптуры з вісячым кутасікам; аднак часцей жанчыны ніякага ўбору на галаве не маюць, апрача вэлюму з суровага палатна, які клінам звісае да паса, як нейкі куль, або хусцінку паверх касы ці плахту якую павесяць. Мужчыны ў гарадах носяць доўгія, шырокія плашчы, скроеныя ў цыркуль, і круглыя капелюшы. Гэта адзенне бяднейшых людзей. Заможнейшыя ж носяць французскія строі, а вытанчаныя кабеты злоўжываюць бялілamі, але на галаве, апрача завушніцаў, з упрыгожанняў рэдка якая што мае. Іспанцы — злосныя людзі, хуткія да панажоўшчыны, на дарогах і ў прадмесцях часта сустракаюцца драўляныя крыжыкі велічынёй з локаць, пастаўленыя па забітым там чалавеку. Дужа набожныя, кожны просіць медальёнчык, ружанец, асабліва пергаменныя абразкі, нават вытанчаныя людзі і князі не саромеюцца прасіць, бо тут у іх гэта не вырабляецца. <...>

Апрацаванай зямлі маюць мала, бо люд гультаяваты да работы, кожны з іх хоча звацца кабальера, а не гаспадаром. Большую частку пшаніцы прывозяць караблямі з Італіі. Уробленыя палі засяваюць двойчы на год— раз пшаніцай, другі раз — фасоляй, якую (у ежы) змешваюць з пшанічнай мукой, калі бедныя людзі. Паколькі зямля ў палях цвёрдая, камяністая і глiністая, ды і спякота сушыць празмерна, то маюць мноства студняў з зубчастымі коламі, на якіх вісяць збаны. Завязаўшы мулу вочы аслонамі з пальмавага лісця, прывязваюць вуздэчку да напятай жэрдкі так, каб чалавек здолеў яго вадзіць. І так ён цэлы дзень ходзіць вакол студні і збанкамі налівае ваду ў другую каменную студню, адкуль увечары пускаюць ваду ў сады і на палі ды наталяюць іх вільгаццю. Ураджаі харошыя і, калі ўлетку праходзяць дажджы, адно пшанічнае зерне дае 20 зёрнаў.

Маюць мноства цытрусаў (лімонаў, апельсінаў), фінікаў, дыняў.

Калі гатуюць стравы з мяса, то без усякай прыправы, падаюць адно мяса, добра прасмажанае; пры стале можна яго пасаліць або дадаць лімоннага соўсу. Таму і лыжак да стала не маюць, хіба чужаземцам даюць, бо ўсе стравы сухія. А да ўсяго курацiну, ялавічыну, бараніну, свініну гатуюць разам і ўсе кавалкі кладуць у адну місу, што нам, палякам і немцам, было недасмаку. На закуску падаюць шмат канфіцюраў з рознай садавіны, смажаных у цукры. Імі можна было б насыціцца, але з-за таго, што слодыч іх хутка брыдзіць і ад іх чужаземцы хутка набываюць дыярэю, апетыту імі здаволіць немагчыма.

Вядома, у Валенсіі ўсе атрымалі ад віцэ-караля пашпарты, якія абмянялі ў Барселоне.

**Дыярыуш <...> вяртання з Іспаніі на радзіму ў 1768 г.**

**6 дзень чэрвеня.** Бавіў час у Барселоне ў кляштары абсэрвантаў. Тут паўторна наведаў катэдру, а паколькі быў у час праслаўлен-

ня Божага Цела, паказалі мне манстранцыю, якую дыяканы носяць на плячах. Яна ва ўсім была падобная да валенсійскай, адно крыху меншая, але з-за мноства дыяментаў выглядала багацей; таксама на ёй вісіць залаты ланцужок ордэна Залатога Руна, ахвяраваны іспанскім каралём Карласам, зроблены з першага золата, знойдзенага ў Амерыцы. У двары таго касцёла — прыгожы фантан пасярод каменнага ўзвышэння, у якім заўсёды плавае колькі гусей. У напамін аб чым, я не мог дапытацца. Сцвярджаюць, што для іх створаны фундуш, але я мяркую, што звычай пераняў ад рымлянаў, якія трымалі гусей у Капітоліі на памяць пра ўратаванне ад ворага дзякуючы гусінаму гогату або для таго, каб паказаць рэдкае для гэтага краю птаства як цікавостку.

Таго ж дня ўвечары бачыў у Барселоне працэсію, зладжаную шаноўнымі айцамі аўгустынамі. На вуліцах, дзе ішла працэсія, з вокнаў камяніцаў былі вывешаны багатыя абіўкі з матэрыі, так што з абодвух бакоў вуліца здавалася пакрытай шпалерамі. Працэсія ж рухалася ў наступнай паслядоўнасці. 1. Спачатку вялі склеенага з паперы вялікага вала з пазалочанымі галавой і рагамі, да самага нізу пакрытага посцілкай, пад якой сядзеў чалавек і кіраваў галавой таго вала: раз падымаючы, раз схіляючы, як бы кланяючыся; вакол яго гурмой бегаюць дзеці, крычучы і сваволячы. 2. Неслі дзве вялікія статуі гігантаў: адна выяўляла сабой мужчыну, другая — жанчыну, якія між сабой нібы віталіся і аддавалі пашану пабочным людзям. 3. Затым на двух мулах ехалі людзі з бубнамі і білі ў іх, іншыя гралі на свісцёлках. 4. За імі ў чорнай тозе ішоў адзін паважаны мужчына са срэбраным жазлом у руцэ, за ім папарна рухаліся іншыя з жэзламі і плецёнымі пальмовымі харугвамі. 5. Затым папарна ішлі манахі са свечкамі. 6. За манахамі ішлі тры скрыпачы з басэтляй, граючы штосьці вясёлае, як у аўстэрыі. 7. За імі — малое дзіця, ад пляча да лыткі аперазанае баваўняным пасам, — уласна так, як малююць св. Яна Хрысціцеля ў дзяцінстве, аперазанага вярблюджай скурай, якое вядзе за сабой на муаравым паску ўпрыгожанае стужкамі маленькае, ціхмянае ягнятка. 8. Затым неслі статуі св. Монікі[35] і іншых (падобную працэсію я апісаў на прыкладзе Валенсіі). 9. Набліжаюцца музыкі, якія ідуць па баках і граюць — капэла па-нашаму. За капэлай — пашанотныя людзі са свечкамі, паміж якімі адзін абраны нясе касцёльную харугву. Нарэшце, пад балдахінам — высокашаноўныя. Евангелля не спяваюць, як у нас, але больш ціха, з усвядомленай малітвай, ідуць свабодна, а час ад часу адзавецца капэла. Манахі ж спявалі гімн *Sacris solemnis* і г.д.[36] Праспяваўшы колькі радкоў, ідуць далей у поўнай цішыні, і нават капэла маўчыць, пакуль пасля сямі ці больш пацераў зноў заспяваюць страфу. На вуліцах было мноства феерверкаў і ракетаў. Такім чынам выглядае працэсія ў іх, дзе ўсе католікі, але сярод некатолікаў цяжка было б увесці такі звычай <...>.

**12 дзень чэрвеня.** Абед у абсэрвантаў у мястэчку Хункерас ля Пірэнейскіх гор. Начлег у Балонэ ў Францыі. Пераехаўшы тут праз горы, знайшлі мы на мытні французскую табаку, і амаль усе дэлегаты павысыпалі з табакерак іспанскую і купілі тае французскай, бо ад іспанскай табакі балелі нам галовы, быў насмарк, цяклі слёзы з вачэй і ледзь вочы не вылазілі <...>.

*Пераклад з польскай мовы і каментар Алены Вальчук. Паводле: Charkiewicz J. Dyjariusz podróży hiszpańskiej z Wilna do miasta Walencji na Kapitułę Generalną Zakonu Mniejszych Braci św. Franciszka, to jest Bernardynów, odprawionej w roku 1768 / J. Charkiewicz ; oprac. i wstępem opatrzył Bogdan Rok. — Wrocław : Wydaw. Uniwersytetu Wrocławskiego, 1998. — 209 s.*

[1] Балонэ (Volone) — цяпер Ле-Булу.
[2] Хункерас — цяпер Ла-Жункера (La Jounquera).
[3] Напэўна, кляштар капуцынаў у Сан-Селоні, куды капуцыны прыбылі ў 1582 годзе.
[4] Гаворка ідзе пра лаўровае дрэва.
[5] Сённяшні *Capitania General*.
[6] Эрэміторый — ізаляванае месца, дзе манах можа пабыць сам-насам.
[7] Збудаваная ў гатычным стылі ў 1298–1450 гг., неагатычны фасад завершаны ў 1892 г.
[8] Культ Эўлаліі з Барселоны з'явіўся ў VII ст.; яе лічаць патронкай катэдры Барселоны і самога горада. Частка мошчаў святой захоўваецца ў катэдры Вроцлава.
[9] Езуіцкі касцёл, заснаваны ў Барселоне ў 1546 г.
[10] Hispania Tarrogonensis — у часы імператара Аўгуста назва рымскай правінцыі. Назва паходзіла ад важнейшага ў тым рэгіёне горада *Tarraco* (Таррагона).
[11] Маўры — плямёны, якія насялялі Маўрытанію пасля арабскіх плямёнаў, што насялялі Іспанію; сінонім назваў «арабы» і «сарацыны».
[12] Вілья — вёска (ісп.).
[13] Вайдэкома — цяпер Ульдэкона (Ulldecona).
[14] *Hospitium* — прытулак пры кляштары для падарожнікаў і пілігрымаў.
[15] Кіраўнік кляштара.
[16] Сындык — асоба ў кляштары, упаўнаважаная вырашаць прававыя справы супольнасці.
[17] Кастэльён — цяпер Кастэльён-дэ-ла-Плана (Castellón de la Plana).
[18] Антоній Бурніцкі (1715–1770) — віленскі бэрнардын, які ў 1762–1766 гг. знаходзіўся на Святой Зямлі.
[19] Віла Рэаліс — цяпер Віла Рэаль (Vila-real).
[20] Св. Пасхаліс (1540–1592) — Пасхаліс Байлон, беатыфікаваны ў 1618 г., кананізаваны ў 1690 годзе. У 1897 г. папа Леў XIII абвясціў яго патронам эўхарыстычных брацтваў і кангрэсаў.
[21] З правага боку алтара, дзе чыталіся лекцыі, эпісталы.
[22] Марв'едра — цяпер Сагунта (Sagunto).
[23] Горад Сагунта, заміраны з Рымам у 219 г. да н.э., пасля мужнай абароны быў заваяваны Ганібалам і знішчаны, што стала прычынай другой Пунічнай вайны. Пазней рымляне адваявалі Сагунта ў карфагенянаў і адбудавалі. Ганібал Барка (247–183 да н.э.) у 221 г. да н.э. быў галоўнакамандуючым арміяй Карфагена. Ён пачаў падрыхтоўку да новай вайны з Рымам, атрымаў шмат перамогаў у Італіі.
[24] Прафесія — складанне манаскіх абяцанняў.
[25] *Cum voto* (з вотаю) — прадмет, які вешаецца на алтар ў якасці ахвяравання і падзякі.
[26] Св. Дыдак (каля 1400–1563) — св. Дыега, манах Ордэну Братоў Меншых Канвентуальных, вёў місіянерскую працу на Канарскіх выспах. Кананізаваны ў 1588 годзе.
[27] Манаскі ордэн, заснаваны каля 1350 г. у Луп'яна каля Таледа Пэдра Фернандэсам Печа (пам. у 1374 г.).
[28] Катэдра ў Валенсіі, узведзеная на месцы даўніх рымскіх, вестгоцкіх і мусульманскіх святыняў, яе пабудова доўжылася з 1262 г. да к. XV ст., перабудоўвалася ў 1674-1774 гг. Спалучае элементы готыкі і барока.
[29] *Ostensorium* — манстранцыя, тут: цэнтральная частка манстранцыі.
[30] Кляштар дамініканаў знаходзіўся ў крэпасці з часоў Карласа I (іспанскі кароль у 1516-1556 гг.).
[31] Св. Вінцэнт Ферэр (1350–1419), дамініканін, вялікі прапаведнік і мучанік Сярэднявечча; здзейсніў важнае месіянерскае падарожжа па Еўропе. Працэс яго кананізацыі закончыўся пры Піі II у 1458 годзе.
[32] Св. Людовік Бертран (1526-1580), дамініканін, місіянер. Расчараваны жорсткасцю канкістадораў, вярнуўся ў Іспанію; беатыфікаваны ў 1606 г., кананізаваны ў 1671 годзе.
[33] Св. Мікалай Фактар (1520–1583), францішканін. Абвінавачаны трыбуналам інквізіцыі за практыкаванне суровай аскезы; беатыфікаваны ў 1783 годзе.
[34] Буздыган — від булавы са сталёвым, звычайна шаравідным навершам.
[35] Св. Моніка (к. 332–387) — хрысціянка з Нумідыі, маці св. Аўгустына, які дзякуючы ёй прыняў хрост; суправаджала сына ў яго місіянерскіх падарожжах.
[36] *Sacris solemnis* — песня-хвала Богу. Гімн *Sacris solemnis* выконваўся ў свята Божага Цела, яго аўтарам лічыцца св. Тамаш Аквінскі.

Людміла Сільнова

# «А людскія высілкі зноў квітнеюць ружамі...»

*Рэцэнзія на кнігу паэзіі Мар’яна Дуксы «Птушка вечнасці — душа». — Мінск, 2015.*

У выдавецтве «Чатыры чвэрці» нядаўна выйшла кніга вядомага беларускага паэта, шчырага католіка Мар’яна Дуксы «Птушка вечнасці — душа». Важкі том у цвёрдым пераплёце зялёнага колеру, як малахітавы куфэрак, запаветны, дарагі, у які так і хочацца зазірнуць...

Падымем верхняе «вечка» пераплёту — а там стос важкіх белых папераў паэта, счэпленых разам — для парадку і памяці, на доўгія гады. Можна сказаць, каштоўных папераў знанага паэта. З чорным жэмчугам літарынак, нанізаных на нябачныя ніткі вершаваных радкоў. Яго своеасаблівы запаветны ружанец, які дастаўся ў спадчыну ад маці, бацькі і ўсёй вялікай нашай чалавечай радні, бо Мар’ян Дукса згадвае ў кнізе імёны Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Максіма Танка, Васіля Быкава, Казіміра Сваяка, Ларысы Геніюш, Рыгора Семашкевіча і іншых беларускіх пісьменнікаў, святароў, даследчыкаў непаўторнай духоўнасці нацыі. Згадвае ў вершах «Ляўкі», «Ларыса Геніюш у Празе», «Памяці Максіма Танка», «Голас Багушэвіча», «Айцец Віталій», «Музыка Агінскага», «Максім Багдановіч» і іншыя. У адным месцы, нібы прыпыніўшыся «месячнай ноччу» ля шапатлівай кніжнай паліцы, аўтар нават піша пра гэтыя «маркотныя цені» абагульнена: «нашы гарэцкія, нашы зарэцкія».

Ходзяць, аб нечым таемна гаворачы,
ўсё яшчэ ў колішніх марах.
Колькі застыла адчаю і горычы
на нестарэючых тварах...

(*«Сумныя постаці», с.77*)

Ён спачувае іх кароткім зямным шляхам, часта «гвалтоўна і здрадна» пераараным чырвоным трактарам рэпрэсій 20-30-х гг. мінулага стагоддзя. У вершы, прысвечаным слыннаму беларускаму паэту, святару і грамадскаму дзеячу Заходняй Беларусі Казіміру Сваяку (1896–1926), Мар’ян Дукса робіць пераканаўчае вызначэнне высакародных высілкаў і патрыятычнага подзвігу гэтай асобы:

Ты наша слова, што было вясковым,
што са святліц выкідвалася вон, —
нібы букет шчымлівы васільковы,
так урачыста вынес на амвон.
<...>
Вакол луналі ўцешна херувімы.
І гэта быў сардэчны твой парыў.
Ты так хацеў, каб Езус твой любімы
па-беларуску ўсё ж загаварыў.
<...>
Хоць і спаліў свае ў палёце крылы —
да Бога і да нас ты даляцеў.

(*«Казімір Сваяк», с. 73–74*)

Паэтавай маці ў кнізе прысвечана шмат кранальных радкоў і слоў падзякі. Лепшыя, бадай, вершы на гэту вечную тэму-ружу (бо праз жанчыну як Найчысцейшую Браму прыйшоў у наш свет і Баранак Божы; і фрагмент узнёслай дыскусіі герояў рамана «Імя ружы» Умбэрта Эка на вечную тэму сыноўняга доўгу і жалю: «Зноў ты прыходзіш...», «Ад маці мне застаўся боль...», «Ніколі ад роднай матулі пагроз...», «На сцэне на адной хіба...» і інш.

Барознамі цень прабяжыць па ілбе —
дакор не аднойчы сумленне вярэдзіў:
у матчыным профілі, Езус, Цябе
тады, у маленстве, чаму не разгледзеў?

Паэт не толькі пытаецца пра гэта ў самога сябе з прыпозненым дакорам і ў той жа час з нейкім прасветленым здзіўленнем

**Людміла СІЛЬНОВА** — паэтка. Нарадзілася ў Маладзечне. Скончыла філалагічны факультэт БДУ (1979). З 1986 г. працуе бібліятэкарам у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Аўтар кніг паэзіі «Ластаўка ляціць...» (1993), «Агністыя дзьмухаўцы» (1997) і інш. Выдала зборнік крытычных нарысаў «Крышталёвы сад» (2007). Вершы перакладаліся на польскую, украінскую, славацкую мовы.




вясковага дзіцяці, але ў іншым вершы па-дарослаlму разводзіць гэтыя вобразы ў розныя бакі «нябеснай іерархіі».

Вось бы прыпасці да Хрыста
і запытаць: «А што там з мамай?».

*( «На сцэне на адной хіба...», с. 164)*

Чытач можа знайсці нават верш, дзе натуральна для вобразнай сістэмы Мар'яна Дуксы, для яго непаўторнага светапогляду ўзнікае вобраз «Матулі неба» як велічнай Царыцы нябеснай.

Матуля неба, шчыра і прачула
вяртаеш нашы страчаныя сілы.
О колькі слёзак з твараў Ты згарнула,
вачэй патухлых колькі запаліла!
З Табою сэрца не ахаладзее,
з Табою цёплыя прыходзяць згадкі.
Ізноўку нават кволыя надзеі
у сэрцы прарастаюць, як зярняткі.

*(«Матуля неба, шчыра і прачула...», с. 179)*

Як сказана ў анатацыі да кнігі, у яе ўвайшлі вершы, напісаныя апошнім часам. Усяго іх некалькі сотняў, самых розных па жанры, метадзе рыфмоўкі, паэтычных памерах. Ёсць рамантычныя замалёўкі, філасофскія разважанні, зарыфмаваная літаратурная палеміка, публіцыстычныя вершы, байкі, вершы-дыялогі, вершы-прысвячэнні вядомым асобам, вольныя ад рыфмаў верлібры, вершы-малітвы. Гэта пэўнае падсумаванне творчых высілкаў Мар'яна-майстра, «смаргонскага самотніка» і ў той жа час «Ганаровага грамадзяніна Смаргонскага раёна», сёння падаецца вельмі важным. Ён нарадзіўся ў 1943 г. на хутары каля вёскі Каракулічы на Мядзельшчыне і мае багаты жыццёвы досвед як паэт, педагог, арганізатар пазакласнай і пазашкольнай работы, настаўнік беларускай і рускай моваў і літаратураў. Праца з дзецьмі і моладдзю, нераўнадушша да самых розных праяваў навакольнага жыцця далі яго паэтычнаму голасу асаблівыя інтанацыі, пашырылі лексічны склад сучаснымі словамі, якія некаторыя строгія літаратурныя крытыкі могуць палічыць і недапушчальнымі для паэтычных радкоў, а тым больш — для назваў. Напрыклад, такія словы як «кантракты», «камерцыя», «трыбуны», «інтэрнэт», «хаўрус», «фініш» або прастанародныя «карак» і «свісцёлкі», шматлікія дыялектызмы. Але гэта ўсё — жывая плынь жыцця, жывыя рыбкі-словы, якія раз-пораз вынырваюць з яе і тут жа робяцца чароўным «смеццем» (паводле Ахматавай), з якога растуць вершы...

Паэт мае права не толькі ўпрыгожваць сваімі вершамі наша жыццё, але, калі трэба, і паправіць Яго, выказаць сваю пазіцыю, свой асаблівы погляд на тую ці іншую складаную з'яву жыцця. Напрыклад, у вершы «Інтэрнэт» (як мы ўжо добра ведаем, ён можа стаць і зброяй у руках мярзотнікаў) паэт піша:

Занятак вабны, шматгадзінны
сярод вясны,
сярод зімы.
Інфармацыйнай павуціны
заблытаныя мухі мы.
Усё цікавае спазнаў ты.
Нашто ён — універсітэт?
З экрана ўслужлівыя сайты
наш розум падкуюць як след...

Мар'ян Дукса завяршае верш радкамі: *«Багаты велізарны сметнік, // дзе мы падобны на курэй»*. На дурных, непераборлівых свойскіх птушак. Каб жа і нас непрыкметна не прыручылі, не «прысвоілі» чужыя гаспадары! Гэта папярэджанне, прадказанне чуйнага чалавека, яго горыч...

Кніга невыпадкова называецца «Птушка вечнасці — душа». Менавіта пра душу, пра высілкі чалавека ў імя яе ўратавання і ідзе гаворка ў большасці вершаў гэтае паэтычнае кнігі ў малахітавым пераплёце, своеасаблівай бібліі ад Мар'яна Дуксы. Так і напісана ў анатацыі на першым лісце, першай «каштоўнай паперы» ў запаветным куфэрку сівагаловага беларускага

паэта: «Аўтар выяўляе чалавечы вопыт спасціжэння Бога, сцвярджаючы, што Бог з'яўляецца не толькі жыватворнай крыніцай ісціны, мудрасці, этыкі, але і актуальнай філасофскай праблемай, якая тычыцца кожнага з нас».

Ужо самі назвы вершаў, часцей за ўсё — па першым радку, чытаюцца як хрысціянскі каталог, важкі кантрапункт: «А Слова — у Бога...», «Прыйсці да алтара», «Ці ўзвысіцца мой кволы галасок...», «Крэда», «Воля», «Айцец Віталій», «Наблізіцца да аблічча Бога...», «Казімір Сваяк», «Касцельныя вежы», «Ёсць на свеце Ты і мы...», «Без Цябе, Езус», «Пасля споведзі», «Архангела трубіць труба...», «О душы тых, каго няма...», «Чырвоны касцёл у Мінску», «Неспасцігальны Ён стратэг і тактык...», «Адвэнт» і іншыя.

У свой папяровы ці які электронны блакнот можна выпісаць з кнігі шмат афарызмаў «ад дзеда Мар'яна». Мне да душы прыйшліся такія, жыццесцвярджальныя і прыгожыя: *«А людскія высілкі // зноў квітнеюць ружамі»* (с. 5); *«Ах, беларускамоўны верш, // ты годна выжыў — // і жывеш!»* (с. 5); *«Шчаслівы той, хто чуе над сабой // любімай веры вогненны штандар»* (с. 10); *«А праўды няма // без ахвярнай любові»* (с. 11); *«І п'ецца ноч, як дзіўнае віно. // Ды ўжо Анёл на ціхі кліч любові, // трымаючы душу напагатове, // садзіцца непрыкметна на акно»* (с. 17); *«Нібыта ў стозе, ў кнізе заначую, // дзе сэнс, як неба ў поўнач, палыхае»* (с.48); *«Паэт — самотны адвакат»* (с. 59); *«Паэзія, ці не занадта рана, // пакрыўджаная, ты пайшла з экрана?»* (с. 108); *«Здрадніца ў чаканні Тварца»* (с. 126); *«А праўда даймае, што ёсць варыянты...»* (с. 205); нават казачнае параўнанне *«Крадзецца кот між дрэў, як гномік»* (с. 222) (раскажу ўнучцы Яначцы!).

Восень — улюбёная пара Мар'яна Дуксы. Зімы ён не любіць. Нехта скажа — узрост, асацыяцыі з «Белым бязмоўем» (метафара Джэка Лондана) — гэта значыць, са Смерцю, якая ўсё высцюжвае, робіць здранцвелым і пакрывае белымі пялёнамі... Але хрысціяне вераць у вялікую любоў Бога, якая ўсё пераможа, нават прыроду з яе бязлітаснымі законамі чаргавання пакаленняў. І кожны можа час ад часу паўтараць услед за святой сястрой Фаўстынай Кавальскай: «Божая Міласэрнасць у маёй душы...»

Метафарычны стыль кнігі — паэтычнага дзённіка, які мы толькі што з вамі пагарталі, прыйдзецца да душы ўдумлівым чытачам як маладога, так і сталага веку.

Як паэтка-калега, зямлячка, даследчыца рэдкіх кніг і бібліёграф па прафесіі, закаханая ў зялёную Вясну і белую Зіму (дарэчы, зялёны і белы — два пераможныя колеры гэтай кнігі: пераплёт і папяровы блок), хачу прызнацца паэту ў зачараванасці ягоным адметным паэтычным майстэрствам, яго трывалым этычным кодэксам, вернасцю сабе, нягледзячы ні на якія абставіны чалавечага жыцця.

Таму і закончу сваю прэзентацыю кнігі «Птушка вечнасці — душа» Мар'яна Дуксы выбранымі строфамі з яго верша «Свята незалежнасці».

Ах, як свабода многа значыць!
Мы сытыя крутымі войнамі.
Нас Бог хацеў, напэўна, бачыць,
нягледзечы на беды, вольнымі.
<...>
Няхай наш край багатым стане
не блок-пастамі з іх пакрышкамі...
Хай будуць — толькі прывітанні
і стол, застаўлены кілішкамі.
<...>
І нельга нас, відаць, зыначыць.
Мы будзем добрымі і гордымі.
Нас Бог хацеў, напэўна, бачыць
сардэчнымі людзьмі і шчодрымі.

Дык будзем жа такімі, па Яго вобразе і падабенстве! Ад пачатку і да канца дзён, пакуль з нас, Божых дзяцей, не выляціць на волю, у неба, «птушка вечнасці — душа».

Ганна Серэхан

# «Столькі любові ў сэрцы...»

*Пра кнігу Хрысціны Лялько «Адвячорак». — Мінск, «Pro Christo», 2016.*




Прачытала кнігу Хрысціны Лялько «Адвячорак» на адным дыханні — і нібы віхор пачуццяў, болю і радасных імгненняў пранёсся ў душы, нібы ў момант пражыла чыёсьці жыццё ці сасніла трывожны сон, які не магу забыць дый не хачу адпускаць з памяці... Чаму адна кніга пакідае цябе зусім абыякавым, а другая — вось так узварушвае? Адказ просты: шчырасць аўтара ў агранцы мастацкай руплівасці над словам нараджае дыямент сапраўднай паэзіі.

Кніга Хрысціны Лялько, прымеркаваная да юбілею аўтаркі, выйшла нядаўна ў выдавецтве «*Pro Christo*». Першую частку кнігі склалі арыгінальныя вершы розных гадоў, другую — пераклады паэтычных твораў Караля Вайтылы (Яна Паўла ІІ), кс. Яна Твардоўскага, Чэслава Мілаша, кс. Яна Соханя, кс. Ежы Шыміка, кс. Вацлава Бурылы і іншых майстроў польскай паэзіі.

Па словах самой спадарыні Хрысціны, назва зборніка «Адвячорак» для яе сімвалічная: у гэтым слове гучыць пяшчота мамінага голасу, музыка самабытнай беларускай мовы, яно стварае спакойную атмасферу ціхага летняга дня, які яшчэ не схаваў у вечаровым змроку ўсе свае чароўныя гукі і пахі, але ўжо скінуў з сябе спёку паўдзённага сонца... Гэтак жа і з жыццёвым шляхам чалавека: трэба ўмець «пасмакаваць» сваю раніцу і дзень, адвячорак і вечар, знайсці ў кожным моманце жыцця яго непаўторнае хараство. Кнігу адкрывае верш, аднайменны з яе назваю, — у ім аўтарка свядома падкрэслівае адметнасць гэтага жыццёвага перыяду:

*Адвячорак — гэта яшчэ не вечар.*
*Сініцы на сліве збяруцца на веча.*
*Надвечар, калі сонца якраз садзіцца,*
*ў сакавіцкі мой сад прылятаюць сініцы.*

Першая частка кнігі складаецца з трох невялікіх раздзелаў, у кожным з якіх вершы аб'яднаныя сваёй тэматыкаю, пафасам, настраёвасцю і пачуццём.

**«Столькі любові ў сэрцы да ўсяго тут спрадвечна-блізкага...»** — так гучыць эпіграф да першага раздзела, у якім лірычная гераіня, вяртаючыся ў родную хату, у сваю «старану лясную і ціхую», крочыць па родным падворку, прыпадае да «парэпаных вуснаў» рачулкі і ўспамінае светлыя гады маленства. Вершы гэтага раздзела пераважна *рэтраспектыўныя*, бо амаль у кожным з іх — малюнак памяці. Вобразы сучаснасці абуджаюць яскравыя ўспаміны пра былое, і нават сны пераносяць гераіню вершаў у мінулае, дзе побач была матуля, дзе наваколле напаўняў шум густога дзедавага лесу, які потым быў жорстка спілаваны...

---

**Ганна СЕРЭХАН** — супрацоўніца выдавецтва «Pro Christo». Закончыла філфак БДУ (2007), магістратуру і аспірантуру пры кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ. Займаецца даследаваннем польскамоўнай літаратуры Беларусі XIX стагоддзя. Аўтар паэтычнай кнігі «Запаветная жменька» (2007), зборніка вершаў для дзяцей «Пане, будзь заўжды са мной!» (2010), манаграфіі «Паэзія Антона Гарэцкага і станаўленне рамантычнай паэзіі ў літаратуры Беларусі XIX ст.» (2015).

*Кветак бялюткіх вясновая замець*
*сыпле пялёсткі-ўспаміны...*
*Мярэжыць балюча трывожную памяць*
*водар салодкі язміну.*

(«Водар язміну»)

Як бачым, тое, што раней было знакам радасці, спакою і матулінай любові, сёння стала для лірычнай гераіні знакам болю і вялікага смутку: пра гэта ж гаворыць пустая хата на Каляды, якая ў маленстве напаўнялася святочнаю казкаю, гэткія ж успаміны прыносіць водар настуркі, што зацвіла ў сярэдзіне лета, маміны «дываны з пералівамі вясёлкі» і многія іншыя сімвалічныя рэчы і знакі...

Перажываючы гэты смутак, гераіня часам не знаходзіць сабе месца сярод краявідаў, якія раней давалі сілы і былі надзеяй на паратунак, бо за час яе сталення родная прырода змянілася да непазнавальнасці, была даведзеная чалавекам амаль да знішчэння: на месцы дзядулевага лесу «трухлеюць пні» — «шчымлівы напамінак аб бярозах», рачная вада, жывая калісьці, цяпер мае пратухлы пах, а з роснага лісця сыплюцца кроплі кіслотных дажджоў. Але горш за ўсё тое, што такі стан прыроды выяўляе «клопат» чалавека пра самога сябе, і з дапамогаю паралелізму Хрысціна Лялько плаўна пераводзіць вобразы пейзажнай лірыкі ў сферу філасофскай, паказваючы тым самым стан душы сучаснага чалавека:

*Трухлеюць пні. Прырода не абудзіць*
*лістоту на спілованых камлях...*
*Я так баюся, што трухлеюць людзі,*
*мне так балюча за цябе,*
*зямля.*

(«Боль»)

Толькі ў адным вершы напрыканцы гэтага раздзела, прысвечанага ўсяму «спрадвечна-блізкаму» на малой радзіме, лірычная гераіня нібы для ўласнага суцяшэння, каб зняць «жорнавы камень» з душы, прыходзіць да высновы, што *«чапляцца за прывіды — недарэчна, <...> нічога не вернеш, не перайначыш»*, таму трэба проста жыць цяперашнім жыццём, «у светлай журбе». Але праз старонку аўтарка зноў піша:

*Трымаюся за ўспаміны,*
*як за парэнчы на хісткім мосце,*
*як за саломінку на глыбокай вадзе,*
*як за сяброў у раптоўнай бядзе,*
*як за промень сонца на дальнім пагосце...*

Што ж, хоць успаміны-прывіды і прыносяць боль незваротнай страты, але калі яны даюць такі паратунак у жыцці, то гэта сапраўднае багацце для збалелай душы, гэта ласка Божая, за якую і трэба трымацца...

Другі раздзел першай часткі кнігі, папярэджаны эпіграфам **«Сустрэнемся вачыма на імгненне, і стане гэты міг як вечнасць...»**, — самы напружаны па сіле пачуцця. Гэтае напружанне ўзнікае, па-першае, ад няспоўненасці народжанай у душы любові, якая робіць чалавека «бяссільным перад лёсам» і спавівае сэрца адчаем. Адсюль і «бясконцы дождж», які ў памяці лірычнай гераіні распачаўся аднойчы падчас незабыўнай сустрэчы; адсюль таксама і вечнае падарожжа «на старым Віленскім шляху...», якому яна наіўна не дае адбыцца.

Па-другое, гэтае напружанне ўзнікае ад таго, што лірычная гераіня ў сваім глыбокім пачуцці, ад якога душа «ўзмывае ў паднябессе», становіцца шчасліваю толькі на кароткае імгненне або толькі праз самападман: *«Адчуць сябе на міг зусім шчаслівай, // сябе на міг шчасліва падмануць»* («Прысвячэнне»); *«І зноў забыць пра ўсё на свеце, // і волю мроям даць на міг...»* («Трэці»); *«...Хвіліна побач з табою // прыгожай бясконцасцю стала»* («А ў Порто — зімой, як летам...»). Гэтае шчаслівае імгненне потым доўга яшчэ «душу пакутліва мярэжыць». Менавіта антытэза шчаслівай хвіліны і балючага ўсведамлення таго, што ніводны міг не паўторыцца, перадае чытачу стан напружанага перажывання.

Трэцяя крыніца гэтай напружанасці — неабходнасць маўчаць, хаваць пачуццё ад чужых вачэй, ад усяго свету, і перамагаць саму сябе, як гэта апісана ў вершах «А скрыпка ведала пра ўсё...», «Шапэн. Туга. І адзінота», «Буду кахаць цябе моўчкі...»:

*Буду кахаць цябе моўчкі,*
*свет не пачуе ні слова.*
*Сумею схаваць адмыслова*
*пачуццяў сваіх вугалёчкі.*

І зноў жа ў гэтым — другім — раздзеле душа лірычнай гераіні жывіцца памяццю пра былое — шчаслівае і тужлівае, спраўджанае і няспраўджанае, выказанае і змоўчанае... Памяць нават з далёкай Грэцыі вяртае яе ў шчаслівы вечар у «азёрнай Івесі», памяць «застаецца збіраць рудыя бліскучыя каштаны на старых вулачках Фрайзінга», урэшце, памяць забывае адчужэнне і гоніць крыўды прэч...

Увогуле, катэгорыі часу і памяці ў паэзіі Хрысціны Лялько выкарыстоўваюцца вельмі

своеасаблівым чынам: гэта адзін з асноўных сродкаў стварэння моцнага мастацкага вобраза, бо ў вершах не раз супастаўляюцца катэгорыі «раней–цяпер», «імгненне–вечнасць», дый душа лірычнай гераіні блукае па розных часавых перыядах, якія адцяняюць, узмацняюць ці, наадварот, супакойваюць яе пачуцці. Дарэчы, адзін з першых вершаў кнігі прысвечаны менавіта разважанню пра час, які *«заблытаўся ў старым пакурчаным голлі. // Зваліўся апошнімі яблыкамі // на скалелыя грудзі зямлі. // Залёг пад апалым лісцем...»* Менавіта вобраз часу пераходзіць як жывы ў трэці раздзел першай часткі кнігі, прысвечаны пераважна філасофскай і духоўна-рэлігійнай лірыцы. У якасці эпіграфа да раздзела выбраныя радкі: **«І аб самым таёмным маліцца, і аб самым цяжкім забываць...»**, таму, натуральна, што многія вершы ў гэтым раздзеле нагадваюць паэтычныя малітвы з развагамі пра асабіста перажытае («Маці», «Нарэшце...», «Час вяртання», «Папяльцовая серада» і інш.). І час у гэтых развагах — таксама адзін з галоўных «персанажаў», з якім трэба абыходзіцца вельмі далікатна і мудра: дзесьці — «не спяшыць запрагаць і ехаць», а дзесьці, наадварот, паспяшацца, бо «смерць зусім не разумее жартаў», бо *«tempus breve est»* (*«час кароткі»*).

*Час — лесаруб майстравіты:*
*абсякае галіны, агаляе ствол —*
*самую сутнасць —*
*пазбаўляе магчымасці «шумець»,*
*пакідае маўчанне.*

І ўсё ж, нягледзячы на смутак, які пакідае ў душы пражыты час, забраўшы з сабою самае дарагое, нягледзячы на «вострыя лёсу лёзы», гэты раздзел лірыкі наскрозь пранізаны нязгасным святлом веры ў Божую міласэрнасць, прабачэнне і падтрымку, у тое, што *«паўстане сад. І голле з небыцця // працягне ў анямелую самоту»*, што мы *«адшукаем дарогу да Божай Святыні»*. Калі дачытваеш трэці раздзел кнігі, заўважаеш, што гэтае духоўнае святло, упэўненасць у тым, што Хтосьці над табою няспынна чувае, адцяняе і вершы з іншых раздзелаў, асвятляе іх журбу, ажыўляе немату, дождж робіць цёплым, а камень на душы — ужо лёгкім.

Пераходным «мосцікам» ад першай часткі кнігі да другой стаў сімвалічны верш «Адвячоркі бываюць розныя...». Сапраўды, у кожнага чалавека — свой асаблівы адвячорак, і ў кожнага паэта — свая вершаваная стыхія, сваё непаўторнае пачуццё, увасобленае ў слове. Пераклады з польскае мовы, якія склалі другую частку кнігі Хрысціны Лялько, вельмі гарманічна дапаўняюць той паэтычны аповед, якім яна дзеліцца з чытачамі ў першай частцы. У многім сугучныя з яе вершамі, гэтыя творы таксама прысвечаныя роздуму пра шлях чалавека ў вечнасць, пра тое, якую каштоўнасць у перспектыве вечнасці мае ўсё перажытае намі ў зямным жыцці; пра бег часу, з якім *«мінаеш сам, прымірані з усім»* (Караль Вайтыла); пра тое, што трэба *«палюбіць чалавека, каб стаць адзінокім»* (кс. Ян Твардоўскі). Хрысціна Лялько выбрала для перакладу пераважна творы духоўна-рэлігійнай тэматыкі, але гэта не звычайнае паэтычнае «мудрагеленне» пра тэалагічныя праблемы і марнасць зямнога жыцця. У кожным з гэтых вершаў лірычны герой — нават створаны паэтам-святаром — перажывае боль страты і пакуты любові, страх і адзіноту, і гэтак, як уласціва самой перакладчыцы ў яе арыгінальных вершах, выводзіць для сябе формулу спакою і суцяшэння: *«тое, што нас спатыкае, // прыходзіць незалежна ад нас»* (кс. Ян Твардоўскі); *«ведаю: апошні шанец — гэта жыццё»; «Ты адзінокі, — кажа свет. // Гэта нічога, — кажа Бог. // Цярпім жа мы разам»* (кс. Ян Сохань). Па-майстэрску перакладзеныя, усе гэтыя творы істотна ўзбагачаюць скарбніцу духоўнай лірыкі беларускай паэзіі.

Хоць кніга Хрысціны Лялько «Адвячорак» і складаецца з вершаў розных гадоў, а ў другой частцы — з перакладаў твораў розных аўтараў, але дзякуючы прадуманай кампазіцыі яна чытаецца як адзін завершаны аповед пра пошук адвечнай праўды, пра ўласны шлях да Бога.

Усіх, хто жадае адкрыць для сябе гэты цікавы аповед і сам знаходзіцца ў пошуках свайго шляху, запрашаем па зборнік Хрысціны Лялько ў краму «Духоўная кніга» (г. Мінск, вул. М. Багдановіча, 25, тэл.: (017) 293-17-53).

Данута Бічэль

# ПАМІЖ МНОЙ І ТАБОЙ — БОЖАНЬКА...




Святлана Варонік, «Маміна дрэва». — Мінск, Выдавецкі дом «Звязда», 2015.

*«Мае пад крыжамі пагоркі*
*найвялікшыя на зямлі...»*

Брэст. Белаазёрск. Камянец. Белая Вежа... Косава...

Спачатку ў маім жыцці быў Уладзімір Андрэевіч Калеснік, ён называў мае звычайныя кніжачкі вершаў *«Малітоўнічкамі», «Кантычкамі»*. Я была такой спакойнай у той час, што не пацікавілася, ці толькі мае зборнічкі ён так называе, ці, можа, усе, што малыя памерам... Усё, што ён мне сказаў, само сабой неяк засела ў памяці і не згубілася...

Амаль адначасна ў маё жыццё ўкацілася на калясцы Ніна Мацяш. Яна называла мяне *сястрыцай*. Яе гаючае слоўца *гарнуся* было лекавым і дапамагала пераносіць самыя цяжкія выпрабаванні, *гарнулася* я да яе.

Марыя Новік паўстала за каляскай Ніны, як анёл-ахоўнік. А Святлана Варонік... Нават цяжка прыгадаць, калі гэты прамень засвяціў разам з сонейкам, з Калеснікам, з Нінай, Марыяй ды з Галінай Скарынай, якая найчасцей дапамагала Ніне, бо жыла недалёка ад яе ў Белаазёрску.

Святлана кажа, што мае вершы даюць ёй натхненне. Я ведаю па сабе: ёсць добрыя паэты, якіх чытаеш — і нічога ў душы не здрыганецца, не адгукнецца, а ёсць такія, ад якіх мурашкі па скуры і сэрца заходзіцца... Чытанне вершаў — гэта індывідуальны, нават інтымны працэс... Святлана выбрала мяне як слухачку, каб перадаць глыток ветру, і каб вецер вярнуўся віртуальна , — мы размаўляем па мабільніках, а бачымся рэдка... На мой дзень нараджэння яна мне прыслала свой першы томік вершаў «Маміна дрэва». Я пачала чытаць, і адразу мне стала добра, бо:

*Цвіце мая доля.*
*У садзе — бела.*
*Успамінае мяне маленькаю*
*Маміна дрэва.*

Маміна дрэва ў яе вершы прарастае галінамі, карэннем, лісцейкам, пасынкамі, парасткамі ў садзе, які цвіце вобразамі-слязінамі, пачуццямі:

*Удзячная Богу...*
*Глядзіш на мяне...*
*Мама...Бацька... Гена...*
*Цётачка... Мне...*
*мне вас так не стае...*
*Пачынаюць сады цвісці...*
*Як без вас мне туды ўвайсці...*

Спачатку «Маміна дрэва» было ў два разы таўсцейшае, пацяху яго «абстругалі», скарацілі ў выдавецтве, знялі ўступнае слова. Аўтарка вельмі перажывала, але я пераканала яе, што трэба прыняць гэтае рашэнне выдавецтва. Я ўспомніла, як мяне аднойчы Іван Антонавіч Брыль супакоіў: «Не перажывай, там яшчэ шмат добрых вершаў засталося!».

У кніжачцы на 96-ці старонках змешчана 236 кароткіх вершаў, вершасказаў. Можа падацца, што вершы просценькія, бо кароткія, як *«глыток ветру»*, калі пагартаць павярхоўна. Але:

*Сны завяршаюць яўнае.*
*Крочу ў глыбінях свету.*
*Дарэмна са мною букецік*
*кветак пасохлых...*

Я пераставіла б словы апошняга радка дзеля рыфмы, але Святлане гэта не трэба. Гэты верш аб жыцці ці паміранні? Аб несмяроцці, аб чалавечай бясконцасці ў агульнай людской повязі. Аб бессэнсоўнасці рытуальных дробязяў з сухімі кветкамі...

Празрыстых версэтаў з адной метафарай у кніжачцы шмат. Напрыклад:

---

**Данута БІЧЭЛЬ —** паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1984). Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), «Іду сцяжынаю да Бога» (2012), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008), «Мост святога Францішка» (2010), «Правінцыя святога Францішка» (2013). Жыве ў Гродне.

*Вялікі валун прысеў на ўзлеску*
*адпачыць, ды так і не здолеў,*
*зачараваны бярозкай,*
*што прыпынілася побач,*
*пайсці далей...*

Святлана глыбока нырцуе ў слоўныя плыні, і цяжка разабрацца, чытаючы, ці правільна ты яе ўспрымаеш. Яе зварот да *цябе* — вельмі канкрэтны і неакрэслены, і трэба думаць асцярожна, бо мы прывыклі, што *ты — гэта ён*, а ў Святланы *ён (хлопец, мужчына)*, не той, хто засланяе ўвесь прыгожы свет, у якім ёсць Бог. Ты — гэта і душа Мамы Броні, заўсёды жывая на небе, і блізкія людзі — сястра, сябра і сяброўка, чытачы і сад, і кожнае дрэва, кожны лісток. Яна адушаўляе прыроду, нібы святы Францішак з Асізі, ды неяк гэта ўяўляе па-свойму, можа, па-язычніцку. У паэзіі Святланы Варонік усё мае душу — і хмарка, і кропля, і трава:

*Вялікая чорная хмара паўзе ў мой бок...*
*Я шкадую яе і дапамагаю выплакацца.*

І я, чытачка, ведаю, што яна і да мяне гэтак звяртаецца:

*Не сціхай, мой дожджык агністы...*
*дажджынкай кожнай люблю Цябе...*

Спакойна разумею, што я жывая, але памру, як Мама Броня:

*і няхай паміж пальцаў-штыкецін*
*трава прарастае.*

І страшнае імгненне робіцца не страшным, людскім:

*Гліняны свет*
*абпалены на сонцы.*
*Ідуць дажджы.*
*Расце ў збанках трава.*

Ёсць паэты, якія надта пакутуюць, складаючы вершы, прыдумваюць нечаканыя метафары, каб чытач памучыўся, чытаючы, каб усе ахнулі, каб інакш, як ва ўсіх, мудра і мудрагеліста выходзіла. А ў Святланы проста:

*У хаце мама чужая сваё чужанё абнімае.*

Святлана складала вершы, калі была Мама Броня жывой, але калі Мама памерла, ранняе сіроцтва Святланы надало яе вершаскладанню адценні смутку і безвыходнасці. Нічым не замяніць маміну адсутнасць. Але можна запоўніць пустую прастору невідочнымі словамі, нібы маўклівымі анёламі. Святлана Варонік пераштварыла вершаскладанне ў светлую радасць, яна натуе вершы, калі яны прыходзяць, яна імі смяецца, плача і другім аддае, як фанцікі, як цацкі, як ягадкі ці цукеркі, як усмешку прывітання. У Святланы ўсе вершы — экспромты.

*Перажываюць стагоддзі,*
*што мы замкаў жывых не бачылі.*
*А я веру ў разбіты глечык.*

Святланіны вершы прывесці ў лагічны парадак цяжка, як немагчыма пераштварыць у агарод рамонкавы, незабудкавы луг, гэтыя вершы — пратэст супраць закасцянелай бюракратычнай формы, якая пранікла нават у паэзію.

У Святланіных вершах блытаюцца стылі, яна прыдумляе літаратурныя прымітывізмы-сацрэалізмы. Святланіны вершы — крыху знакі. Святлана ўмее адчуваць знакі. Яна тэлефануе і кажа:

— Як мы начавалі ў Ніны, мы спалі на адным ложку і надта перад сном смяяліся.

Я не магу ўявіць, як можна ўлегчыся на Нінін ложак утраіх, калі хворая Ніна спіць толькі на спінцы і не варочаецца.

На Каляды Святлана кажа:

— Прыехалі ад Ніны, у яе на магілачцы зацвілі браткі. І ў кніжачцы Святланы чытаем версэт:

*І смяяўся ён з нашых слёз,*
*і не ведаў, чаму кветкі*
*так называюцца — браткі.*

Паехала Святлана па пуцёўцы Саюза беларускіх пісьменнікаў на Готланд, у горад Вісбю, недалёка ад цёплага Гальфстрыма. Заляцела туды, у першыя дні пачала сумаваць па сябрах. Яна прысылала мне SMS без слоў. Я не ведала, што за мае словы будзе плаціць сама Святлана, якая цяпер за мяжой, таму спытала: «*Света, дзе ты*? — Яна адказала вершам: *«На Готландзе, пані Данута...// Льняное мора, цяпло сінечы, // вада кужэльна атуляе плечы... У цеплыню чужога краю // свой беларускі боль хаваю... 14 ліпеня»*. Я ёй напісала: *«Света, не верыцца нават, што гэта прыслала ты мне, нібы з таго свету»*.

Святлана мне: *«Святліста-прасвятлісты дзень // мой сум падсветлены прадзе. // Мой чарапічны гмах плыве за неспазнанаю тугою. // Так добра ў доміку мне быць — у тым, страха што з чарапіц...»*

Так мы перапісваліся... Нарэшце я ёй напісала, крыху правакацыйна:

*Светка, ты цяпер шведка,*
*прыгожых вобразаў сведка!.*

Святлана прыслала вершык на развітанне з морам і вярнулася ў Брэст:

*Па-змоўніцку яхты плывуць у мора.*
*Мне ветразяў іх не злічыць.*
*Промнем прасветлым, промнем чырвоным*
*сонца цалуе іх. 23.07.*

Там, каля акіяна, Святлана падлячыла звярэджаныя рукі. Вярнуўшыся, яна паўгадзіны іграла мне на акардэоне новыя мелодыі, якія вырываліся з яе паэтычнай душы разам з вершамі.

*У пакінутым доме — на стрэсе —*
*растуць дрэвы.*
*Нада мной — карані. Барані...*
*Безнадзейная крона...*
*Барані ўсіх-мяне, Мама Броня.*

## CONTENTS

We start the new issue of the quarterly magazine "Our Faith" with the extract from the book "The Name of God Is Mercy", in which Pope Francis reveals his vision of God's mercy in a series of interviews with Vatican reporter Andrea Tornielli (translated from English by Y. Shedzko) (p. 2-5).

We offer to the readers an excerpt from the report of Archbishop Tadeusz Kondrusiewicz at the National Eucharistic Congress (Grodno, May 25, 2016) "The Revival of the Catholic Church in Belarus as a Gift of God's Mercy" (p. 2-5).

We continue to publish the first book of the treatise of St. John of the Cross "The Ascent of Mount Carmel" translated from Spanish by S. Gresvi (p. 2-5).

An interview of N. Usava with General Director of the National Art Museum of Belarus V. Prakaptsou and an employee of the museum A. Karpenka "The Exhibition of Belarusian Icons in the Vatican" is dedicated to this great event. Art historian A. Yarashevich in his article "Unity in Diversity" writes about the history and artistic features of these icons (p. 2-5).

An article "To Awaken Your Soul" by E. Liavonava is dedicated to the works of the famous Polish writer H. Sienkiewicz, laureate of the Nobel Prize, on his 170th anniversary of the birth (p. 2-5).

D. Bichel in the essay "With Kindness and a Pure Heart" presents the work of the famous sculptor Kazimir Misyura from Grodna (p. 2-5).

Much of the materials in this issue is dedicated to the memory of the last National poet of Belarus Nil Gilevich: these are articles by Academician R. Garetski "The Fighter for Belarus and My Friend", the writer A. Lis "To the Memory of the Poet-Citizen, the Fighter", by M. Skobla "Nil, Who Fed the Desert", by T. Nuzhdzina "I Did not Die in Vain, I Have not Disappeared without a Trace...", by the writer I. Zharnasiek "Meetings, Conversations, Memories...", as well as many poems of Belarusian poets and former BSU graduates (p. 2-5).

L. Kaminskaya in her article "Holy Roses" writes about one of the most important and beautiful Catholic symbols, the queen of flowers – rose (p. 2-5).

Interpreter J. Semjonowa-Herzog offers to the readers the story "Goethe Visited Zaltsdalum Castle" by the German writer Herman Kott (p. 2-5).

In the column "Poetry" the readers will find the poems by V. Zhukovich and S. Paniznik (p. 2-5).

A. Valchuk acquaints readers with the translation of "Dyjariusz of Spanish travel from Vilnius to Valencia..." by Juwenalis Charkiewicz (p. 2-5).

In column "Presentations" we publish the review of L. Silnova "Human Efforts Bloom as Roses Again..." on the book "The Bird of Eternity" by poet M. Duksa (2015) (p. 2-5).

G. Serehan in her essay writes about the new book by K. Lialko "Before the Evening" (2016), and D. Bichel in her essay "Between Me and You - Dear God..." tells about the book by S. Varonik "The Mom's Tree" (2015) (p. 2-5).

## RESÜMEE

Die neue Nummer der Vierteljahreszeitschrift „Unser Glaube" beginnt mit einem Auszug aus dem Buch „Der Name Gottes ist Barmherzigkeit" in Form eines Interviews von Andrea Tornielli mit Papst Franziskus (aus dem Englischen übersetzt von J. Schedsjko) (S. 2-5).

Den Leserinnen und Lesern wird ein Auszug aus dem Vortrag des Erzbischofs Tadeusz Kondrusiewicz präsentiert, den er während des Nationalen eucharistischen Kongresses (Grodna, 25. Mai 2016) hielt, – „Die Wiedergeburt der Katholischen Kirche in Belarus als Gabe der Barmherzigkeit Gottes"(S. 2-5).

Fortgesetzt wird die Veröffentlichung des ersten Buches („Aktive Nacht der Sinne") des Traktates „Aufstieg auf den Berg Karmel" des heiligen Johannes vom Kreuz in der Übersetzung aus dem Spanischen von S. Greswi (S. 2-5).

Einem wichtigen Ereignis im Kontext des Jahres der Kultur gewidmet ist das Interview „Die Ausstellung der belarussischen Ikonen im Vatikan" von N. Ussawa mit dem Generaldirektor des Nationalen Kunstmuseums von Belarus U. Prakapzow und der Museumsmitarbeiterin A. Karpenka. Über die Geschichte und die künstlerischen Besonderheiten dieser Ikonen schreibt der Kunstwissenschaftler A. Jaraschewitsch im Artikel „Einheit in der Vielfalt" (S. 2-5).

Dem Schaffen des berühmten polnischen Schriftstellers und Nobelpreisträgers H. Sienkiewicz widmet sich anlässlich seines 170. Geburtstages der Artikel von J. Ljawonawa „Damit deine Seele erwacht…" (S. 2-5).

D. Bitschel macht im Essay „Mit Güte und reinem Herzen" die Leserinnen und Leser mit dem Werk des bekannten Bildhauers Kasimir Misjura aus Grodna bekannt (S. 2-5).

Ein bedeutender Teil der Materialien dieser Nummer ist dem Andenken an den letzten Volksdichter von Belarus, Nil Gilewitsch, gewidmet: der Artikel des Akademiemitgliedes R. Garezki „Kämpfer für Belarus und ein Freund von mir", der Artikel des Schriftstellers A. Lis „Dem Andenken an den Dichter als Bürger und Kämpfer", der Artikel von M. Skobla „Nil, der die Wüste belebte", der Artikel der Literaturwissenschaftlerin T. Nushdsina „Ich bin nicht verloren gegangen, nicht spurlos verschwunden…", der Artikel der Schriftstellerin I. Sharnasek „Treffen, Gespräche, Erinnerungen…" sowie viele Gedichte von belarussischen Poetinnen und Poeten und ehemaligen Absolventinnen und Absolventen der Belarussischen Staatlichen Universität (S. 2-5).

Über eine der wichtigsten und schönsten katholischen Symbole, die Königin der Blumen – die Rose – schreibt L. Kaminskaja im Artikel „Heilige Rosen" (S. 2-5).

Die Übersetzerin J. Semjonowa-Herzog bietet den Leserinnen und Lesern die Erzählung „Goethe besucht das Schloss Salzdahlum" des deutschen Schriftstellers G. O. Cott (S. 2-5).

Die Rubrik „Poesie" enthält Gedichte von W. Shukowitsch und S. Panisnik (S. 2-5).

A. Waltschuk macht die Leserinnen und Leser mit der eigenen Übersetzung des „Diariums der Spanienreise von Wilna in die Stadt Valencia..." von Juwenalij Charkewitsch bekannt (S. 2-5).

Die Rubrik „Auf dem Bücherregal" enthält die Rezension von L. Silnowa „Und die menschlichen Bemühungen erblühen wieder mit Rosen…" über das Buch „Vogel der Ewigkeit" (2015) von M. Duksa (S. 2-5).

Über das neue Buch von K. Lialko „Spätnachmittag" (2016) schreibt in der Rubrik „Präsentation" G. Sserehan, und D. Bitschel erzählt im Essay „Zwischen mir und dir – der liebe Gott…" über das Buch „Mutters Baum" (2015) von S. Waronik (S. 2-5).

## PODSUMOWANIE

Nowy numer kwartalnika „Nasza wiara" rozpoczynamy fragmentem z książki-wywiadu Andrea Tornielli z papieżem Franciszkiem „Miłosierdzie to imię Boga" (przekład z ang. J. Szedźko) (s. 2-5).

Uwadze czytelników proponujemy fragment z wykładu arcybiskupa Tadeusza Kondrusiewicza wygłoszonego na Krajowym Kongresie Eucharystycznym (Grodno, 25 maja 2016 r.) – „Odrodzenie Kościoła katolickiego na Białorusi darem Bożego Miłosierdzia" (s. 2-5).

Kontynuujemy publikację pierwszej księgi („Noc czynna zmysłów") traktatu św. Jana od Krzyża „Droga na Górę Karmel" w tłumaczeniu z języka hiszpańskiego S. Greswi (s. 2-5).

Wydarzeniom związanym z Rokiem kultury poświęcony jest wywiad N. Usowej z Dyrektorem Narodowego Muzeum Sztuki Białorusi U. Prokopcowem i pracownikiem muzeum A. Karpienką „Wystawa białoruskich obrazów w Watykanie". O historii i artystycznych cechach tych obrazów pisze znawca sztuki A. Jaroszewicz w artykule „Jedność w różnorodności" (s. 2-5).

Twórczości znakomitego polskiego pisarza, laureata nagrody Nobla, H. Sienkiewicza z okazji jego 170. rocznicy urodzin poświęcony został artykuł E. Liawonowej „Aby twoja dusza się obudziła…" (s. 2-5).

D. Biczel w eseju „Z radością i czystym sercem" zapoznaje czytelników z pracą znanego grodzieńskiego rzeźbiarza Kazimierza Misiury (s. 2-5).

Duża część materiałów tego wydania poświęcona została pamięci ostatniego narodowego poety Białorusi – Nila Gilewicza. Są to: artykuł R. Goreckiego „Wojownik za Białoruś i mój przyjaciel", pisarza A. Lisa „Pamięci poety-obywatela, wojownika", M. Skobły „Nil, który żywił pustynię", literaturoznawcy T. Nużdzinej „Ja na próżno nie zginę, nie zniknę bez śladu…", pisarki I. Żarnasiek „Spotkania, rozmowy, wspomnienia…", a także wiele wierszy białoruskich poetów i absolwentów Białoruskiego Państwowego Uniwersytetu (s. 2-5).

O jednym z najważniejszych i najpiękniejszych symboli katolickich, królowej kwiatów – róży, pisze Ł. Kamińska w artykule „Święte róże" (s. 2-5).

Tłumaczka A. Semjonowa-Herzog proponuje czytelnikom opowiadanie „Goethe odwiedza zamek Salzdahlum" niemieckiego pisarza G. O. Kotta (s. 2-5).

W rubryce „Poezja" zamieszczamy wiersze W. Żukowicza i S. Paniźnika (s. 2-5).

A. Walczuk zapoznaje czytelników ze swoim tłumaczeniem „Dyjariusz podróży hiszpańskiej: z Wilna do miasta Walencyi…" Juwenalisa Charkiewicza (s. 2-5).

W rubryce „Na półce z książkami" znajdziemy recenzję Ł. Silnowaj „A ludzkie wysiłki znów kwitną różami.." książki z poezją M. Duksy „Ptaszek wieczności" (2015) (s. 2-5).

O nowej książce K. Lialko „Odwieczerz" (2016) w rubryce „Prezentacja" pisze H. Sierechan, a D. Biczel w eseju "Między mną i Tobą – Boże…" opowiada o książce S. Waronik „Drzewa matki" (2015) (s. 2-5).

## SOMMARIO

Il nuovo numero della rivista trimestrale "Naša vera" inizia con il brano del libro-intervista con Papa Francesco "Il nome del Dio è Misericordia" (tradotto dall'inglese da J. Šedzko) fatto da Andrea Tornelli (p. 2-5).

All'attenzione dei lettori si sottopone anche un brano della relazione del arcivescovo Tadeuš Kandrusevič al Convegno Eucaristico Nazionale (Grodna, 25 maggio 2016) "La rinascita della Chiesa Cattolica in Bielorussia come un dono della Misericordia Divina" (p. 2-5).

Continua la pubblicazione del Libro Primo del trattato di San Giovanni della Croce «La salita al monte Carmelo» tradotto da spagnolo da S. Gresvi (p. 2-5).

L'intervista "L'esposizione delle icone bielorusse a Vaticano" presa da N. Usava al Direttore Generale del Museo Nazionale di Belle Arti della Repubblica di Belarus U. Prakapzou e alla collaboratrice del Museo A. Karpenka è dedicata a questo evento importante nel contesto dell'anno della cultura. Il critico d'arte A. Jaraševič scrive della storia e delle particolarità di queste icone nell'articolo "L'unità nella diversità" (p. 2-5).

E. Liavonava ha dedicato il suo articolo "Perche' si svegli l'anima tua…" all'attività creativa del celebre scrittore polacco, insignito del Premio Nobel, H. Sienkiewicz in occasione del 170 anni della sua nascita (p. 2-5).

D. Bičel nel saggio "Con bontà e cuore aperto" fa conoscere ai lettori le opere del famoso scultore di Grodna Kazimir Misiura (p. 2-5).

Gran parte dei materiali di questo numero è dedicata alla memoria dell'ultimo poeta insignito del titolo il "Poeta del popolo della Bielorussia" Nil Hilevič: articoli dell'Accademico R. Garezki "Combattente per la Bielorussia e mio amico", dello scrittore A. Lis "Alla memoria del poeta-cittadino, del combattente", di M. Slobla "Nil che teneva vivo il deserto", del critico di letteratura T. Nuždzina "Non sono caduto inutilmente ne sono sparito senza traccia…", della scrittrice I. Žarnasek "Incontri, conversazioni, ricordi…", nonché le poesie di molti poeti bielorussi e di ex studenti dell'Università Statale Bielorussa (p. 2-5).

L. Kaminskaya nell'articolo "Le rose sante" scrive di uno dei principali e belli simboli cattolici, la regina dei fiori, la rosa (p. 2-5).

La traduttrice J. Semjonowa-Herzog propone all'attenzione dei lettori il racconto "Goethe visita il castello di Salzdahlum" dello scrittore tedesco G. O. Kott (p. 2-5).

Nella rubrica *Poesia* sono collocate le opere di V. Žukovič e di S. Panisnik (p. 2-5).

A. Valčuk presenta ai lettori la sua traduzione del "Diario del viaggio spagnolo da Vilnia alla città di Valencia…" di Juvenalij Kharkevič (p. 2-5).

Nella rubrica *Nella libreria* si pubblica la recensione di L. Silnova "Ma gli sforzi umani di nuovo fioriscono con le rose…" del libro di poesie di M. Duksa "L'uccello dell'eternità" (2015) (p. 2-5).

Nella rubrica *Presentazione* G. Sierechan scrive del nuovo libro di K. Lialko "L'ora vespertina" (2016), invece D. Bičel racconta del libro di S. Varonik "L'albero della mamma" (2015) nel saggio "Tra me e te sta il Dio…" (p. 2-5).

---

На 1-й ст. вокладкі — Хармэнс ван Рэйн Рэмбрандт «Вяртанне марнатраўнага сына».


*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 2 (76)/2016.*

*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*

*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*

*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*

*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*

*Падпісаны да друку 21.06.2016 г. Фармат 60х84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 300 экз. Зак № 807.*

*Надрукавана ў ПУП «Джи энд Ди» Ліцэнзія № 02330/362 ад 06.05.2013.*

*Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, г. Мінск.*

